# ДАПАМОЖНІК

## ПА РЭГІСТРАЦЫІ І ДЗЕЙНАСЦІ АРГАНІЗАЦЫЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ:

### параўнальна-прававыя аспекты

# ЗМЕСТ




**Гэтая публікацыя была падрыхтавана камандай экспертаў Еўрапейскага Цэнтра Некамерцыйнага Права (ECNL) па замове Цэнтра прававой трансфармацыі і Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі.**

**Арыгінальная публікацыя падрыхтавана на англійскай мове з наступным перакладам на беларускую.**


***Папярэдняя заўвага:*** *Мэтай гэтага Дапаможніка не з'яўляецца прадстаўленне юрыдычных парад, але прадстаўленне зацікаўленым асобам інфармацыйных матэрыялаў. Усведамляючы, што заканадаўства для АГС змяняецца і інтэрпрэтацыя мясцовага заканадаўства можа адрозніваецца, ЕЦНП не мае адказнасці за любыя адрозненні або недакладнасці.*

## Для каго і для чаго гэтае выданне

Грамадзянская супольнасць — з’ява інтэрнацыянальная, якая даўно перакрочыла дзяржаўныя межы. З развіццём сродкаў камунікацыі ўвасобіліся ў жыццё глабальныя грамадскія кампаніі, імгненна ствараюцца міжнародныя кааліцыі, НДА хутка рэагуюць на рэпрэсіі супраць сваіх калег у іншых краінах акцыямі салідарнасці і падтрымкі.

Адной з праяў гэтай інтэрнацыяналізацыі сталася імкненне грамадскіх структур рэгістравацца як юрыдычная асоба ў краінах з больш выгодным падатковым ці грамадзянскім заканадаўствам альбо з больш бяспечным для грамадскай дзейнасці палітычным рэжымам.

Для Беларусі гэта тэма сталася асабліва актуальная ў апошняе дзесяцігоддзе. Складаны парадак рэгістрацыі НДА, забарона на дзейнасць без рэгістрацыі, суворыя абмежаванні на атрыманне замежнага фінансавання і, галоўнае, варожае стаўленне дзяржаўнай улады да любых праяў незалежнай грамадзянскай актыўнасці прымушаюць беларускія арганізацыі рэгістравацца ў іншых краінах. Колькасць беларускіх НДА, якія юрыдычна базуюцца ў замежжы, вымяраецца сотнямі — пераважна яны абіраюць краінамі базавання блізкія Літву і Польшчу, але таксама Швецыю, Украіну, Чэхію ды іншыя краіны.

Умовы ў еўрапейскіх краінах адносна рэгістрацыі некамерцыйных арганізацый хоць і вельмі розныя, але практычна паўсюль па ўсіх паказчыках лепей за беларускія.

Пры выбары краіны рэгістрацыі беларускія НДА кіруюцца як тэхнічнымі выгодамі (наяўнасць інфраструктуры для дзейнасці ў гэтай краіне, наяўнасць сталых партнёраў, палітычная падтрымка дзяржавы, простае транспартнае спалучэнне), так і юрыдычнымі аспектамі (магчымасць рэгістрацыі без сталага знаходжання заснавальнікаў на гэтай тэрыторыі, прастата працэдуры рэгістрацыі і неабходныя для яе выдаткі, магчымасць абыходзіцца без сталага офіснага памяшкання, рэжым падаткаабкладання ахвяраванняў ды арганізацыі бухгалтарскага ўліку, магчымасць удзелу ў кіраванні арганізацыяй замежных грамадзян).

Важна падкрэсліць, што ў дадзеным выпадку гаворка не ідзе пра тое, што арганізацыі з Беларусі з’язджаюць у выгнанне — не, яны працягваюць дзейнічаць для Беларусі, і іх актывісты ды лідэры, часцей за ўсё, пражываюць унутры Беларусі.

Што ж ім дае статус некамерцыйнай арганізацыі, зарэгістраванай за мяжой? Бо зарэгістраваць афіцыйнае прадстаўніцтва ўжо існуючай замежнай некамерцыйнай арганізацыі ў Беларусі каштуе вельмі дорага і ніколькі не прасцей за рэгістрацыю звычайнага аб’яднання.

Гэтае пытанне мае шмат прававых і практычных аспектаў.

З юрыдычнага пункту гледжання беларускі грамадзянін, калі ён з’яўляецца дырэктарам альбо сябрам замежнай арганізацыі, мае поўнае права выступаць ад імя гэтай арганізацыі. У беларускім заканадаўстве няма нормы, якая б забараняла ўступленне ў замежныя аб’яднанні.

Паводле агульнага правіла, наяўнасць замежнай рэгістрацыі дазваляе распаўсюджваць інфармацыю у Беларусі як пра арганізацыю замежную — і гэта, напрыклад,

здымае праблему публікацый у СМІ, якім забаронена пісаць пра незарэгістраваныя беларускія НДА. Гэта можа быць значным чыннікам, каб пазбегнуць маргіналізацыі НДА, якія ўлада імкнецца загнаць у падполле. У любым выпадку неправавы характар беларускай дзяржавы ўскладняе ацэнку выгодаў замежнай рэгістрацыі — але само жыццё сведчыць пра запатрабаванасць гэткага шляху.

Зрэшты, зарэгістраванае ў замежжы беларускае НДА мае магчымасць дзейнічаць як любы іншы нерэзідэнт на тэрыторыі Беларусі. Гэта азначае — уступаць у грамадзянска-прававыя адносіны, заключаць дамовы, у тым ліку арэндаваць памяшканні, праводзіць мерапрыемствы і канферэнцыі, аплачваць выраб прадукцыі альбо аказанне паслуг і г. д.

Каб палепшыць узровень інфармаванасці беларускіх арганізацый пра тыя ўмовы і магчымасці, якія дае рэгістрацыя за межамі Беларусі, Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый і Цэнтр прававой трансфармацыі звярнуліся да аўтарытэтнай арганізацыі Еўрапейскі цэнтр некамерцыйнага права з прапановай падрыхтаваць дапаможнік, у якім былі б выкладзеныя ўмовы стварэння НДА замежнымі грамадзянамі ў розных краінах Еўропы.

Стварэнне адмысловага дапаможніка для беларускіх НДА аб умовах і перавагах рэгістрацыі ў розных замежных краінах можа быць важным крокам для таго, каб выбар краіны базавання юрыдычнай асобы ў замежжы рабіўся свядома, з улікам усіх пераваг і абставін прававога характару.

Выкладзеныя ў гэтым дапаможніку прававыя і тэхнічныя звесткі пра ўмовы рэгістрацыі і дзейнасці НДА у васьмі краінах дазволяць беларускім арганізацыям, зыходзячы з іх планаў дзейнасці, абраць найбольш прыдатную краіну для сваёй рэгістрацыі.

***Юрый Чавусаў,*** *юрыст Асамблеі НДА Беларусі*

***Вольга Смалянка,*** *дырэктар Цэнтра прававой трансфармацыі*

# УВОДЗІНЫ

Права на свабоду аб’яднанняў з’яўляецца асноватворным правам чалавека, гарантаваным ключавымі міжнароднымі дамовамі, у асаблівасці арт. 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП), арт. 11 Еўрапейскай канзвенцыі аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод (ЕКПЧ). Было прынята некалькі міжнародных дакументаў і кіраўніцтваў па далейшым умацаванні ажыццяўлення гэтай свабоды на практыцы, у тым ліку Кіруючыя прынцыпы па свабодзе аб’яднанняў, прынятыя АБСЕ/БДІПЧ і Венецыянскай камісіяй у 2014 г. У гэтых дакументах падкрэсліваецца, што кожны чалавек мае права на свабоду аб’яднання без абмежаванняў, а таксама прапісана, што любыя абмежаванні дадзенага права павінны быць *«[...] прадугледжаны заканадаўствам і [...] неабходнымі ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай ці грамадскай бяспекі, грамадскага парадку, аховы здароўя і маральнасці насельніцтва ці абароны правоў і свабодаў іншых асобаў»*.

Свабода аб’яднанняў уключае, сярод іншага, наступныя асноўныя правы арганізацый грамадзянскай супольнасці (АГС):

1. ***Права на атрыманне статусу юрыдычнай асобы.*** Па жаданні арганізацыя павінна мець магчымасць атрымаць статус юрыдычнай асобы, і працэдура атрымання такога статусу павінна быць простай і хуткай.
2. ***Права свабоднага ажыццяўлення дзейнасці.*** Свабода аб’яднання ўключае свабоду заснавальнікаў і/ці членаў рэгуляваць унутранае кіраванне арганізацыяй і кіраваць яе дзейнасцю. Будучы незалежнымі, аўтаномнымі ўстановамі, АГС павінны мець шырокія паўнамоцтвы па рэгуляванні іх унутранай структуры і дзейнасці.
3. ***Права на пошук і атрыманне рэсурсаў.*** АГС павінны мець права шукаць і атрымліваць фінансаванне з законных крыніц, у тым ліку ад фізічных і юрыдычных асоб, а таксама мясцовых, нацыянальных і замежных урадаў.

У адпаведнасці з Кіруючымі прынцыпамі АБСЕ/БДІПЧ «*правасуб’ектнасць з’яўляецца перадумовай для атрымання аб’яднаннем правааздольнасці заключаць ад свайго імя дамовы, ажыццяўляць плацяжы за тавары і паслугі, мець уласныя актывы і маёмасць, а таксама прымаць прававыя меры для абароны правоў і інтарэсаў аб’яднанняў, нароўні з іншымі юрыдычнымі працэсамі, якія могуць быць неабходныя для дасягнення мэт аб’яднання*». У прыватнасці, набыццё правасуб’ектнасці неабходна, каб дзейнічаць як адзіная арганізацыя для дасягнення юрыдычных мэт. Такім чынам, вельмі важна, каб прававая база дазваляла арганізацыям, якія жадаюць мець

такія магчымасці, рэгістравацца без накладання якіх-небудзь складаных патрабаванняў.

Дапаможнік змяшчае параўнальную інфармацыю па рэгуляванні рэгістрацыі арганізацый грамадзянскай супольнасці, іх дзейнасці і доступу да рэсурсаў у асобных еўрапейскіх краінах. Інфармацыя была сабраная ў 2014–2015 гг. шляхам даследавання нарматыўна-прававых актаў адпаведных краін з наступнымі кансультацыямі з мясцовымі экспертамі.

Мы хацелі б падзякаваць нашым партнёрам, якія падтрымалі даследчыя намаганні ЕЦНП у падрыхтоўцы гэтага дапаможніка: некамерцыйнаму таварыству «Юрысты за грамадзянскую супольнасць», Расія; юрысту Кшыштафу Іздэбскаму, Польшча; Абаронцам грамадзянскіх правоў/Civil Rights Defenders, Швецыя; Аларі Раммо, Сетка эстонскіх некамерцыйных арганізацый/EMSL; Аўрэліі Алендрайтэ, Інстытут права НДА/NVO Teisės Institutas, Літва; Анастасіі Краснасільскай, эксперту Украінскага Незалежнага Цэнтра Палітычных Даследаванняў; Кацярыне Скудэры, інтэрну ЕЦНП.

***Івана Разенцвейгава, Ханна Асіповіч,***
*Еўрапейскі Цэнтр Некамерцыйнага Права*

# ЧЭХІЯ



## Агульная інфармацыя*

- Сталіца: Прага
- Насельніцтва: 10,52 млн.
- ВУП: 198,4 млрд. дал. ЗША

| Арганізацыйна-прававыя формы АГС і іх характарыстыкі | |
|---|---|
| ***Аб'яднанне*** | ***Фонд*** |
| • Агульная арганізацыйная форма, заснаваная 3 асобамі на прынцыпах членства, без крытэрыяў праваздольнасці для заснавальнікаў.<br>• Комплекснае прававое рэгуляванне, тым не менш шмат палажэнняў з'яўляюцца неабавязковымі. | • Агульная арганізацыйная форма без членства, створаная для збору фінансавых сродкаў на грамадска карысныя мэты, з патрабаваннем першапачатковага капіталу ў памеры 500 000 чэшскіх крон (18 230 еўра).<br>• Даволі складанае прававое рэгуляванне з празмернымі патрабаваннямі. |
| ***Мэтавы фонд*** | ***Установа*** |
| • Найпрасцейшая арганізацыйная форма без членства, без вызначанага першапачатковага капіталу, якая служыць, аднак, хутчэй, часовым, чым доўгатэрміновым мэтам. | • Арганізацыйная форма, якая спалучае характарыстыкі АГС з членствам і без членства.<br>• Абавязана браць удзел у прадстаўленні паслуг. |

## Прававое рэгуляванне АГС (асноўныя законы)

- Закон № 89/2012 Зб. Грамадзянскі кодэкс;
- Закон № 235/2004 Зб. «Аб ПДВ»;
- Закон № 586/1992 Зб. «Аб падаходным падатку»;
- Закон № 304/2013 Зб. «Аб дзяржаўных рэестрах юрыдычных і фізічных асоб».

* Крыніца: Сусветны банк, 2013.

# 1. Формы АГС і іх характарыстыкі

## Якія формы АГС існуюць? Якія іх асноўныя характарыстыкі?

Існуючыя формы АГС улучаюць: **аб’яднанне** (*Spolek*), **фонд** (*Nadace*), **мэтавы фонд** (*Nadační fond*) і **ўстанову** (*Ústav*). Для мэт гэтага дакумента мы разглядаем аб’яднанні і мэтавыя фонды.

## Ці існуюць якія-небудзь абмежаванні на дапушчальныя мэты і віды дзейнасці АГС?

***Аб’яднанне:*** Простая эканамічная дзейнасць з мэтай атрымання даходу не можа быць асноўным статутным відам дзейнасці, а толькі дадатковым. Акрамя таго, атрыманы даход можа выкарыстоўвацца выключна для падтрымання асноўнай статутнай дзейнасці або для сплаты бягучых выдаткаў.

***Мэтавы фонд:*** Фонды засноўваюцца толькі для сацыяльна або эканамічна карысных мэт.

Апроч таго, арт. 145 Грамадзянскага кодэкса прадугледжвае забарону на стварэнне юрыдычнай асобы, мэтай якой з’яўляецца парушэнне закона або дасягненне мэты незаконным чынам, асабліва калі яе мэтай з’яўляюцца:

a) адмова або абмежаванне асабістых, палітычных і іншых правоў асоб, іх нацыянальнасці, полу, расы, паходжання, палітычных ці іншых перакананняў, веравызнання і сацыяльнага статусу;

b) падбухторванне да нянавісці і нецярпімасці;

c) прапаганда гвалту;

d) кантроль дзяржаўнага органа або дзяржаўнага кіравання без законнага дазволу;

e) таксама забароненымі з’яўляюцца ўзброеныя юрыдычныя асобы або тыя, якія маюць узброеныя сілы.

# 2. Патрабаванні да заснавальнікаў АГС

## Якая мінімальная колькасць заснавальнікаў патрабуецца заканадаўствам?

***Аб’яднанне:*** 3.

***Мэтавы фонд:*** 1.

### Якія крытэрыі правамоцнасці заснавальнікаў? Ці могуць замежныя грамадзяне выступаць у якасці заснавальнікаў?

***Аб'яднанне:*** Адсутнічаюць пэўныя патрабаванні да кандыдатур заснавальнікаў. Любыя фізічныя і/ці юрыдычныя асобы могуць заснаваць аб'яднанне. У выпадку трох заснавальнікаў па меншай меры адзін павінен быць цалкам дзеяздольным.

***Мэтавы фонд:*** Любыя фізічныя і/ці юрыдычныя асобы могуць засноўваць мэтавыя фонды. Па меншай меры адзін заснавальнік павінен быць цалкам дзеяздольным.

### Ці існуюць якія-небудзь патрабаванні да заснавальнікаў у дачыненні да грашовых і неграшовых унёскаў?

***Аб'яднанне:*** Не.

***Мэтавы фонд:*** Сума ўнёску ўсталёўваецца заснавальнікамі ва ўстаноўчых дакументах.

## 3. Працэдура рэгістрацыі

### Які орган адказвае за рэгістрацыю?

***Аб'яднанне:*** Раённы суд, вызначаны на падставе афіцыйнага месцазнаходжання аб'яднання, ці Натарыус.

***Мэтавы фонд:*** Раённы суд, вызначаны на падставе афіцыйнага месцазнаходжання мэтавага фонду, ці Натарыус.

### Які памер рэгістрацыйнага збору?

***Аб'яднанне:*** 1000 чэшскіх крон (37 еўра).

***Мэтавы фонд:*** 2000 чэшскіх крон (73 еўра).

На студзень 2015 г. рэгістрацыйны збор за рэгістрацыю аб'яднанняў і мэтавых фондаў не спаганяецца да 30 чэрвеня 2016 г..

### Ці існуюць іншыя фінансавыя выдаткі на стварэнне АГС?

- Натарыяльныя выдаткі на афіцыйнае засведчанне подпісаў на пісьмовых дакументах (гл. ніжэй);
- магчымыя выдаткі на пераклад. Рэгістрацыйныя дакументы павінны быць пададзеныя на чэшскай мове.

## Колькі часу займае працэс рэгістрацыі?

***Аб'яднанне:*** Максімум 30 дзён. Пры адсутнасці адказу ад адказнага органа на працягу 30 дзён існуе прававая прэзумпцыя таго, што аб'яднанне зарэгістраванае.

***Мэтавы фонд:*** У адпаведнасці з заканадаўствам суд павінен вырашыць пытанне аб рэгістрацыі на працягу 5 дзён.

## Якія дакументы неабходныя для рэгістрацыі?

***Аб'яднанне:***

- *Статут*, змест якога вызначаны арт. 218 Грамадзянскага кодэкса. Поўная версія Статута павінна захоўвацца па афіцыйным месцы знаходжання аб'яднання;
- *пратакол сходу заснавальнікаў* з афіцыйна заверанымі подпісамі ўдзельнікаў сходу;
- *пісьмовае сведчанне законных прадстаўнікоў і членаў кантралюючых і іншых органаў аб'яднання пад прысягай* про тое, што яны выконваюць умовы, неабходныя для выканання імі сваіх функцый, а таксама пра тое, што яны далі згоду на рэгістрацыю аб'яднання (з афіцыйна заверанымі подпісамі);
- *пісьмовае пацвярджэнне ўласніка маёмасці* пра рэгістрацыю месцазнаходжання аб'яднання ў яго памяшканнях (з афіцыйна завераным подпісам);
- *заява на рэгістрацыю;*
- *маркі дзяржпошліны на суму рэгістрацыйнага ўнёску.*

***Мэтавы фонд:***

- *пісьмовае сведчанне законных прадстаўнікоў і членаў кантралюючых і іншых органаў аб'яднання пад прысягай* пра тое, што яны выконваюць умовы, неабходныя для выканання імі сваіх функцый, а таксама пра тое, што яны далі згоду на рэгістрацыю мэтавага фонду (з афіцыйна заверанымі подпісамі);
- *устаноўчы дакумент*, змест якога вызначаны арт. 396 Грамадзянскага кодэкса;
- *пацвярджэнне* выплаты першапачатковага ўнёску;
- *апавяшчэнне адміністратара першапачатковага ўнёску* аб кіраванні ўнёскам;
- *у выпадку калі заснавальнік з'яўляецца юрыдычнай асобай, заява аб арганізацыйна-прававой форме;*
- *пісьмовае пацвярджэнне ўласніка маёмасці* пра рэгістрацыю месцазнаходжання мэтавага фонду ў яго памяшканнях (з афіцыйна завераным подпісам);
- *выпіска з Зямельнага кадастру*, у якім знаходзіцца мэтавы фонд;

- *маркі дзяржпошліны на суму рэгістрацыйнага ўнёску.*

### Ці існуе магчымасць падачы заявы ў электроннай форме?

Так.

### Ці існуе патрабаванне пра наяўнасць офіса ў краіне? Ці ёсць якія-небудзь спецыяльныя патрабаванні ў сувязі з гэтым?

Так, патрабаванне аб наяўнасці офіса (юрыдычнага адрасу) існуе. Аднак ніякія дадатковыя патрабаванні не ўстаноўлены, за выключэннем пісьмовай згоды арэндадаўца памяшканняў. Офіс можа быць размешчаны ў любых памяшканнях, у тым ліку ў кватэрах.

### Ці існуюць дадатковыя рэгістрацыйныя патрабаванні?

Не.

### Ці існуюць дадатковыя адміністрацыйныя працэдуры, звязаныя з рэгістрацыяй?

Абедзвюм арганізацыям можа спатрэбіцца банкаўскі рахунак для правядзення якіх-небудзь гаспадарчых аперацый, хаця гэта наўпрост не прадугледжана заканадаўствам. Акрамя таго, мэтавы фонд павінен мець рахунак у банку, каб мець магчымасць кіраваць унёскамі і выплачваць іх бенефіцыярам, хаця гэта наўпрост не прадугледжана заканадаўствам.

### Якія прававыя падставы выкарыстоўваюцца для адмовы ў рэгістрацыі?

Ніжэй дадзеныя падставы для адмовы, прыдатныя да абедзвюх арганізацыйных форм:

1. Заява на рэгістрацыю падаецца асобай, якая не мае права падаваць заяву;
2. Заява пададзеная ў парушэнне ўсталяванага парадку;
3. Заява не ўтрымлівае ўсіх неабходных звестак;
4. Заява з’яўляецца няўцямнай ці невыразнай;
5. Да заявы не прыкладзеныя неабходныя дакументы;
6. Мэта арганізацыі не адпавядае арт. 145 Грамадзянскага кодэкса (гл. пытанне пра абмежаванні і дапушчальныя мэты дзейнасці арганізацыі).

Рэгіструючы орган тлумачыць у сваім рашэнні падставы для адмовы, кансультуе па пытанні ўнясення выпраўленняў і ўсталёўвае перыяд часу для падачы выпраўленай заяўкі.

## 4. Крыніцы фінансавання

### Якія існуюць магчымыя крыніцы фінансавання?

***Аб'яднанне:*** Даступныя крыніцы атрымання сродкаў уключаюць:

- дзяржаўнае фінансаванне (як на нацыянальным, так і на мясцовым узроўнях);
- ахвяраванні айчынных і замежных фізічных і юрыдычных асоб;
- членскія ўнёскі;
- фінансаванне з карпаратыўных фондаў і/ці фондаў мэтавага капіталу;
- даход ад гаспадарчай дзейнасці;
- міжнародныя механізмы фінансавання і механізмы фінансавання ЕС;
- даход ад паслуг і спадчыны.

***Мэтавы фонд:*** Арт. 398 Грамадзянскага кодэкса прадугледжвае, што магчымымі актывамі мэтавага фонду з'яўляюцца:

- унёскі заснавальнікаў і ахвяраванні фізічных і юрыдычных асоб;
- даход ад гаспадарчай дзейнасці. Аднак атрыманы даход можа выкарыстоўвацца выключна для дасягнення статутных мэт фонду.

Акрамя таго, мэтавыя фонды таксама маюць доступ да дзяржаўнага фінансавання (як на нацыянальным, так і на мясцовым узроўнях), а таксама да фінансавання, заснаванага на міжнародных механізмах і механізмах фінансавання ЕС.

### Якія абмежаванні на магчымыя крыніцы фінансавання?

***Аб'яднанне:*** Простая эканамічная дзейнасць з мэтай атрымання даходу не можа быць асноўным статутным відам дзейнасці, а толькі дадатковым. Акрамя таго, атрыманы даход можа выкарыстоўвацца выключна для падтрымання асноўнай статутнай дзейнасці або для сплаты бягучых выдаткаў.

***Мэтавы фонд:*** Мэтавы фонд можа браць удзел у эканамічнай дзейнасці. Аднак атрыманы даход можа выкарыстоўвацца выключна для дасягнення статутных мэт такога фонду. У адрозненне ад фондаў, мэтавыя фонды маюць права распараджацца сваімі актывамі, калі такое дзеянне па распараджэнні актывамі адпавядае статутным мэтам, а таксама мае права выкарыстоўваць актывы для ажыццяўлення спланаваных інвестыцый. Маёмасць мэтавага фонду не можа выкарыстоўвацца ў якасці забеспячэння фінансавых абавязальніцтваў (пазык).

## 5. Падатковы рэжым для АГС

### Які рэжым падаходнага падаткаабкладання для АГС?

АГС, зазвычай, вызваляюцца ад падаходнага падатку на гранты і ахвяраванні на статутную дзейнасць, а таксама ад падатку на даходы, атрыманыя ад статутнай дзейнасці, калі яны не ствараюць лішак сродкаў. Даход ад нестатутнай эканамічнай/камерцыйнай дзейнасці і лішак сродкаў, атрыманы ад іншых відаў дзейнасці, якая прыносіць даход, абкладаюцца падаткам па ільготнай стаўцы. Аб'яднанне або мэтавы фонд можа паменшыць падатковую базу на 30%, але не больш за 1 000 000 крон (36 500 еўра), калі атрыманы даход выкарыстоўваецца выключна для фінансавання статутнай дзейнасці. Даход ад здачы ў арэнду маёмасці, даходы ад камерцыйных аб'яў, даход у выглядзе працэнтаў і даход ад членскіх унёскаў падлягаюць абкладанню падаходным падаткам. У якасці выключэння аб'яднанні не выплачваюць падаходны падатак з членскіх унёскаў.

### Які рэжым выплаты ПДВ для АГС?

АГС абавязаны плаціць ПДВ на даход ад гаспадарчай дзейнасці, калі іх гадавы абарот перавышае 1 000 000 крон (36 500 еўра). Універсальная стаўка ПДВ складае 21%.

### Ці існуюць падатковыя ільготы для мясцовых ахвярадаўцаў?

Так, фізічныя і юрыдычныя асобы могуць адымаць ахвяраванні на агульную суму да 10% ад падаткаабкладаемага даходу (юрыдычныя асобы) і 15% (фізічныя асобы), пры ўмове, што прынамсі 2% ад падатковай базы былі перададзеныя ў якасці ахвяраванняў.

## 6. Абавязкі зарэгістраваных АГС

### Якія патрабаванні да справаздачнасці зарэгістраваных АГС?

Адсутнасць абавязку прадстаўляць штогадовую справаздачу ў органы ўлады.

### Ці маюць зарэгістраваныя АГС дадатковыя абавязкі?

АГС абавязаны зарэгістравацца ў якасці платніка ПДВ у адпаведным падатковым органе і падаць падатковую дэкларацыю па ПДВ, калі іх гадавы абарот ад гаспадарчай дзейнасці перавышае 1 000 000 крон (36 500 еўра).

Апроч таго, калі АГС атрымліваюць даход з крыніц, якія вызваляюцца ад выплаты падаходнага падатку, яны абавязаны прадставіць *дэкларацыю аб падаходным падатку.*

# 7. Унутранае кіраванне арганізацыяй

## Якія асноўныя патрабаванні, звязаныя з кіраваннем і ўнутранай структурай у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Аб’яднанне:*** Заканадаўства прадугледжвае шырокія паўнамоцтвы для аб’яднанняў у вызначэнні сваёй унутранай структуры і кіравання. Абавязковымі органамі аб’яднання з’яўляюцца:

- *орган, прадугледжаны Статутам.* Зазвычай, ён завецца Агульным сходам (індывідуальным або калектыўным); і
- *вышэйшы орган кіравання* аб’яднання.

Існуе магчымасць прыняць рашэнне аб тым, што орган, прадугледжаны Статутам, таксама выступае ў якасці вышэйшага органа кіравання. Іншымі органамі аб’яднання могуць быць: кантралюючы камітэт, арбітражная камісія ці іншыя органы, вызначаныя Статутам.

Вышэйшы орган абавязаны праводзіць сходы, прынамсі, адзін раз на год. Рашэнні прымаюцца альбо нарматыўнай большасцю галасоў, альбо абсалютнай большасцю (у выпадку прыняцця рашэнняў па ключавых пытаннях). Для прыняцця рашэнняў неабходна прысутнасць нарматыўнай большасці членаў арганізацыі.

***Мэтавы фонд:*** Двума асноўнымі органамі мэтавых фондаў з’яўляюцца Адміністрацыйная камісія, якая з’яўляецца статутным органам арганізацыі, які дзейнічае ад яе імя, а таксама Назіральны савет або кантралёр.

Паўнамоцтвы і абавязкі *Адміністрацыйнай камісіі* ўключаюць усе паўнамоцтвы і абавязкі, не дaручаныя наўпрост іншым органам мэтавага фонду ў адпаведнасці з заканадаўствам, устаноўчымі дакументамі або рашэннямі органа дзяржаўнай улады. У прыватнасці, яны ўлучаюць кіраванне актывамі і прыняцце рашэнняў па ўсіх пытаннях, звязаных з дзейнасцю мэтавага фонду. Адміністрацыйная камісія складаецца найменей з 3 членаў, якія могуць быць прадстаўлены як фізічнымі, так і юрыдычнымі асобамі. Для прыняцця рашэнняў на сходзе патрабуецца прысутнасць, прынамсі, нарматыўнай большасці. Рашэнні прымаюцца альбо стандартнай большасцю галасоў, альбо абсалютнай большасцю (у выпадку прыняцця рашэнняў па ключавых пытаннях).

*Назіральны савет* (мінімум 3 чальца) можа быць заменены адным *кантралёрам* у выпадку малых фондаў. І Назіральны савет, і кантралёр адказваюць за ажыццяўленне кантролю за дзейнасцю Адміністрацыйнай камісіі, кіраванне размеркаваннем унёскаў у мэтавы фонд, кантроль вядзення бухгалтарскага ўліку і падаванне заключэнняў па фінансавых пытаннях мэтавага фонду.

## Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да членаў кіруючых органаў?

Члены кіруючых органаў павінны быць старэйшыя за 18 гадоў і быць цалкам дзеяздольнымі. Калі статутная дзейнасць аб’яднання або мэтавага фонду звязана з моладдзю або асобамі без поўнай дзеяздольнасці, такія асобы могуць за-

ймаць пасады ў кіруючых органах, калі АГС не ўдзельнічаюць у эканамічнай дзейнасці.

Акрамя таго, член статутнага органа мэтавага фонду не можа быць членам Назіральнага савета, супрацоўнікам мэтавага фонду або асобай, зацікаўленай у мэтах дзейнасці фонду.

**Ці маюць замежныя грамадзяне права з'яўляцца членамі кіраўніцтва арганізацыі?**

***Аб'яднанне:*** Так.

***Мэтавы фонд:*** Так.

**Ці нясуць заснавальнікі і члены матэрыяльную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам?**

***Аб'яднанне:*** Не.

***Мэтавы фонд:*** Не.

## 8. Супрацоўнікі і члены арганізацыі

**Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да супрацоўнікаў і членаў АГС?**

Не.

**Ці існуе патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў арганізацыі?**

Не.

**Ці існуе патрабаванне наяўнасці бухгалтара?**

Абавязак наяўнасці бухгалтара адсутнічае, але існуе патрабаванне весці бухгалтарскі ўлік. Бухгалтарскі ўлік можа весціся на дагаворнай аснове нанятым бухгалтарам або бухгалтарскай кампаніяй.

## 9. Добраахвотны роспуск і ліквідацыя

### Якая працэдура ліквідацыі ў выпадку добраахвотнага роспуску АГС?

***Аб’яднанне:*** Вышэйшы орган кіравання прымае рашэнне аб добраахвотнай ліквідацыі аб’яднання. Пры наяўнасці якіх-небудзь астаткавых актываў або пазык аб’яднанне прызначае ліквідатара, які задавальняе патрабаванні крэдытораў і размяркоўвае маёмасць, якая засталася, у адпаведнасці з заканадаўствам. Астаткавыя актывы выкарыстоўваюцца ў адпаведнасці са Статутам. Калі гэта не ўяўляецца магчымым, ліквідатар прапануе актывы, што засталіся, аб’яднанню з аналагічнымі мэтамі (арт. 269–273 Грамадзянскага кодэкса).

Аб’яднанне можа таксама прыняць рашэнне аб зліцці і падзеле (арт. 274–302 Грамадзянскага кодэкса).

***Мэтавы фонд:*** У выпадку дасягнення мэты стварэння фонду, калі фонд быў створаны на пэўны прамежак часу або ўжо не ў стане ажыццяўляць свае статутныя мэты, Адміністрацыйная камісія (орган, прадугледжаны Статутам) мае права прыняць рашэнне аб роспуску і прызначыць ліквідатара. Працэдура ліквідацыі супадае з працэдурай, прадугледжанай для ўсіх юрыдычных асоб. Працягласць працэдуры шмат у чым залежыць ад астатніх актываў і патрабаванняў (арт. 187–209 Грамадзянскага кодэкса).

Мэтавы фонд можа быць распушчаны без ліквідацыі, шляхам зліцця або змены арганізацыйна-прававой формы.

# ЭСТОНІЯ



## Агульная інфармацыя*

- Сталіца: Таллінн
- Насельніцтва: 1,325 млн.
- ВУП: 24,88 млрд. дал. ЗША

## Арганізацыйна-прававыя формы АГС і іх характарыстыкі

### *Некамерцыйнае аб'яднанне*

- Агульная арганізацыйная форма, заснаваная не менш чым 2 асобамі на прынцыпах членства, без дадатковых патрабаванняў правамоцнасці заснавальнікаў.

### *Фонд*

- Агульная арганізацыйная форма без членства, без патрабавання першапачатковага капіталу. Можа быць распушчаная ў выпадку відавочнага недахопу актываў і малой верагоднасці іх набыцця ў бліжэйшай будучыні.

### *Дамова таварыства*

- Арганізацыйна-прававая форма без неабходнасці рэгістрацыі, а таксама без утварэння юрыдычнай асобы, рэгулюецца Законам «Аб абавязацельствах».
- Выкарыстоўваецца звычайна для мясцовых груп або гурткоў.
- Не мае права атрымліваць усе віды фінансавання. Тым не менш часам мае права падаваць заяўку на атрыманне дзяржаўнага фінансавання.

## Прававое рэгуляванне АГС (асноўныя законы)

- Закон «Аб некамерцыйных аб'яднаннях» ад 6 чэрвеня 1996 г.;
- Закон «Аб фондах» ад 15 лістапада 1995 г.;
- Закон «Аб абавязацельствах» ад 26 верасня 2001 г.

* Крыніца: Сусветны банк, 2013 г.

# 1. Формы АГС і іх характарыстыкі

### Якія формы АГС існуюць? Якія іх асноўныя характарыстыкі?

Існуючыя формы АГС уключаюць: **некамерцыйнае аб'яднанне** *(Mittetulundusühing)*, **фонд** *(Sihtasutus)* і **дамова таварыства** *(Seltsing)*. Для мэт гэтага дапаможніка пададзена інфармацыя пра некамерцыйныя аб'яднанні і фонды.

### Ці існуюць якія-небудзь абмежаванні на дапушчальныя мэты і віды дзейнасці АГС?

***Некамерцыйнае аб'яднанне:*** Пэўныя абмежаванні адсутнічаюць, за выключэннем абмежаванняў, якія ўзнікаюць у сувязі з некамерцыйным характарам аб'яднання: асноўнай мэтай дзейнасці не з'яўляецца атрыманне даходу ад эканамічнай дзейнасці, а атрыманы даход можа выкарыстоўвацца выключна для падтрымання асноўнай статутнай дзейнасці. Дадатковыя абмежаванні могуць быць прадугледжаны заканадаўствам.

***Фонд:*** Як і для некамерцыйных аб'яднанняў, не існуе ніякіх асаблівых абмежаванняў, за выключэннем абмежаванняў, што ўзнікаюць у сувязі з некамерцыйным характарам фонду. Дазваляюцца як грамадска карысныя, так і прыватныя мэты фонду.

# 2. Патрабаванні да заснавальнікаў АГС

### Якая мінімальная колькасць заснавальнікаў патрабуецца заканадаўствам?

***Некамерцыйнае аб'яднанне:*** 2.

***Фонд:*** 1.

### Якія крытэрыі правамоцнасці заснавальнікаў? Ці могуць замежныя грамадзяне выступаць у якасці заснавальнікаў?

Адсутнічаюць крытэрыі правамоцнасці. Заснавальнікамі некамерцыйных арганізацый і фондаў могуць быць як фізічныя, так і юрыдычныя асобы. Замежныя грамадзяне таксама могуць выступаць у якасці заснавальнікаў.

### Ці існуюць якія-небудзь патрабаванні да заснавальнікаў у дачыненні да грашовых і неграшовых унёскаў?

***Некамерцыйнае аб'яднанне:*** Не.

***Фонд:*** У адпаведнасці з заканадаўствам сума ўнёску вызначаецца заснавальнікамі ва ўстаноўчым дакуменце (рашэнні). Заснавальнікі таксама могуць прыняць рашэнне аб адсутнасці ўнёску.

## 3. Працэдура рэгістрацыі

### Які орган адказвае за рэгістрацыю?

Рэестр вядзецца Аддзелам рэгістрацыі Раённага суда г. Тарту (Рэгістратар). Некамерцыйнае аб'яднанне можа быць зарэгістравана онлайн з выкарыстаннем электроннага подпісу і/ці праз натарыуса. Фонды рэгіструюцца натарыусам.

### Які памер рэгістрацыйнага збору?

***Некамерцыйнае аб'яднанне:*** 20 еўра.

***Фонд:*** 58 еўра.

### Ці існуюць іншыя простыя фінансавыя выдаткі на стварэнне АГС?

- Натарыяльныя выдаткі на афіцыйнае завярэнне ўстаноўчых дакументаў і/ці заявы (хадайніцтва);
- выдаткі на натарыяльнае завярэнне/афіцыйнае завярэнне копій дакументаў, пададзеных рэгістратару.

### Колькі часу займае працэс рэгістрацыі?

Адпаведнае заканадаўства не прадугледжвае асаблівых часовых рамак для працэсу рэгістрацыі. На практыцы заяўка разглядаецца цягам парадку 5 працоўных дзён.

### Якія дакументы неабходныя для рэгістрацыі?

***Некамерцыйнае аб'яднанне:***

- *заява* (хадайніцтва), якая змяшчае інфармацыю, прадугледжаную арт. 10 Закона «Аб некамерцыйных аб'яднаннях», пададзеная і падпісаная ўсімі членамі кіраўніцтва і засведчаная натарыяльна;

- *устаноўчыя дакументы* (устаноўчы дакумент), змест якога рэгулюецца арт. 6 Закона «Аб некамерцыйных аб’яднаннях», падпісаныя ўсімі заснавальнікамі — складзеныя не раней 1 года да моманту рэгістрацыі;
- *Статут,* змест якога рэгулюецца арт. 7 Закона «Аб некамерцыйных аб’яднаннях», падпісаны ўсімі заснавальнікамі;
- *нумары для дыстанцыйнай сувязі (тэлефон, факсіміле і г. д.);*
- *іншыя дакументы, прадугледжаныя заканадаўствам.*

***Фонд:***

- *заява* (хадайніцтва), якая змяшчае інфармацыю, прадугледжаную арт. 14 Закона «Аб фондах», пададзеная і падпісаная ўсімі членамі кіраўніцтва і засведчаная натарыяльна;
- *устаноўчы дакумент* (рашэнне), змест якога рэгулюецца арт. 6 Закона «Аб фондах», падпісаны ўсімі заснавальнікамі і засведчаны натарыяльна. Заснаванне можа таксама абгрунтоўвацца натарыяльна заверанымм тэстаментам, які змяшчае такую ж інфармацыю і рашэнне фонду;
- *Статут* (Статут фонду) у пісьмовай форме. Змест Статута рэгулюецца арт. 8 Закона «Аб фондах». Статут падпісваецца ўсімі заснавальнікамі і завяраецца натарыяльна;
- *пацвярджэнне банка аб пераліку грошай фонду, абгрунтаванае рашэннем;*
- *нумары для дыстанцыйнай сувязі (тэлефон, факсіміле і г. д.);*
- *выпіс з зямельнага ці іншага рэестра* пры перадачы фонду нерухомай або рухомай маёмасці, якая падлягае рэгістрацыі;
- *іншыя дакументы, прадугледжаныя заканадаўствам.*

Усе пададзеныя дакументы павінны быць арыгіналамі альбо копіямі, засведчанымі натарыусам/засведчанымі афіцыйна. Афіцыйна засведчаныя копіі могуць быць пададзены ў электроннай форме, з электронным подпісам асобы, якая яго засведчвае, або з электроннай пячаткай органа, які яго засведчвае.

## ? Ці існуе магчымасць падачы заявы ў электроннай форме?

Так. Аднак фонды абавязаны падаваць заяву праз натарыуса.

## ? Ці існуе патрабаванне пра наяўнасць офіса ў краіне? Ці ёсць якія-небудзь спецыяльныя патрабаванні ў сувязі з гэтым?

***Некамерцыйнае аб’яднанне і Фонд:*** Не, патрабаванне аб наяўнасці памяшкання офіса адсутнічае. Заканадаўства прадугледжвае толькі наяўнасць адраса, з дапамогай якога магчыма звязацца з праўленнем.

### Ці існуюць дадатковыя рэгістрацыйныя патрабаванні?

***Некамерцыйнае аб’яднанне:*** Існуюць патрабаванні да назвы аб’яднання: (1) аб’яднанне мае адзіную назву; (2) назва павінна быць на эстонскай мове, з выкарыстаннем лацінскага алфавіта; (3) назва павінна суправаджацца дадаткам на эстонскай мове, які паказвае на тое, што дадзеная арганізацыя з’яўляецца аб’яднаннем асоб; (4) назва не павінна супярэчыць нормам маралі.

***Фонд:*** Патрабаванні да назвы фонду: (1) фонд мае адзіную назву; (2) назва павінна быць на эстонскай мове, з выкарыстаннем лацінскага алфавіта; (3) назва не павінна супярэчыць нормам маралі.

### Ці існуюць дадатковыя адміністрацыйныя працэдуры, злучаныя з рэгістрацыяй?

***Некамерцыйнае аб’яднанне:*** Не.

***Фонд:*** Адкрыццё банкаўскага рахунку, калі заснавальнікі пералічваюць грашовыя сродкі ў фонд.

### Якія прававыя падставы выкарыстоўваюцца для адмовы ў рэгістрацыі?

Рэгістратар адмаўляе ў рэгістрацыі ў выпадку неадпаведнасці ўстаноўчых дакументаў (рашэнняў), статутаў ці іншых дакументаў патрабаванням заканадаўства альбо ў выпадку падачы хадайніцтва ў рэестр па заканчэнні больш за адзін год з даты ўступа ўстаноўчых дакументаў у сілу. Рэгістратар суправаджае адмову тлумачэннем яе прычыны.

## 4. Крыніцы фінансавання

### Якія існуюць магчымыя крыніцы фінансавання?

Даступныя крыніцы атрымання сродкаў улучаюць:

- дзяржаўнае фінансаванне (як на нацыянальным, так і на мясцовым узроўнях);
- ахвяраванні айчынных і замежных фізічных і юрыдычных асоб;
- даход ад латарэй, дабрачынных імпрэз ці збору сродкаў;
- членскія ўнёскі;
- фінансаванне з карпаратыўных фондаў і/ці фондаў мэтавага капіталу;
- даходы ад гаспадарчай дзейнасці;
- міжнародныя механізмы фінансавання і механізмы фінансавання ЕС;
- даходы ад паслуг і спадчыны.

### Якія існуюць абмежаванні на магчымыя крыніцы фінансавання?

***Некамерцыйнае аб'яднанне:*** Эканамічная дзейнасць не можа быць асноўным статутным відам дзейнасці аб'яднання. Акрамя таго, атрыманы даход можа выкарыстоўвацца выключна для статутнай дзейнасці. Парушэнне гэтага патрабавання можа прывесці да роспуску аб'яднання па рашэнні суда.

***Фонд:*** Абмежаванні, прадугледжаныя арт. 2 Закона «Аб фондах». Абмежаванні, якія тычацца гаспадарчай дзейнасці, могуць быць прадугледжаны заканадаўствам. Фонд не мае права выдаваць крэдыты або забяспечваць крэдыты заснавальнікаў, членаў праўлення,Назіральнага савета ці іншых эканамічна зацікаўленых асоб. Даход можа выкарыстоўвацца толькі для дасягнення статутных мэт.

## 5. Падатковы рэжым для АГС

### Які рэжым падаходнага падаткаабкладання для АГС?

АГС, як і іншыя юрыдычныя асобы, вызваляюцца ад падатку на даходы, калі іх даход не размяркоўваецца, а выкарыстоўваецца для статутных мэт.

### Які рэжым выплаты ПДВ для АГС?

АГС вызваляюцца ад агульнага ПДВ па стаўцы 20%, калі гадавы абарот ад паставак падаткаабкладаемых тавараў або паслуг не перавышае 16 000 еўра. Пастаўка паслуг, якія некамерцыйнае аб'яднанне аказвае сваім членам бескаштоўна або за членскія ўнёскі, а таксама паслугі, якія некамерцыйнае аб'яднанне або фонд аказвае фізічным асобам, звязаным з выкарыстаннем спартыўных збудаванняў або спартыўнага інвентара, не абкладаюцца ПДВ.

### Ці існуюць падатковыя ільготы для мясцовых ахвярадаўцаў?

Так, для ахвяраванняў некамерцыйным аб'яднанням або фондам, якія маюць статус грамадска карысных. Для *індывідуальных ахвярадаўцаў* могуць адлічвацца ахвяраванні ў памеры да 5% ад агульнага даходу ахвярадаўцаў, але не больш за 1920 еўра. Для *карпаратыўных ахвярадаўцаў* агульная сума ахвяраванняў не можа перавышаць 3% плацяжоў, пералічаных на працягу года ў фонд заработнай платы, або 10% ад разліковага даходу за апошні фінансавы год.

## 6. Абавязкі зарэгістраваных АГС

### Якія патрабаванні да справаздачнасці зарэгістраваных АГС?

***Некамерцыйнае аб'яднанне:*** Абавязак падання штогадовай справаздачы па заканчэнні фінансавага года, нават калі аб'яднанне не ажыццяўляла эканамічнай дзейнасці. Пры наяўнасці ў некамерцыйнай арганізацыі аўдытара або Рэвізійнай камісіі справаздача мусіць прайсці аўдытарскую праверку. Справаздача зацвярджаецца Агульным сходам і падаецца рэгістратару ў электроннай форме. У выпадку непадачы справаздачы на працягу 6 месяцаў і на працягу дадатковага часу, паказанага рэгістратарам, аб'яднанне можа быць ліквідавана і выключана з рэестра (арт. 36 Закона «Аб некамерцыйных аб'яднаннях»).

***Фонд:*** Абавязак падачы штогадовай справаздачы па заканчэнні фінансавага года. Справаздача падлягае аўдыту, калі аўдыт з'яўляецца абавязковым у адпаведнасці з заканадаўствам (калі даходы або актывы перавышаюць 15 000 еўра), у адпаведнасці са Статутам або рашэннем Назіральнага савета. Справаздача зацвярджаецца Назіральным саветам на працягу 4 месяцаў і падаецца рэгістратару ў электроннай форме. У выпадку непрадстаўлення справаздачы на працягу 6 месяцаў і на працягу дадатковага часу, названага рэгістратарам, фонд можа быць ліквідаваны і выключаны з рэестра (арт. 3 Закона «Аб фондах»).

### Ці маюць зарэгістраваныя АГС дадатковыя абавязкі?

- Абавязак рэгістрацыі ў якасці плацельшчыка ПДВ, калі гадавы абарот ад пастаўкі падаткаабкладаемых тавараў або паслуг перавышае 16 000 еўра.
- Некамерцыйныя аб'яднанні і фонды, якія маюць статус грамадска карысных, дадаткова абавязаны падаваць справаздачу аб грамадска карыснай дзейнасці ў Падаткова-мытны дэпартамент.

## 7. Унутранае кіраванне арганізацыяй

### Якія асноўныя патрабаванні, звязаныя з кіраваннем і ўнутранай структурай у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Некамерцыйнае аб'яднанне:*** Органы некамерцыйнага аб'яднання:

a) *Агульны сход* членаў аб'яднання: вышэйшы орган, які кантралюе іншыя органы аб'яднання; прымае рашэнні па ўсіх пытаннях кіравання, за выключэннем пытанняў, якія ўваходзяць у кампетэнцыю праўлення ці іншых органаў аб'яднання. Паўнамоцтвы Агульнага сходу: унясенне змен у Статут, прызначэнне і спыненне паўнамоцтваў членаў праўлення, зацвярджэнне гадавых справаздач, прыняцце рашэнняў аб спыненні дзейнасці, зліцці або падзеле некамерцыйнага аб'яднання і інш. Рашэнні прымаюцца стандарт-

най большасцю галасоў ці абсалютнай большасцю (у выпадку ўнясення змен у Статут). Большасць галасоў у прапорцыі 9/10 патрабуецца для змены статутных мэт аб'яднання (арт. 18–25 Закона «Аб некамерцыйных аб'яднаннях»).

b) *праўленне:* кіруе аб'яднаннем і прадстаўляе яго. Праўленне можа складацца з аднаго члена (дырэктара) або быць калегіяльным органам. Члены праўлення прызначаюцца тэрмінам на 3 гады. Статутам можа быць прадугледжаны максімальны тэрмін у 5 гадоў. Кожны член праўлення мае права складаць угоды ад імя аб'яднання, калі іншае не прадугледжана законам. Праўленне мае права прымаць рашэнні пры ўмове прысутнасці на сходзе паловы яго членаў, калі іншае не прадугледжана Статутам (арт. 26–30 і арт. 32 Закона «Аб некамерцыйных аб'яднаннях»).

c) іншыя органы, вызначаныя Статутам для выканання канкрэтных задач (арт. 31 Закона «Аб некамерцыйных аб'яднаннях»).

***Фонд:*** Органы фонду:

a) *праўленне:* кіруе фондам і прадстаўляе яго, можа складацца з аднаго або некалькіх членаў. Праўленне выконвае свае задачы ў адпаведнасці з законнымі распараджэннямі Назіральнага савета. Кожны член праўлення мае права складаць угоды ад імя фонду, калі іншае не прадугледжана законам. На угоды, якія выходзяць за рамкі паўсядзённай гаспадарчай дзейнасці, патрабуецца згода Назіральнага савета (арт. 17–23 Закона «Аб фондах»).

b) *Назіральны савет:* складаецца мінімум з трох членаў. Плануе дзейнасць фонду, арганізуе кіраванне фондам і нагляд за яго дзейнасцю. Назіральны савет ухваляе згоды, якія выходзяць за рамкі паўсядзённай гаспадарчай дзейнасці (у адпаведнасці з п. 1 арт. 25 Закона «Аб фондах»). Назіральны савет мае права атрымліваць і запытваць у праўлення інфармацыю пра дзейнасць фонду. Пасяджэнні Назіральнага савета праводзяцца па меры неабходнасці, але не радзей чым раз на год. Пасяджэнні склікаюцца Старшынёй. Для прыняцця рашэнняў патрабуецца прысутнасць, па меншай меры, паловы членаў Назіральнага савета (арт. 24–32 Закона «Аб фондах»).

## ? Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да членаў кіруючых органаў?

***Некамерцыйнае аб'яднанне:*** Членамі праўлення з'яўляюцца цалкам дзеяздольныя фізічныя асобы. Асобы, якім рашэннем забаронена выступаць у якасці члена праўлення; асобы, якім забаронена ажыццяўляць дзейнасць, у якую ўцягнута некамерцыйнае аб'яднанне; або асобы, якім забаронена выступаць у якасці членаў праўлення на падставе заканадаўства або рашэння суда, не могуць з'яўляцца членамі праўлення. Член праўлення не можа быць рэвізорам (або членам Рэвізійнай камісіі пры наяўнасці некалькіх рэвізораў). Як найменей, палова членаў праўлення павінны быць рэзідэнтамі Эстоніі, іншай дзяржавы-члена Еўрапейскай эканамічнай прасторы альбо Швейцарыі.

***Фонд:*** У дадатак да патрабаванняў да кіруючых органаў аб’яднання член праўлення фонду не можа быць адначасова членам Назіральнага савета. Акрамя таго, у Статуце могуць быць вызначаны дадатковыя кваліфікацыйныя патрабаванні.

## Ці маюць замежныя грамадзяне права з’яўляцца членамі кіраўніцтва арганізацыі?

***Некамерцыйнае аб’яднанне і Фонд:*** Так, кваліфікацыйныя патрабаванні ў дачыненні да пастаяннага месцазнаходжання прымяняюцца толькі да членаў праўлення абедзвюх формаў АГС. Праўленне АГС у Эстоніі з’яўляецца выканаўчым органам/органам кіравання арганізацыі, а не Назіральным органам, які, як правіла, маецца на ўвазе пад тэрмінам «савет».

## Ці нясуць заснавальнікі і члены матэрыяльную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Некамерцыйнае аб’яднанне:*** Асобы, якія дзейнічаюць ад імя аб’яднання ў адпаведнасці з яго статусам, падлягаюць разнастайным правілам, якія датычацца адказнасці — да яго заснавання/да ўнясення запісу ў рэестр/пасля ўнясення запісу ў рэестр: (1) адказнасць заснавальнікаў і членаў праўлення пасля заснавання некамерцыйнага аб’яднання — *арт. 10 Закона «Аб некамерцыйных аб’яднаннях»;* (2) адказнасць асоб, якія склалі ўгоду да рэгістрацыі аб’яднання — *арт. 13 Закона «Аб некамерцыйных аб’яднаннях»;* (3) адказнасць члена праўлення ці іншага органа — *арт. 32 Закона «Аб некамерцыйных аб’яднаннях».*

***Фонд:*** (1) адказнасць заснавальнікаў, членаў праўлення і Назіральнага савета пасля заснавання фонду — *арт. 13 Закона «Аб фондах»;* (2) адказнасць члена праўлення — *арт. 32 Закона «Аб фондах»;* (3) адказнасць члена Назіральнага савета — *арт. 32 Закона «Аб фондах».*

Члены праўлення і Назіральнага савета выконваюць свае абавязкі з належнай стараннасцю, у адпаведнасці са звычайнымі чаканнямі для асоб, якія займаюць такія пасады. Яны нясуць салідарную адказнасць за шкоду, прычыненую арганізацыі.

## 8. Супрацоўнікі і члены арганізацыі

### Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да супрацоўнікаў і членаў АГС?

***Некамерцыйнае аб'яднанне:*** Патрабаванні да членаў аб'яднання мусяць быць прадугледжаны Статутам.

***Фонд:*** Не.

### Ці існуе патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў арганізацыі?

Не.

### Ці існуе патрабаванне наяўнасці бухгалтара?

Праўленне арганізуе бухгалтарскую справаздачнасць у адпаведнасці з Законам «Аб бухгалтарскай дзейнасці». Аднак абавязак наяўнасці штатнага бухгалтара для выканання гэтай задачы адсутнічае.

## 9. Добраахвотны роспуск і ліквідацыя

### Якая працэдура ліквідацыі ў выпадку добраахвотнага роспуску АГС?

***Некамерцыйнае аб'яднанне і Фонд:*** Некамерцыйныя аб'яднанні і фонды ліквідуюцца пасля іх роспуску, калі іншае не прадугледжана заканадаўствам. У працэсе ліквідацыі да імя арганізацыі дадаецца фраза «likvideerimisel» (у працэсе ліквідацыі). Калі іншае не прадугледжана Статутам або рашэннем Агульнага сходу (у выпадку некамерцыйнай арганізацыі), ліквідатарамі з'яўляюцца члены праўлення. Па меншай меры, палова ліквідатараў павінны быць рэзідэнтамі Эстоніі. Праўленне падае хадайніцтва аб унясенні першых ліквідатараў у рэестр.

***Працэдура ліквідацыі:***

- ліквідатары публікуюць абвестку аб ліквідацыі ў афіцыйным друкаваным органе *Ametlikud Teadaanded,* а таксама накіроўваюць абвестку аб ліквідацыі вядомым крэдыторам;
- крэдыторы могуць падаць свае патрабаванні на працягу двух месяцаў;
- у выпадку недастатковасці актываў некамерцыйнага аб'яднання/фонду, ліквідатары падаюць заяву аб банкруцтве;

- пасля задавальнення ўсіх патрабаванняў, тыя актывы, што засталіся, размяркоўваюцца сярод асоб, якія маюць права на атрыманне актываў у адпаведнасці са Статутам, а ліквідатар падае хадайніцтва аб выключэнні некамерцыйнага аб'яднання/фонду з рэестра.

Працэдура ліквідацыі некамерцыйнага аб'яднання вызначана ў арт. 42–54 Закона «Аб некамерцыйных аб'яднаннях». Працэдура ліквідацыі фонду вызначана ў арт. 48–59 Закона «Аб фондах».

У выпадку АГС, якая мае статус грамадска карыснай, актывы, якія засталіся пасля задавальнення патрабаванняў крэдытораў, павінны быць перададзены аб'яднанню, якое ўваходзіць у *спіс некамерцыйных аб'яднанняў і фондаў, якія атрымліваюць выгоду ад ільгот на падаходны падатак, альбо публічна-праваавым установам.*

# ЛІТВА



## Агульная інфармацыя*

- Сталіца: Вільнюс
- Насельніцтва: 2,956 млн.
- ВУП: 45,93 млрд. дал. ЗША

### Арганізацыйна-прававыя формы АГС і іх характарыстыкі

#### *Грамадскае аб’яднанне*

- Агульная арганізацыйная форма, заснаваная на членстве, абіраецца ў выпадку, калі чакаецца вялікая колькасць членаў альбо добраахвотнікаў, што маюць намерам дасягненне агульных мэт.
- Аб’яднанне таксама з’яўляецца пераважнай формай АГС, калі некалькі юрыдычных асоб маюць намерам дасягненне агульных мэт.

#### *Грамадская ўстанова*

- Спалучэнне арганізацыйнай формы з членствам і без членства, якое ажыццяўляе дзейнасць па аказанні паслуг грамадска карыснага характару.

#### *Дабрачынны і спонсарскі фонд*

- Форма, якая не мае членства, створаная для збору фінансавых сродкаў і іх пераразмеркавання ў адпаведнасці са статутнымі мэтамі.
- Больш значная роля заснавальніка або кіраўніка. Супрацоўнікі толькі выконваюць рашэнні.

### Прававое рэгуляванне АГС (асноўныя законы)

- Закон № IX-1969/2004 «Аб аб’яднаннях»
- Закон № I-1428/1996 «Аб грамадскіх установах»
- Закон № I-1232/1996 «Аб дабрачынных і спонсарскіх фондах»
- Закон № XII-717/2013 «Аб развіцці недзяржаўных арганізацый».

* Крыніца: Сусветны банк, 2013 г.

## 1. Формы АГС і іх характарыстыкі

### Якія формы АГС існуюць? Якія іх асноўныя характарыстыкі?

Існуючыя формы АГС уключаюць: **аб'яднанне** *(Asociacija),* **грамадскую ўстанову** *(Viešoji įstaiga),* а таксама **дабрачынныя** і **спонсарскія фонды** *(Labdaros ir paramos fondas),* пазначаныя вышэй. Для мэт гэтага дакумента мы вырашылі даць апісанне ўсіх наяўных арганізацыйна-прававых форм.

### Ці існуюць якія-небудзь абмежаванні на дапушчальныя мэты і віды дзейнасці АГС?

***Аб'яднанне:*** Мэтай аб'яднання, у адпаведнасці з заканадаўствам (арт. 3 Закона «Аб аб'яднаннях»), з'яўляецца каардынацыя дзейнасці яго членаў, прадстаўленне і абарона іх інтарэсаў, а таксама задавальненне іншых грамадскіх інтарэсаў. Аб'яднанне не мае права:

a) удзельнічаць у звяржэнні альбо гвалтоўной змене канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Літва ці парушэнні яе цэласнасці;

b) садзейнічаць ваенным і гвалтоўным дзеянням, падтрымцы аўтарытарнага або таталітарнага рэжыму, удзельнічаць у распальванні расавай, рэлігійнай, сацыяльнай варожасці, парушэнні правоў чалавека і іншых прававых свабод;

c) удзельнічаць у дзейнасці, якая супярэчыць заканадаўству Літоўскай Рэспублікі і агульнапрызнаным нормам міжнароднага права, выступаць у інтарэсах іншых краін, калі яны супярэчаць інтарэсам літоўскай дзяржавы.

***Дабрачынны і спонсарскі фонд:*** Дабрачынны і спонсарскі фонд (далей — «фонд») з'яўляецца публічнай юрыдычнай асобай з абмежаванай адказнасцю, створанай для збору сродкаў і іх пераразмеркавання асобам, якія жывуць у нястачы. Асноўнай мэтай фонду з'яўляецца аказанне дабрачыннай і/ці спонсарскай альбо іншай дапамогі, у адпаведнасці з Законам «Аб дабрачыннасці і спонсарстве» Літоўскай Рэспублікі (далей — Закон «Аб дабрачыннасці і спонсарстве»), у прыватнасці, у галіне навукі, адукацыі, культуры, мастацтва, рэлігіі, спорту, аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння і лячэння, абароны навакольнага асяроддзя і для іншых грамадска карысных мэт, без намеру атрымліваць прыбытак.

***Грамадская ўстанова:*** Грамадская ўстанова — гэта некамерцыйная юрыдычная асоба з абмежаванай адказнасцю, мэтай якой з'яўляецца задавальненне грамадскіх інтарэсаў у галіне адукацыі, прафесійнай падрыхтоўкі, навукі, культуры, здароўя, навакольнага асяроддзя і развіцця спорту, сацыяльнай або юрыдычнай дапамогі, а таксама іншыя грамадска карысныя пытанні. Дзейнасць грамадскай установы павінна ажыццяўляцца ў адпаведнасці з яе Статутам, Грамадзянскім кодэксам, іншымі законамі і заканадаўчымі актамі (арт. 2 Закона «Аб грамадскіх установах»).

## 2. Патрабаванні да заснавальнікаў АГС

**Якая мінімальная колькасць заснавальнікаў патрабуецца заканадаўствам?**

***Аб’яднанне:*** 3.

***Дабрачынны і спонсарскі фонд:*** 1.

***Грамадская ўстанова:*** 1.

**Якія крытэрыі правамоцнасці заснавальнікаў? Ці могуць замежныя грамадзяне выступаць у якасці заснавальнікаў?**

Адсутнічаюць патрабаванні да кандыдатур заснавальнікаў. Любыя фізічныя і/ці юрыдычныя асобы, незалежна ад краіны іх паходжання, могуць дзейнічаць у якасці заснавальнікаў.

**Ці існуюць якія-небудзь патрабаванні да заснавальнікаў у дачыненні да грашовых і неграшовых унёскаў?**

***Аб’яднанне:*** Не.

***Дабрачынны і спонсарскі фонд і Грамадская ўстанова:*** У адпаведнасці з заканадаўствам заснавальнікі павінны перадаць пэўную суму грошай ці пэўную колькасць неграшовых сродкаў у арганізацыю пасля яе заснавання. Дакладная сума не вызначана.

## 3. Працэдура рэгістрацыі

**Які орган адказвае за рэгістрацыю?**

Рэестр юрыдычных асоб, які з’яўляецца падраздзяленнем галоўнага рэгістрацыйнага органа, Рэгістрацыйнага цэнтра.

**Які памер рэгістрацыйнага збору?**

***Аб’яднанне і Дабрачынны і спонсарскі фонд:*** 26 еўра.

***Грамадская ўстанова:*** 31 еўра.

## Ці існуюць іншыя фінансавыя выдаткі на стварэнне АГС?

- *Натарыяльны збор* за засведчанне установчых дакументаў аб'яднання (43–130 еўра ў залежнасці ад колькасці заснавальнікаў); фонды вызваленыя ад выплаты дадзенага збору;
- *рэзерваванне назвы арганізацыі* — 16 еўра; не абавязкова, але вельмі рэкамендуецца, паколькі арганізацыі можа быць адмоўлена ў рэгістрацыі з-за невыканання правіл літоўскай мовы. У такім выпадку арганізацыя будзе вымушана паўторна аплаціць натарыяльныя выдаткі ў сувязі з унясеннем змен ва ўстаноўчыя дакументы.

## Колькі часу займае працэс рэгістрацыі?

Арт. 2.64 (3) Грамадзянскага кодэкса прадугледжвае, што пасля падачы дакументаў у Рэестр юрыдычных асоб і аплаты збораў рэгіструючы орган абавязаны зарэгістраваць арганізацыю на працягу 3 дзён. Тым не менш бываюць выпадкі, калі працэдура можа заняць да 6 месяцаў.

## Якія дакументы неабходныя для рэгістрацыі?

***Аб'яднанне:***

- *Статут*, змест якога рэгулюецца арт. 12 Закона «Аб аб'яднаннях»;
- *пратаколы ўстаноўчага сходу*, на якім прымаецца Статут і прызначаецца выканаўчы орган;
- *установчы акт*, змест якога рэгулюецца арт. 5 Закона «Аб аб'яднаннях»;
- *заява на рэгістрацыю;*
- *дазвол уласніка, калі памяшканні арганізацыі не належаць ні аднаму з яго заснавальнікаў;*
- *маркі дзяржпошліны або пацвярджэнне плацяжу;*
- *пацвярджэнне сапраўднасці дакументаў і доказ іх адпаведнасці нацыянальнаму заканадаўству.*

***Дабрачынны і спонсарскі фонд:***

- *Статут*, змест якога рэгулюецца арт. 14 Закона «Аб дабрачынных і спонсарскіх фондах»;
- *пратаколы ўстаноўчага сходу*, на якім прымаецца Статут і прызначаецца выканаўчы орган;
- *установчы акт* змест якога рэгулюецца арт. 5 Закона «Аб дабрачынных і спонсарскіх фондах»;
- *заява на рэгістрацыю;*
- *дазвол уласніка, калі памяшканні не належаць ні аднаму з яго заснавальнікаў;*

- *маркі дзяржпошліны або пацвярджэнне плацяжу;*
- *пацвярджэнне сапраўднасці дакументаў і доказ іх адпаведнасці нацыянальнаму заканадаўству.*

**Грамадская ўстанова:**

- *Статут,* змест якога рэгулюецца арт. 6 Закона «Аб грамадскіх установах»;
- *пратаколы ўстаноўчага сходу,* на якім прымаецца Статут і прызначаецца выканаўчы орган;
- *установчы акт,* змест якога рэгулюецца арт. 5 Закона «Аб грамадскіх установах»;
- *заява на рэгістрацыю;*
- *дазвол уласніка, калі памяшканні арганізацыі не належаць ні аднаму з яе заснавальнікаў;*
- *маркі дзяржпошліны або пацвярджэнне плацяжу;*
- *пацвярджэнне сапраўднасці дакументаў і доказ іх адпаведнасці нацыянальнаму заканадаўству.*

## ? Ці існуе магчымасць падачы заявы ў электроннай форме?

Так.

## ? Ці існуе патрабаванне пра наяўнасць офіса ў краіне? Ці ёсць якія-небудзь спецыяльныя патрабаванні ў сувязі з гэтым?

Арганізацыя абавязана мець офіс у Літве. Дазвол уласніка на рэгістрацыю офіса ў яго/яе памяшканнях павінен перадавацца натарыусу разам з усімі рэгістрацыйнымі дакументамі. Для рэгістрацыі офіса ў памяшканнях іншай юрыдычнай асобы, такой, як кампанія або муніцыпалітэт, дастаткова падпісанай згоды ўласніка (адсутнічае абавязак атрымання натарыяльнага дазволу).

## ? Ці існуюць дадатковыя рэгістрацыйныя патрабаванні?

Не.

## ? Ці існуюць дадатковыя адміністрацыйныя працэдуры, звязаныя з рэгістрацыяй?

**Аб’яднанне павінна:**

- атрымаць нумар падаткаплацельшчыка ў падатковым органе.

**Дабрачынны і спонсарскі фонд і Грамадская ўстанова павінны:**

- атрымаць нумар падаткаплацельшчыка ў падатковым органе;
- адкрыць банкаўскі рахунак у банку, які ажыццяўляе дзейнасць у Літве.

### Якія прававыя падставы выкарыстоўваюцца для адмовы ў рэгістрацыі?

Агульныя падставы для адмовы ў рэгістрацыі, прыдатныя да ўсіх юрыдычных асоб, прадугледжаны ў арт. 2.68 Грамадзянскага кодэкса:

- заяўка на рэгістрацыю не адпавядае тыпу юрыдычнай асобы альбо пададзеныя не ўсе дакументы, прадугледжаныя законам (гл. вышэй);
- установчыя дакументы не былі пададзеныя ў рэгіструючы орган на працягу 6 месяцаў з дня падрыхтоўкі. Пры адсутнасці іншых часовых рамак, прадугледжаных іншым заканадаўствам, такія дакументы лічацца несапраўднымі;
- дадзеныя і дакументы, прадстаўленыя ў рэгіструючы орган, не адпавядаюць адзін аднаму, з'яўляюцца расплывістымі або ўводзяць у зман;
- форма або змест дакументаў не адпавядаюць патрабаванням, прадугледжаным заканадаўствам.

Дадатковымі падставамі, прыдатнымі толькі да АГС, з'яўляюцца выпадкі, калі мэты арганізацыі не адпавядаюць мэтам, прадугледжаным для іх Законамі «Аб аб'яднаннях» і «Аб дабрачынных і спонсарскіх фондах».

## 4. Крыніцы фінансавання

### Якія існуюць магчымыя крыніцы фінансавання?

Даступныя крыніцы атрымання сродкаў уключаюць:

- дзяржаўнае фінансаванне (як на нацыянальным, так і на мясцовым узроўнях);
- ахвяраванні айчынных і замежных фізічных і юрыдычных асоб;
- членскія ўнёскі;
- фінансаванне з карпаратыўных фондаў і/ці фондаў мэтавага капіталу;
- даходы ад гаспадарчай дзейнасці;
- міжнародныя механізмы фінансавання і механізмы фінансавання ЕС;
- даходы ад паслуг і спадчыны.

Фізічныя асобы маюць права адлічваць 2% ад падаходнага падатку на зацверджаныя грамадска карысныя АГС.

### Якія абмежаванні на магчымыя крыніцы фінансавання?

Адсутнічаюць.

# 5. Падатковы рэжым для АГС

### Які рэжым падаходнага падаткаабкладання для АГС?

АГС, зазвычай, вызваляюцца ад выплаты падаходнага падатку ў сувязі з іх статутнай дзейнасцю. Да 7250 еўра даходу ад нестатутнай гаспадарчай дзейнасці не абкладаюцца падаткам. Любы даход, які перавышае 7250 еўра, абкладаецца падаткам па звычайнай стаўцы ў памеры 15%.

### Які рэжым выплаты ПДВ для АГС?

Сацыяльныя паслугі, паслугі ў галіне аховы здароўя, адукацыі, культуры і спорту, а таксама паслугі, якія прадстаўляюцца арганізацыямі грамадзянскай супольнасці сваім членам, і даходы, атрыманыя ў працэсе дабрачынных мерапрыемстваў, вызваляюцца ад выплаты ПДВ. Да астатніх відаў дзейнасці выкарыстоўваецца агульная стаўка ПДВ у памеры 21%.

### Ці існуюць падатковыя ільготы для мясцовых ахвярадаўцаў?

Так, але толькі для карпаратыўных донараў. Яны могуць адняць падвойную суму ахвяраванняў і да 40% ад падаткаабкладаемага даходу.

# 6. Абавязкі зарэгістраваных АГС

### Якія патрабаванні да справаздачнасці зарэгістраваных АГС?

***Аб'яднанне:***

- справаздача аб выкананай працы (разам з фінансавай справаздачай) штогод передаецца ў Рэестр юрыдычных асоб. Абавязковы змест справаздачы прадугледжаны арт. 10 (2) Закона «Аб аб'яднаннях».

***Дабрачынны і спонсарскі фонд:***

- справаздача аб выкананай працы (разам з фінансавай справаздачай) штогод передаецца ў Рэестр юрыдычных асоб. Абавязковы змест справаздачы прадугледжаны арт. 12 Закона «Аб дабрачынных і спонсарскіх фондах». У адпаведнасці з арт. 11 адпаведнага Закона, дабрачынныя і спонсарскія фонды таксама абавязаны праходзіць аўдыт і падлягаць унутранаму кантролю ў адпаведнасці са Статутам.

***Грамадская ўстанова:***

- справаздача аб выкананай працы (разам з фінансавай справаздачай) штогод передаецца ў Рэестр юрыдычных асоб. Абавязковы змест справаздачы прадугледжаны арт. 12 Закона «Аб грамадскіх ўстановах». У адпаведнасці з

рашэннем *Агульнага сходу ўдзельнікаў* праводзіцца аўдыт фінансавай справаздачы.

Фінансавая справаздача мае быць пададзена ў падатковыя органы і павінна змяшчаць:

- фінансавую дакументацыю;
- дэкларацыю (па форме PLN204N);
- справаздачу аб выкарыстанні фінансавых рэсурсаў на грамадска карысныя мэты альбо справаздачу ў апавядальнай форме пры адсутнасці якой-небудзь дзейнасці;
- дэкларацыю аб нерухомасці (па форме FR0572 v. 4);
- інфармацыю аб атрыманых ахвяраваннях і іх выкарыстанні.

### Ці маюць зарэгістраваныя АГС дадатковыя абавязкі?

Так, неабходна інфармаваць дзяржаўны орган, адказны за сацыяльныя пытанні, Савет Дзяржаўнага фонду сацыяльнага страхавання (СДФСС) аб усіх новых супрацоўніках, адпачынках па даглядзе за дзіцём, аб скасаванні дамоваў і г. д.

## 7. Унутранае кіраванне арганізацыяй

### Якія асноўныя патрабаванні, звязаныя з кіраваннем і ўнутранай структурай у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Аб'яднанне:*** Мае два абавязковыя органы кіравання:

a) *Агульны сход членаў аб'яднання* — вышэйшы орган аб'яднання; да яго кампетэнцыі адносяцца: абранне і прызначэнне членаў выканаўчага органа і іншых органаў, прыняцце рашэнняў аб унясенні змен ва ўстаноўчыя дакументы або рашэнняў аб рэарганізацыі аб'яднання, зацвярджэнне фінансавай справаздачы і г. д. (арт. 8 Закона «Аб аб'яднаннях»);

b) *выканаўчы орган* (калегіяльны або аднаасобны), для публічнага прадстаўлення аб'яднання, заключэння дагавораў з трэцімі асобамі, найму і звальнення супрацоўнікаў, членаў кіраўніцтва і іншых калегіяльных органаў (арт. 8 Закона «Аб аб'яднаннях»).

Іншыя органы, такія як *Рэвізійная камісія,* не з'яўляюцца абавязковымі. Іх правы і абавязкі вызначаюцца Статутам.

***Дабрачынны і спонсарскі фонд:*** Два абавязковыя органы кіравання:

a) *Агульны сход удзельнікаў фонду,* вышэйшы орган фонду; яго кампетэнцыя ўлучае: абранне і прызначэнне членаў Савета і выканаўчага органа, прыняцце рашэнняў аб унясенні змен ва ўстаноўчыя дакументы або рашэнняў

аб рэарганізацыі, зацвярджэнне гадавой фінансавай справаздачнасці і г. д. (арт. 8 Закона «Аб дабрачынных і спонсарскіх фондах»);

b) *выканаўчы орган* (калегіяльны або аднаасобны), дзейнічае ад імя фонду, падтрымлівае адносіны з іншымі асобамі, складае ўгоды ад імя фонду (арт. 8 Закона «Аб дабрачынных і спонсарскіх фондах»).

Назіральныя органы, *Савет* альбо *Рэвізійная камісія*, не з'яўляюцца абавязковымі.

***Грамадская ўстанова:*** Абавязковыя органы кіравання:

a) *Агульны сход удзельнікаў,* вышэйшы орган кіравання; яго кампетэнцыя ўключае: ўнясенне змяненняў у Статут, вызначэнне збораў і платы за паслугі, працу і вытворчасць, калі яны не вызначаюцца Урадам, прызначэнне і вызваленне ад пасады кіраўніка Адміністрацыі, зацвярджэнне фінансавай справаздачнасці і г. д. (арт. 10 Закона «Аб грамадскіх установах»);

b) *адміністрацыя;* арганізуе і ажыццяўляе дзейнасць грамадскай установы (арт. 10 Закона «Аб грамадскіх установах»).

Калегіяльна кіруючыя органы, такія як *Камітэт* або *Савет*, не з'яўляюцца абавязковымі.

Усе арганізацыі маюць права прымаць рашэнні аб колькасці сходаў іх органаў, але абавязаныя праводзіць такія сходы як найменей адзін раз у год. Арганізацыі вызначаюць працэдуру прыняцця рашэнняў. Як правіла, рашэнні прымаюцца ў адпаведнасці з папулярным мажарытарным прынцыпам. Аднак рашэнні аб рэарганізацыі ці ліквідацыі арганізацыі прымаюцца толькі 2/3 галасоў яе членаў.

## ? Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да членаў кіруючых органаў?

Усе члены кіруючых органаў павінны быць старэйшыя за 18 гадоў і цалкам дзеяздольныя.

## ? Ці маюць замежныя грамадзяне права з'яўляцца членамі кіраўніцтва арганізацыі?

Так.

## ? Ці нясуць заснавальнікі і члены матэрыяльную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам?

Толькі ў сувязі з наўмыснымі дзеяннямі супраць арганізацыі або ў выпадку парушэння прававых норм. Кожная арганізацыя (грамадская ўстанова, аб'яднанне, дабрачынны і спонсарскі фонд) мае свае ўласныя правілы. Такія правілы рэгулююць абавязкі кіруючых органаў. Акрамя таго, абавязкі кіруючых органаў рэгулююцца некаторымі законамі аб падаткаабкладанні.

## 8. Супрацоўнікі і члены арганізацыі

### Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да супрацоўнікаў і членаў АГС?

Усе супрацоўнікі і члены арганізацыі павінны быць старэйшыя за 18 гадоў і цалкам дзеяздольныя. Выключэннем з'яўляюцца дзіцячыя аб'яднанні: удзельнікі могуць быць маладзейшыя; дзецям маладзей за 14 гадоў неабходна мець пісьмовую згоду іх бацькоў або законных апекуноў.

### Ці існуе патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў арганізацыі?

Не.

### Ці існуе патрабаванне наяўнасці бухгалтара?

Не.

## 9. Добраахвотны роспуск і ліквідацыя

### Якая працэдура ліквідацыі ў выпадку добраахвотнага роспуску АГС?

У выпадку роспуску АГС кіруючы орган павінен прыняць рашэнне і перадаць яго ў Рэестр юрыдычных асоб. Працэдура ліквідацыі рэгулюецца ў адпаведнасці з Грамадзянскім кодэксам (арт. 2.70) і спецыяльным заканадаўствам, рэгулюючым кожную арганізацыйна-прававую форму.

***Аб'яднанне:*** У выпадку ліквідацыі аб'яднання ўсе яе астаткавыя актывы і фонды (пасля задавальнення ўсіх патрабаванняў крэдытораў у парадку, усталяваным заканадаўствам, а таксама патрабаванняў членаў аб'яднання ў дачыненні да часткі маёмасці, што не можа перавышаць першапачатковы ўнёсак члена ці членскага ўнёску) павінны да выключэння аб'яднання з Рэестра юрыдычных асоб перадацца іншай ці іншым публічным юрыдычным асобам, вызначаным на Агульным сходзе членаў аб'яднання або прызначаным судом, які прыняў рашэнне аб ліквідацыі аб'яднання (арт. 17 Закона «Аб аб'яднаннях»).

Акрамя агульных патрабаванняў, прадугледжаных Грамадзянскім кодэксам, ліквідатар павінен:

- публічна абвясціць аб ліквідацыі аб'яднання і перадаць у Рэестр юрыдычных асоб дакументы, якія пацвярджаюць прыняцце рашэння аб ліквідацыі аб'яднання, а таксама свае дадзеныя;
- скласці баланс на пачатак перыяду ліквідацыі;

- перадаць тыя актывы аб’яднання, што засталіся, у адпаведнасці з працэдурай, прадугледжанай гэтым Законам;
- скласці акт аб ліквідацыі аб’яднання, які апісвае працэс ліквідацыі і пацвярджае здзяйсненне ўсіх ліквідацыйных дзеянняў;
- перадаць дакументы на захоўванне ў адпаведнасці з працэдурай, прадугледжанай Законам «Аб архівах»;
- падаць кіраўніку Рэестра юрыдычных асоб акт аб ліквідацыі аб’яднання і іншыя дакументы, неабходныя для выключэння аб’яднання з Рэестра.

***Дабрачынны і спонсарскі фонд:*** Закон «Аб дабрачынных і спонсарскіх фондах» спасылаецца на працэдуру, прадугледжаную Грамадзянскім кодэксам. Акрамя таго, у дадзеным выпадку ўжываюцца ўмовы, прадугледжаныя для ліквідатараў у Законе «Аб аб’яднаннях».

***Грамадская ўстанова:*** У тым выпадку, калі грамадская ўстанова прымае рашэнне аб ліквідацыі, Агульны сход прызначае ліквідатара. З дня ўступа прызначэння ліквідатара ў сілу іншыя органы грамадскай установы страчваюць свае паўнамоцтвы. Паведамленне аб ліквідацыі грамадскай установы публікуецца тры разы, з інтэрвалам не менш за 30 дзён, альбо накіроўваецца ў пісьмовай форме ўсім грамадскім установам. Яно павінна ўтрымліваць інфармацыю, прадугледжаную арт. 17 (8) Закона «Аб грамадскіх установах». Правы і абавязкі ліквідатара выкладзеныя ў арт. 18 дадзенага Закона.

*Падрабязнасці пра рэгістрацыю*
*і адміністраванне АГС ў Літве*
*можна даведацца на сайце www.ngoin.lt*

# ПОЛЬШЧА



## Агульная інфармацыя*

- Сталіца: Варшава
- Насельніцтва: 38,5 млн.
- ВУП: 525,9 млрд. дал. ЗША

## Арганізацыйна-прававыя формы АГС і іх характарыстыкі

| *Аб’яднанне* | *Фонд* |
|---|---|
| • Агульная арганізацыйная форма, заснаваная на членстве. Засноўваецца як найменей 15 дзеяздольнымі грамадзянамі Польшчы. Простае (або незарэгістраванае) аб’яднанне з’яўляецца арганізацыяй, заснаванай на спрошчаным членстве, што засноўваецца як найменей 3 асобамі без правасуб’ектнасці. | • Агульная арганізацыйная форма без членства, якая ствараецца для збору фінансавых сродкаў. Першапачатковы капітал у памеры 1000 польскіх злотых (248 еўра) патрабуецца толькі ў тым выпадку, калі фонд плануе ажыццяўляць гаспадарчую дзейнасць. |

## Прававое рэгуляванне АГС (асноўныя законы)

- Закон «Аб аб’яднаннях» ад 7 красавіка 1989 г.;
- Закон «Аб фондах» ад 6 красавіка 1984 г.;
- Закон «Аб сацыяльным забеспячэнні і добраахвотнай працы» ад 24 красавіка 2003 г.;
- Закон «Аб гаспадарчай дзейнасці» ад 21 жніўня 2004 г.;
- Закон «Аб падатку на даходы карпарацый»;
- Закон «Аб ПДВ».

* Крыніца: Сусветны банк, 2013 г.

# 1. Формы АГС і іх характарыстыкі

## Якія формы АГС існуюць? Якія іх асноўныя характарыстыкі?

Існуючыя формы АГС уключаюць: **аб'яднанне** *(stowarzyszenia)* з магчымасцю заснавання **«простага аб'яднання»** і **фонд** *(fundacje)*. У гэтым дапаможніку будзе прадстаўлена інфармацыя пра аб'яднанні і фонды.

## Ці існуюць якія-небудзь абмежаванні на дапушчальныя мэты і віды дзейнасці АГС?

***Аб'яднанне:*** Аб'яднанне мае права самастойна вызначаць свае мэты і віды дзейнасці. Абмежаванні на свабоду аб'яднання могуць быць накладзеныя іншымі законамі, калі такія абмежаванні неабходныя для абароны нацыянальнай бяспекі або грамадскага парадку альбо для абароны грамадскага здароўя, маральнасці або правоў і свабод іншых асоб.

***Фонд:*** Фонды могуць утварацца для сацыяльна або эканамічна карысных мэт, адпаведных агульным інтарэсам Рэспублікі Польшча. Такія мэты могуць уключаць ахову здароўя, развіццё эканомікі і навукі, адукацыі, пісьменнасці, культуры, мастацтва, сацыяльныя паслугі, ахову навакольнага асяроддзя і абарону гістарычных помнікаў.

Акрамя таго, аб'яднанні і фонды могуць атрымаць статус грамадска карысных пры выкананні ўмоў, прадугледжаных Законам «Аб сацыяльным забеспячэнні і добраахвотнай працы». Існуюць абмежаванні на дазволеныя віды дзейнасці для АГС, якія маюць статус грамадска карысных. Такія арганізацыі ажыццяўляюць дзейнасць на карысць грамадскасці і грамадства ў рамках публічна пастаўленых задач, пералічаных у арт. 4 Закона «Аб сацыяльным забеспячэнні і добраахвотнай працы». З іншага боку, такі статус надае розныя перавагі.

# 2. Патрабаванні да заснавальнікаў АГС

## Якая мінімальная колькасць заснавальнікаў патрабуецца заканадаўствам?

***Аб'яднанне:*** 15.

***Фонд:*** 1.

## Якія крытэрыі правамоцнасці заснавальнікаў? Ці могуць замежныя грамадзяне выступаць у якасці заснавальнікаў?

***Аб'яднанне:*** Аб'яднанні могуць утварацца фізічнымі асобамі цалкам дзеяздольнымі: грамадзянамі Польшчы і замежнымі грамадзянамі, якія пражываюць у Поль-

шчы. Юрыдычныя асобы могуць быць толькі членамі, якія падтрымліваюць аб'яднанне. Аднак юрыдычныя асобы (г. зн. аб'яднанні або фонды) могуць стварыць Саюз або Федэрацыю і ажыццяўляць дзейнасць на такіх жа прававых падставах, што і аб'яднанне.

***Фонд:*** Любая фізічная і/ці юрыдычная асоба мае права заснаваць фонд, незалежна ад яе грамадзянства або месца знаходжання. Як найменей адна фізічная асоба павінна быць цалкам дзеяздольнай.

### Ці існуюць якія-небудзь патрабаванні да заснавальнікаў у дачыненні да грашовых і неграшовых унёскаў?

***Аб'яднанне:*** Не.

***Фонд:*** Заканадаўства не прадугледжвае канкрэтную суму. Аднак, паколькі фонды ствараюцца для збору сродкаў і іх пераразмеркавання ў адпаведнасці са статутнымі мэтамі фонду, традыцыйна існуе некаторы пачатковы капітал, узгоднены заснавальнікамі. Першапачатковы капітал у памеры 1000 польскіх злотых (240 еўра) усталяваны для фондаў, якія плануюць ажыццяўляць гаспадарчую дзейнасць.

## 3. Працэдура рэгістрацыі

### Які орган адказвае за рэгістрацыю?

***Аб'яднанне і Фонд:*** Нацыянальны судовы рэестр, вызначаны месцазнаходжаннем галаўнога офіса арганізацыі.

### Які памер рэгістрацыйнага збору?

***Аб'яднанне:*** Аб'яднанні вызваляюцца ад рэгістрацыйнага ўнёску. Яны абавязаны аплачваць толькі змену рэгістрацыі ў памеры 150 польскіх злотых (36 еўра) і зняцце з уліку ў памеры 300 польскіх злотых (72 еўра).

***Фонд:*** Фонд абавязаны аплачваць 250 польскіх злотых (60 еўра) за ўнясенне ў рэестр, 150 польскіх злотых (36 еўра) за змену рэгістрацыі і 300 польскіх злотых (72 еўра) за зняцце з уліку.

***Арганізацыі, якія маюць статус грамадска карысных,*** вызваляюцца ад выплаты дзяржпошліны і судовых выдаткаў, звязаных з рэгістрацыяй і дзейнасцю арганізацыі.

## Ці існуюць іншыя фінансавыя выдаткі на стварэнне АГС?

***Аб'яднанне і Фонд:*** У выпадку калі арганізацыя мае намер ажыццяўляць гаспадарчую дзейнасць, яна абавязана зарэгістравацца ў Нацыянальным судовым рэестры. Кошт такой рэгістрацыі складае 600 польскіх злотых (144 еўра).

Апроч таго, фонд абавязаны аплаціць натарыяльнае завярэнне. Натарыяльная пошліна вызначаецца ў адпаведнасці з памерам першапачатковага капіталу фонду.

## Колькі часу займае працэс рэгістрацыі?

***Аб'яднанне і фонд:*** Суд апрацоўвае заяўку на працягу 7 дзён з дня яе падачы. У выпадку аб'яднанняў тэрмін рэгістрацыі падоўжаны да 3 месяцаў у сувязі з удзелам мясцовых органаў улады ў працэсе рэгістрацыі.

## Якія дакументы неабходныя для рэгістрацыі?

Усе формы размешчаны на афіцыйным сайце Міністэрства юстыцыі.

Усе дакументы, якія падаюцца ў рэгіструючы орган, павінны быць арыгіналамі або натарыяльна засведчанымі копіямі.

***Аб'яднанне:***

- *Статут,* падпісаны ўстаноўчым камітэтам, змест якога рэгулюецца арт. 10 Закона «Аб аб'яднаннях» (2 экзэмпляры);
- *спіс заснавальнікаў,* які ўключае імя, прозвішча, дату і месца нараджэння, актуальны адрас і подпіс кожнага заснавальніка (2 экзэмпляры);
- *пратакол сходу ўстаноўчага камітэта,* падпісаны старшынёй і сакратаром сходу (2 экзэмпляры);
- *пісьмовая згода (дазвол) асобы/асоб,* прызначаных на пасаду праўлення;
- *хадайніцтва аб рэгістрацыі* (заява).

Акрамя таго, калі аб'яднанне жадае ўдзельнічаць у гаспадарчай дзейнасці, яно таксама абавязана падаць: *доказ аплаты заявы аб унясенні ў рэестр кампаній і доказ аплаты за апавяшчэнне Гаспадарчага суда.*

***Фонд:***

- *дэкларацыя аб стварэнні фонду* (натарыяльны акт) — 1 экзэмпляр;
- *заява з указаннем кампетэнтнага міністра, які ажыццяўляе нагляд,* калі ён не быў уключаны ў дэкларацыю аб стварэнні — 1 экзэмпляр;
- *рашэнне аб прызначэнні кіруючых органаў,* якое стварае апякунскі савет і Савет фонду — 1 экзэмпляр;
- *Статут,* падпісаны заснавальнікам — 3 экзэмпляры;
- *доказ аплаты рэгістрацыйнага збору;*

- *пісьмовая згода (дазвол)* асобы/асоб, прызначаных на пасаду праўлення;
- *хадайніцтва аб рэгістрацыі* (заява).

### Ці існуе магчымасць падачы заявы ў электроннай форме?

***Аб'яднанне і Фонд:*** Так, пры наяўнасці электроннага подпісу.

### Ці існуе патрабаванне пра наяўнасць офіса ў краіне? Ці ёсць якія-небудзь спецыяльныя патрабаванні ў сувязі з гэтым?

***Аб'яднанне і Фонд:*** Існуе абавязак наяўнасці паштовага адрасу пры наяўнасці дакумента, пададзенага ўласнікам, які пацвярджае права на выкарыстанне памяшкання. Наяўнасць паштовага адрасу з'яўляецца абавязковай умовай для атрымання ідэнтыфікацыйнага нумара падаткаплацельшчыка.

### Ці існуюць дадатковыя рэгістрацыйныя патрабаванні?

***Аб'яднанне і Фонд:*** Абедзве арганізацыі абавязаны мець банкаўскі рахунак для ажыццяўлення якіх-небудзь гаспадарчых аперацый, хоць дадзенае патрабаванне відавочна не прадугледжана заканадаўствам. Акрамя таго, адкрыццё рахунку ў банку неабходна пры падачы заяўкі на атрыманне ідэнтыфікацыйнага нумара падаткаплацельшчыка.

### Ці існуюць дадатковыя адміністрацыйныя працэдуры, звязаныя з рэгістрацыяй?

- Пасля рэгістрацыі арганізацыя аўтаматычна атрымлівае ідэнтыфікацыйны нумар REGON *(Numer identyfikacyjny REGON)* і ідэнтыфікацыйны нумар падаткаплацельшчыка *(Numer identyfikacji podatkowej NIP);*
- на працягу 21 дня з моманту рэгістрацыі арганізацыя абавязаная падаць заяўку з дадатковымі дадзенымі ў падатковыя органы;
- калі аб'яднанне або фонд жадаюць ўдзельнічаць у гаспадарчай дзейнасці, яны абавязаны зарэгістравацца ў Рэестры кампаній і паведаміць у Нацыянальны судовы рэестр;
- абедзвюм арганізацыям можа спатрэбіцца банкаўскі рахунак для ажыццяўлення якіх-небудзь гаспадарчых аперацый, хоць дадзенае патрабаванне відавочна не прадугледжана заканадаўствам.

### Якія прававыя падставы выкарыстоўваюцца для адмовы ў рэгістрацыі?

***Аб'яднанне і Фонд:*** Рэгіструючы орган адмаўляе ў рэгістрацыі, калі Статут або мэты арганізацыі не адпавядаюць заканадаўству.

## 4. Крыніцы фінансавання

### Якія існуюць магчымыя крыніцы фінансавання?

***Аб'яднанне:*** У арт. 33–35 Закона «Аб аб'яднаннях» пералічваюцца наступныя магчымыя крыніцы даходаў:

- членскія ўнёскі;
- ахвяраванні;
- спадчына;
- віды дзейнасці, якія прыносяць даход;
- даход ад здачы ў арэнду маёмасці аб'яднання;
- даходы ад грамадскай шчодрасці;
- гаспадарчая дзейнасць;
- гранты.

***Фонд:*** Даступныя крыніцы атрымання сродкаў уключаюць:

- дзяржаўнае фінансаванне (як на нацыянальным, так і на мясцовым узроўнях);
- ахвяраванні айчынных і замежных фізічных і юрыдычных асоб;
- фінансаванне з карпаратыўных фондаў і/ці фондаў мэтавага капіталу;
- даход ад гаспадарчай дзейнасці;
- міжнародныя механізмы фінансавання і механізмы фінансавання ЕС;
- даходы ад паслуг і спадчыны.

Акрамя таго, ***грамадска карысныя АГС*** могуць атрымліваць фінансаванне ад 1% *механізму падатковага прызначэння* (1% падаходнага падатку, пералічаны асобнымі падаткаплацельшчыкамі).

### Якія існуюць абмежаванні на магчымыя крыніцы фінансавання?

***Аб'яднанне:*** Аб'яднанне мае права ўдзельнічаць у гаспадарчай дзейнасці, аднак даход павінен быць накіраваны на ажыццяўленне статутных мэт і не можа размяркоўвацца паміж членамі аб'яднання.

***Фонд:*** Фонд мае права ўдзельнічаць у гаспадарчай дзейнасці, накіраванай на дасягненне мэт фонду.

Польшча

## 5. Падатковы рэжым для АГС

### Які рэжым падаходнага падаткаабкладання для АГС?

Рэжым абкладання падаходным падаткам вызначаецца на аснове прызначэння даходу/мэтавага выкарыстання актываў. Падаткам не абкладаецца даход, накіраваны на мэты, пералічаныя ў арт. 24 (1) Закона «Аб сацыяльным забеспячэнні і добраахвотнай працы». Акрамя таго, ад падаходнага падатку вызваляюцца арганізацыі, статутныя мэты якіх пералічаны ў арт. 17 (1), (4), (5) Закона «Аб падатку на даходы карпарацый». Іншы даход абкладаецца падаткам па агульнай стаўцы 19%. АГС не абкладаюцца падаткам на спадчыну і ахвяраванні.

### Які рэжым выплаты ПДВ для АГС?

Некаторыя тавары і паслугі не абкладаюцца ПДВ. Поўны спіс такіх тавараў і паслуг прадугледжаны арт. 43 Закона «Аб ПДВ». Тавары/паслугі, не ўключаныя ў спіс, абкладаюцца ПДВ. Гранты, якія надаюцца АГС для дасягнення статутных мэт, вызваляюцца ад выплаты падаткаў. Агульная стаўка ПДВ складае 23%.

### Ці існуюць падатковыя ільготы для мясцовых ахвярадаўцаў?

Як фізічныя, так і юрыдычныя асобы могуць утрымліваць пэўныя ахвяраванні для ***арганізацый, якія ажыццяўляюць грамадска карысную дзейнасць,*** у адпаведнасці з Законам «Аб сацыяльным забеспячэнні і добраахвотнай працы», незалежна ад таго, ці мае арганізацыя статус грамадска карыснай. Фізічныя асобы маюць права ўтрымліваць да 6%, а юрыдычныя асобы — да 10% падаткаабкладаемага даходу іх падатковай базы.

## 6. Абавязкі зарэгістраваных АГС

### Якія патрабаванні да справаздачнасці зарэгістраваных АГС?

***Аб'яднанне:*** Неабходна падаваць гадавую фінансавую справаздачу ў Нацыянальны судовы рэестр.

***Фонд:*** Абавязак падаваць гадавую справаздачу аб дзейнасці і фінансавую справаздачу адпаведнаму міністру, вызначанаму судовым рэестрам. Звычайна гэта міністр, кампетэнцыя якога блізкая мэтам фонду. Аб'ём справаздачы вызначаецца Міністрам юстыцыі. Гадавая справаздача аб дзейнасці фонду павінна быць апублікаваная.

## Ці маюць зарэгістраваныя АГС дадатковыя абавязкі?

***Дадатковыя патрабаванні да справаздачнасці:***

- гадавая фінансавая справаздача павінна быць пададзеная разам з гадавой падатковай справаздачай у падатковыя органы;
- пры ажыццяўленні гаспадарчай дзейнасці арганізацыя павінна падаваць гадавую фінансавую справаздачу ў Рэестр кампаній;
- калі ***арганізацыя мае статус грамадска карыснай,*** яна абавязана падаваць асобную справаздачу ў Міністэрства сацыяльнага забеспячэння ў адпаведнасці з патрабаваннямі міністэрства (арт. 23 Закона «Аб сацыяльным забеспячэнні і добраахвотнай працы»): як фінансавую справаздачу, так і справаздачу аб дзейнасці.

Акрамя таго, арганізацыі, якія займаюцца эканамічнай дзейнасцю, абавязаны прайсці праверку пры наяўнасці двух або трох з наступных умоў: (1) наяўнасць больш за 50 супрацоўнікаў; (2) сукупныя актывы ў бухгалтарскім балансе на канец фінансавага года складаюць больш за 2,5 млн. польскіх злотых (603 000 еўра); (3) чыстая выручка ад продажу тавараў і паслуг па выніках фінансавага года перавышае 5 млн. польскіх злотых (1,2 млн. еўра). Аўдытарскае заключэнне далучаецца да справаздач, пададзеных у падатковыя органы і Нацыянальны судовы рэестр. Апроч таго, ***арганізацыі, якія маюць статус грамадска карысных,*** абавязаны прайсці праверку, калі яны нанятыя дзяржавай для выканання дзяржаўных задач, атрымліваюць ад дзяржавы як найменей 50 000 польскіх злотых (12 000 еўра) на гэтыя мэты і іх гадавы даход перавышае 3 млн. польскіх злотых (724 000 еўра).

# 7. Унутранае кіраванне арганізацыяй

## Якія асноўныя патрабаванні, звязаныя з кіраваннем і ўнутранай структурай у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Аб'яднанне:*** Вышэйшым органам для прыняцця рашэнняў з'яўляецца *Агульны сход членаў аб'яднання.* Агульны сход прымае рашэнні па ўсіх пытаннях, акрамя пытанняў, якія знаходзяцца ў кампетэнцыі іншых органаў у адпаведнасці са Статутам. Статут таксама можа прадугледжваць *сход дэлегатаў,* а не Агульны сход. Іншымі абавязковымі органамі аб'яднання з'яўляюцца: *праўленне* і *ўнутраны рэвізійны орган.* Спосаб прыняцця рашэнняў, а таксама правы і абавязкі органаў вызначаны ў Статуце.

***Фонд:*** Адзіным абавязковым органам з'яўляецца *кіруючы орган,* які кіруе дзейнасцю фонду і прадстаўляе яго інтарэсы. Правы і абавязкі дадзенага органа і парадак абрання яго членаў вызначаюцца па меркаванні заснавальніка і павінны быць вызначаны ў Статуце фонду. Наяўнасць назіральнага органа не абавязковая.

Акрамя таго, ***грамадска карысныя АГС*** абавязаны мець прадугледжаны заканадаўствам калегіяльны рэвізійны або назіральны орган, асобны ад органа кіравання і не падсправаздачны яму ў рамках унутранага аўдыту і нагляду.

### Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да членаў кіруючых органаў?

***Аб’яднанне:*** Большасць членаў праўлення павінна з’яўляцца асобамі з поўнай дзеяздольнасцю.

***Фонд:*** Адсутнічаюць спецыяльныя патрабаванні, прадугледжаныя заканадаўствам.

***Грамадска-карысныя арганізацыі:*** абавязаны мець прадугледжаны заканадаўствам калегіяльны рэвізійны або назіральны орган, члены якога не з’яўляюцца членамі органа праўлення, не павінны быць у адносінах, не павінны з’яўляцца сваякамі або падначаленымі членаў органа праўлення. Яны таксама не павінны быць асуджаныя на падставе канчатковага судовага рашэння па якім-небудзь злачынстве, звязаным з наўмыснай вінай (арт. 20 п. 6 Закона «Аб сацыяльным забеспячэнні і добраахвотнай працы»).

### Ці маюць замежныя грамадзяне права з’яўляцца членамі кіраўніцтва арганізацыі?

***Аб’яднанне і Фонд:*** Так, пры ўмове, што гэта не забаронена Статутам.

### Ці нясуць заснавальнікі і члены матэрыяльную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Аб’яднанне і Фонд:*** Члены праўлення нясуць матэрыяльную адказнасць у выпадку нявыплаты падаткаў АГС.

## 8. Супрацоўнікі і арганізацыі

### Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да супрацоўнікаў і членаў АГС?

***Аб’яднанне:*** Замежныя грамадзяне, якія пражываюць у Польшчы, могуць быць членамі аб’яднання на тых жа ўмовах, што і грамадзяне Польшчы. Замежныя грамадзяне, якія не пражываюць у Польшчы, могуць станавіцца членамі аб’яднання, калі такая магчымасць прадугледжана Статутам.

Не цалкам дзеяздольныя непаўналетнія ва ўзросце ад 16 да 18 гадоў могуць быць членамі аб’яднання і мець як актыўныя, так і пасіўныя выбарчыя правы. Непаўналетнія ва ўзросце да 16 гадоў могуць стаць членамі аб’яднання, калі гэта дазволена яго Статутам і пры ўмове атрымання згоды іх законных апекуноў. Тым не менш яны не маюць выбарчых правоў (як актыўных, так і пасіўных). Яны могуць валодаць выбарчымі правамі філіяла аб’яднання, калі філіял складаецца толькі з непаўналетніх.

***Фонд:*** Адсутнічаюць спецыяльныя патрабаванні, прадугледжаныя заканадаўствам.

### Ці існуе патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў арганізацыі?

Не.

### Ці існуе патрабаванне наяўнасці бухгалтара?

Абавязак наяўнасці штатнага бухгалтара адсутнічае, аднак існуе абавязак вядзення бухгалтарскага ўліку. Бухгалтарскі ўлік можа весціся па кантракце наёмным бухгалтарам або бухгалтарскай кампаніяй.

## 9. Добраахвотны роспуск і ліквідацыя

### Якая працэдура ліквідацыі ў выпадку добраахвотнага роспуску АГС?

***Аб'яднанне:*** Працэдура ліквідацыі прадугледжана главой 5 Закона «Аб аб'яднаннях». У выпадку калі аб'яднанне прымае рашэнне аб ліквідацыі, члены праўлення становяцца ліквідатарамі, калі Статут або рашэнне апошняга Агульнага сходу не прадугледжвае іншае. Ліквідатар абавязаны ажыццяўляць ліквідацыю ў самыя кароткія тэрміны і такім чынам, каб не прывесці да залішняга памяншэння маёмасці аб'яднання. У прыватнасці, ліквідатар:

1) паведамляе суду аб пачатку ліквідацыі і аб прызначэнні ліквідатара, паказваючы яго імя, прозвішча і адрас;
2) ажыццяўляе працэсуальныя дзеянні, неабходныя для завяршэння ліквідацыі і публічна абвяшчае аб ліквідацыі;
3) па заканчэнні ліквідацыі падае хадайніцтва аб выключэнні аб'яднання з рэестра.

Калі ліквідацыя не завершаная на працягу аднаго года пасля яе пачатку, ліквідатар паведамляе суду аб прычынах затрымкі і суд можа падоўжыць тэрмін ліквідацыі ці змяніць ліквідатара.

Маёмасць, якая засталася ў ліквідуемага аб'яднання, выкарыстоўваецца для мэт, прадугледжаных яго Статутам, або рашэннем аб ліквідацыі, прынятым на Агульным сходзе. Калі ні адно з вышэйзгаданых палажэнняў не ўжываецца, суд пастанаўляе аб выкарыстанні маёмасці для грамадска карысных мэт. Выдаткі, звязаныя з ліквідацыяй, пакрываюцца з маёмасці аб'яднання або Дзяржаўным казначэйствам, калі аб'яднанне не валодае маёмасцю.

***Фонд:*** Размеркаванне актываў, якія засталіся пасля ліквідацыі аб'яднання, рэгулюецца Статутам. У адсутнасць адпаведных палажэнняў Статута рашэнне прымаецца судом з улікам статутных мэт фонду.

# РАСІЯ



## Агульная інфармацыя*

- Сталіца: Масква
- Насельніцтва: 143,5 млн.
- ВУП: 2,097 трл. дал. ЗША

## Арганізацыйна-прававыя формы АГС і іх характарыстыкі

### *Грамадская арганізацыя*

- Добраахвотнае, самакіруемае, некамерцыйнае фарміраванне, якое засноўваецца па ініцыятыве як найменей трох фізічных асоб (грамадзян, замежных грамадзян, асоб без грамадзянства), аб'ядноўваецца на падставе агульнасці інтарэсаў для рэалізацыі агульных мэт, пералічаных у Статуце грамадскага аб'яднання.

### *Фонд*

- Некамерцыйная арганізацыя без членства, заснаваная грамадзянамі і (ці) юрыдычнымі асобамі на аснове добраахвотных унёскаў і накіраваная на дасягненне сацыяльных, дабрачынных, культурных, адукацыйных або іншых грамадска карысных мэт.

## Прававое рэгуляванне АГС (асноўныя законы)

- Грамадзянскі кодэкс, верасень 2014 г.;
- Федэральны закон № 7-ФЗ «Аб некамерцыйных арганізацыях» 12 студзеня 1996 г.;
- Федэральны закон № 82-ФЗ «Аб грамадскіх аб'яднаннях» ад 19 мая 1995 г.;
- Федэральны закон № 121-ФЗ «Аб зменах у асобныя заканадаўчыя акты Расійскай Федэрацыі ў частцы рэгулявання дзейнасці некамерцыйных арганізацый, якія выконваюць функцыі замежнага агента» ад 20 ліпеня 2012 г.

* Крыніца: Сусветны банк, 2013 г.

## 1. Формы АГС і іх характарыстыкі

### Якія формы АГС існуюць? Якія іх асноўныя характарыстыкі?

Існуюць шматлікія формы АГС. Некамерцыйныя арганізацыі могуць ствараццa ў форме грамадскіх ці рэлігійных арганізацый (іх камбінацый), суполак карэнных малалікіх народаў Расійскай Федэрацыі, казачых таварыстваў, некамерцыйных партнёрстваў, устаноў, аўтаномных некамерцыйных арганізацый, сацыяльных, дабрачынных і іншых фондаў, аб'яднанняў і саюзаў, а таксама ў любых іншых формах, прадугледжаных федэральнымі законамі. Мы разгледзім дзве формы: **грамадская арганізацыя** *(общественная организация)* і **фонд** *(фонд).*

### Ці існуюць якія-небудзь абмежаванні на дапушчальныя мэты і віды дзейнасці АГС?

***Грамадская арганізацыя і Фонд:*** Грамадскія арганізацыі і фонды могуць ажыццяўляць адзін або некалькі відаў дзейнасці ў адпаведнасці з іх статутнымі мэтамі пры ўмове адпаведнасці федэральным законам.

Любыя грамадскія арганізацыі і фонды, якія атрымліваюць сродкі або маёмасць з-за мяжы і/ці ад расійкіх юрыдычных асоб, якія маюць замежнае фінансаванне і ўдзельнічаюць у палітычнай дзейнасці, абавязаны зарэгістравацца ў якасці арганізацый, якія ажыццяўляюць функцыі замежных агентаў. Міністэрства юстыцыі вядзе анлайн-рэестр дадзенага віду АГС. Усе паведамленні такіх арганізацый, накіраа ваныя на інфармаванне грамадскасці, павінны мець у складзе абвестку аб тым, што ўсе матэрыялы былі падрыхтаваныя арганізацыяй, якая ажыццяўляе функцыі замежнага агента. Для арганізацый, якія выконваюць функцыі замежнага агента, дзейнічаюць больш строгія патрабаванні да справаздачнасці.

## 2. Патрабаванні да заснавальнікаў АГС

### Якая мінімальная колькасць заснавальнікаў патрабуецца заканадаўствам?

***Грамадская арганізацыя:*** 3.

***Фонд:*** 1.

### Якія крытэрыі правамоцнасці заснавальнікаў? Ці могуць замежныя грамадзяне выступаць у якасці заснавальнікаў?

***Грамадская арганізацыя і Фонд:*** І фізічныя, і юрыдычныя асобы могуць быць заснавальнікамі. Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія афіцыйна пражываюць у Расіі, могуць выступаць у якасці заснавальнікаў.

### Ці існуюць якія-небудзь патрабаванні да заснавальнікаў у дачыненні да грашовых і неграшовых унёскаў?

***Грамадская арганізацыя:*** Не.

***Фонд:*** Заснавальнікі абавязаны перадаць арганізацыі пэўную суму грошай ці маёмасць. Аднак іх дакладны памер не ўстаноўлены законам.

## 3. Працэдура рэгістрацыі

### Які орган адказвае за рэгістрацыю?

Заяўка на рэгістрацыю можа быць пададзеная ў мясцовы тэрытарыяльны орган Міністэрства юстыцыі (у кожным рэгіёне Расіі). Спіс тэрытарыяльных офісаў даступны на Партале электронных дзяржаўных паслуг https://www.gosuslugi.ru/.

### Які памер рэгістрацыйнага збору?

***Грамадская арганізацыя і Фонд:*** 4000 расійкіх рублёў (60 еўра).

### Ці існуюць іншыя простыя фінансавыя выдаткі на стварэнне АГС?

Некаторыя дакументы, абавязковыя да падачы разам з заяўкай на рэгістрацыю, павінны быць завераны натарыусам, кошт натарыяльнага завярэння: каля 1500 расійкіх рублёў за кожны дакумент (20 еўра). Калі дакументы падаюцца даверанай асобай, таксама даверанасць мусіць быць спраўджана натарыусам: каля 1000 расійкіх рублёў (15 еўра).

### Колькі часу займае працэс рэгістрацыі?

Паводле звестак Партала электронных дзяржаўных паслуг, падача заяўкі праз партал займае 33 дні.

### Якія дакументы неабходныя для рэгістрацыі?

- *Статут* — 3 копіі (1 арыгінал, які вяртаецца заснавальнікам, і 2 копіі, завераныя натарыяльна);
- *заява* — 2 (1 арыгінал і 1 копія, завераная натарыусам);
- *пратакол установчага сходу* для **грамадскіх арганізацый;** *заява заснавальнікаў* для **фондаў;**
- юрыдычны адрас арганізацыі;
- квітанцыя аб аплаце рэгістрацыйнага збору.

## Ці існуе магчымасць падачы заявы ў электроннай форме?

Так. З дапамогай Партала электронных дзяржаўных паслуг https://www.gosuslugi.ru/.

## Ці існуе патрабаванне пра наяўнасць офіса ў краіне? Ці ёсць якія-небудзь спецыяльныя патрабаванні ў сувязі з гэтым?

***Грамадская арганізацыя і Фонд:*** Для рэгістрацыі патрабуецца толькі паштовы або фактычны адрас. Гэта можа быць адрас пражывання (адрас заснавальніка) або юрыдычны адрас (офісны будынак).

## Ці існуюць дадатковыя рэгістрацыйныя патрабаванні?

***Грамадская арганізацыя і Фонд:*** Не.

## Ці існуюць дадатковыя адміністрацыйныя працэдуры, звязаныя з рэгістрацыяй?

***Грамадская арганізацыя і Фонд:*** Адкрыццё рахунку ў банку для ўнясення статутнага капіталу; апавяшчэнне падатковай інспекцыі аб наяўнасці банкаўскага рахунку.

## Якія прававыя падставы выкарыстоўваюцца для адмовы ў рэгістрацыі?

У адпаведнасці з арт. 23.1 Закона «Аб некамерцыйных арганізацыях», прычынамі для адмовы ў рэгістрацыі могуць з’яўляцца наступныя:

- калі ўстаноўчыя дакументы некамерцыйнай арганізацыі супярэчаць Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі і заканадаўству Расійскай Федэрацыі;
- у выпадку існавання некамерцыйнай арганізацыі з такой жа назвай;
- у выпадку калі назва некамерцыйнай арганізацыі абражае мараль і парушае нацыянальныя і рэлігійныя пачуцці;
- у выпадку калі дакументы, неабходныя для дзяржаўнай рэгістрацыі, прадугледжаныя федэральным заканадаўствам, не пададзеныя ў поўным аб’ёме або пададзеныя ў неналежны орган;
- у выпадку калі асоба, якая дзейнічае ў якасці заснавальніка некамерцыйнай арганізацыі, не можа быць заснавальнікам;
- у выпадку наяўнасці ілжывай інфармацыі ў дакументах, пададзеных для дзяржаўнай рэгістрацыі.

У выпадку калі заяўнік не пазбаўляецца вышэйзгаданых супярэчнасцей, Міністэрства юстыцыі або яго тэрытарыяльны орган могуць адмовіць у рэгістрацыі.

## 4. Крыніцы фінансавання

### Якія існуюць магчымыя крыніцы фінансавання?

***Грамадская арганізацыя:***

- дзяржаўная падтрымка — напрыклад, дзяржаўныя гранты, субсідыі, датацыі мясцовых органаў улады;
- замежныя гранты (гл. таксама Раздзел аб абмежаванні магчымых крыніц фінансавання);
- ахвяраванні ад прыватных асоб, у тым ліку збор сродкаў;
- членскія ўнёскі;
- даходы ад нарматыўнай гаспадарчай дзейнасці (гл. таксама Раздзел аб абмежаванні магчымых крыніц фінансавання).

***Фонд:***

- унёскі заснавальнікаў;
- ахвяраванні;
- гаспадарчая дзейнасць, якая ажыццяўляецца ТАА.

### Якія існуюць абмежаванні на магчымыя крыніцы фінансавання?

***Грамадская арганізацыя і Фонд:***

- ***Закон аб замежных агентах:*** Федэральны закон № 121-ФЗ «Аб зменах у асобныя заканадаўчыя акты Расійскай Федэрацыі ў частцы рэгулявання дзейнасці некамерцыйных арганізацый, якія выконваюць функцыі замежнага агента» ад 20 ліпеня 2012 г. накладае абмежаванні на даход, атрыманы з-за мяжы. Любая некамерцыйная арганізацыя (грамадскія арганізацыі і фонды), якая атрымоўвае сродкі або маёмасць з-за мяжы і/ці ад расійскіх юрыдычных асоб, якія маюць замежнае фінансаванне, абавязана зарэгістравацца ў якасці арганізацыі, якая выконвае функцыі замежнага агента. У выпадку калі арганізацыя не выконвае патрабаванне рэгістрацыі ў якасці замежнага агента, яе дзейнасць можа быць прыпыненая.
- ***Падаткаабкладанне грантаў:*** гранты ад замежных ахвярадаўцаў падлягаюць звычайнаму падаткаабкладанню, калі асоба, якая надае грант, не ўключана ў спецыяльны спіс ахвярадаўцаў, вызваленых ад падаткаабкладання. Спіс ахвярадаўцаў, вызваленых ад падаткаабкладання, даступны ў Інтэрнэце.
- ***Гаспадарчая дзейнасць:*** У адпаведнасці са зменамі ў Грамадзянскі кодэкс ад 05.05.2014 г., арганізацыя мае права ўдзельнічаць у заканадаўча дазволенай дзейнасці, якая прыносіць даход, праз стварэнне ТАА з пачатковым капіталам каля 10 000 рублёў (160 еўра).

# 5. Падатковы рэжым для АГС

### Які рэжым падаходнага падаткаабкладання для АГС?

Агульная стаўка падаходнага падатку складае 13%. Гранты ад замежных ахвярадаўцаў падлягаюць звычайнаму падаткаабкладанню, калі асоба, якая надае грант, не ўключана ў спецыяльны спіс ахвярадаўцаў, вызваленых ад падаткаабкладання. На цяперашні час спіс ахвярадаўцаў, вызваленых ад падаткаабкладання, складаецца з трынаццаці арганізацый. Некаторыя віды даходаў, напрыклад «паступленне на пэўныя мэты», не ўключаны ў падатковую базу АГС з мэтай вызначэння падаходнага падатку. Арт. 251 (2) (1) Падатковага кодэкса асабліва адзначае ахвяраванні як адзін з відаў «паступленняў на пэўныя мэты». Для ўжывання дадзенай падатковай ільготы АГС «абавязана весці асобны ўлік» сваіх даходаў і выдаткаў, што абкладаюцца і не абкладаюцца падаткам. Гаспадарчая дзейнасць: НКА абавязаны плаціць падаходны падатак на даходы, атрыманыя ад гаспадарчай дзейнасці, у тым жа парадку, што і камерцыйныя арганізацыі.

### Які рэжым выплаты ПДВ для АГС?

Прадастаўленне сродкаў грамадскай арганізацыі і фонду на бязвыплатнай аснове не падлягае абкладанню ПДВ, калі актывы перадаюцца для рэалізацыі статутных мэт АГС і не звязаны з якой-небудзь камерцыйнай дзейнасцю (Падатковы кодэкс, арт. 39 (3) (3)). Ахвяраванні або гранты для АГС, якія адказваюць гэтым крытэрыям, у тым ліку атрыманыя з-за мяжы, не абкладаюцца ПДВ. Акрамя таго, бескаштоўнае прадастаўленне тавараў або паслуг (за выключэннем падакцызных тавараў), прадстаўленых у сувязі з ажыццяўленнем дабрачыннай дзейнасці, вызваляецца ад выплаты ПДВ (Падатковы кодэкс, арт. 149 (3) (12)).

### Ці існуюць падатковыя ільготы для мясцовых ахвярадаўцаў?

Падатковыя вылікі ў памеры да 25% ад агульнага падаткаабкладаемага даходу фізічнай асобы ўжываюцца выключна ў сувязі з ахвяраваннямі фізічных асоб.

# 6. Абавязкі зарэгістраваных АГС

### Якія патрабаванні да справаздачнасці зарэгістраваных АГС?

Усе АГС (уключаючы грамадскія аб'яднанні і фонды) абавязаны штогод падаваць:

- *афіцыйную справаздачу па форме ОН0001,* уключаючы спіс членаў кіруючых органаў, і форму спрошчанай *гадавой фінансавай справаздачы ОН0002* у Міністэрства юстыцыі;
- *бухгалтарскую справаздачу* ў падатковыя органы.

АГС, якія не атрымліваюць ніякага фінансавання з замежных крыніц, а таксама АГС з гадавым даходам менш за 3 млн. расійскіх рублёў (46 882 еўра) не абавязаны падаваць справаздачу ў Міністэрства юстыцыі. Такія АГС падаюць:

- *афіцыйную заяву* аб адсутнасці фінансавання з замежных крыніц і ўзроўні даходу ніжэй за 3 млн. рублёў, а таксама апавяшчэнне аб працягу дзейнасці.

Апроч таго, фонды публікуюць штогадовую справаздачу аб наяўных актывах.

### Ці маюць зарэгістраваныя АГС дадатковыя абавязкі?

Загад Міністэрства юстыцыі РФ ад 16 красавіка 2013 г. № 50 «Аб форме і тэрмінах прадстаўлення ў Міністэрства юстыцыі Расійскай Федэрацыі справаздачнасці некамерцыйных арганізацый, якія выконваюць функцыі замежнага агента» патрабуе ад АГС, якія выконваюць функцыі замежнага агента, падаваць наступныя справаздачы ў Міністэрства юстыцыі:

- *справаздача аб дзейнасці і складзе кіруючых органаў* у адпаведнасці з пададзенай формай справаздачнасці два разы на год — да 15 студзеня і да 15 ліпеня;
- фінансавая справаздача і бухгалтарская справаздача па выкарыстанні ўсіх актываў у папярэднім квартале, у тым ліку актываў, атрыманых з замежных крыніц, на штоквартальнай аснове — да 15 студзеня, 15 красавіка, 15 ліпеня, 15 кастрычніка;
- гадавая аўдытарская справаздача — не пазней за 15 красавіка года, наступнага за справаздачным годам.

## 7. Унутранае кіраванне арганізацыяй

### Якія асноўныя патрабаванні, звязаныя з кіраваннем і ўнутранай структурай у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Грамадская арганізацыя:*** Мае два абавязковыя органы:

- *вышэйшы орган кіравання* — Агульны сход членаў (сяброў);
- *выканаўчы орган* — напрыклад, выканаўчы дырэктар, старшыня.

Неабавязковыя органы: пастаянна дзеючы калегіяльны выканаўчы орган, напрыклад, праўленне, савет, прэзідыум.

***Фонд:*** Кіруючая структура (апякунскі савет) вызначаецца Статутам фонду.

Кіруючы орган адказвае за адпаведнасць дзейнасці АГС яго мэтам. Кампетэнцыя кіруючага органа ўключае:

- унясенне змен і дапаўненняў у Статут;
- вызначэнне прыярытэтных напрамкаў дзейнасці некамерцыйнай арганізацыі, прынцыпаў яе фарміравання і выкарыстання яе маёмасці;

- фарміраванне выканаўчых органаў некамерцыйнай арганізацыі і датэрміновае спыненне іх паўнамоцтваў;
- зацвярджэнне гадавой справаздачы і гадавога бухгалтарскага балансу;
- зацвярджэнне фінансавага плана для некамерцыйнай арганізацыі і паправак да яго;
- стварэнне філіялаў і адкрыццё прадстаўніцтваў некамерцыйных арганізацый;
- удзел у іншых арганізацыях;
- рэарганізацыя і ліквідацыя некамерцыйных арганізацый (акрамя ліквідацыі фонду).

### Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да членаў кіруючых органаў?

Любая фізічная асоба з поўнай дзеяздольнасцю, без абмежаванняў па месцы жыхарства або грамадзянстве, можа быць членам кіруючага органа.

### Ці маюць замежныя грамадзяне права з'яўляцца членамі кіраўніцтва арганізацыі?

Так.

### Ці нясуць заснавальнікі і члены матэрыяльную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам?

Не.

## 8. Супрацоўнікі і арганізацыі

### Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да супрацоўнікаў і членаў АГС?

Любы грамадзянін, замежны грамадзянін або асоба без грамадзянства, якія на законных падставах пражываюць у Расіі і з'яўляюцца правамоцнымі. Таксама членамі АГС могуць быць юрыдычныя асобы і аб'яднанні.

### Ці існуе патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў арганізацыі?

Няма патрабаванняў да наяўнасці штатнага супрацоўніка на поўны працоўны дзень (нават дырэктара ці бухгалтара). Частковая занятасць таксама магчыма.

**Ці існуе патрабаванне наяўнасці бухгалтара?**

Так.

## 9. Добраахвотны роспуск і ліквідацыя

**Якая працэдура ліквідацыі ў выпадку добраахвотнага роспуску АГС?**

У адпаведнасці з арт. 21.1 Грамадзянскага кодэкса, юрыдычная асоба, якая не падала справаздачы і не ажыццяўляе якой-небудзь дзейнасці з адным з яе банкаўскіх рахункаў як найменей на працягу апошніх 12 месяцаў, выключаецца з Адзінага дзяржаўнага рэестра юрыдычных асоб. Аднак толькі адзнака аб рэгістрацыі ліквідацыі ў Адзіным рэестры юрыдычных асоб азначае ліквідацыю АГС.

Арт. 18 Закона «Аб некамерцыйных арганізацыях» тычыцца агульнай ліквідацыйнай працэдуры, прадугледжанай Грамадзянскім кодэксам. Арт. 62 Грамадзянскага кодэкса аб ліквідацыі юрыдычных асоб прадугледжвае этапы агульнай працэдуры ліквідацыі.

Заснавальнікі ці іншы кіруючы орган, які прыняў рашэнне пра ліквідацыю, абавязаныя прызначыць ліквідацыйную камісію. Ліквідацыйная камісія адказвае за ўсе далейшыя разборы АГС і можа прадстаўляць яе інтарэсы ў судзе. Камісія абавязана паведаміць рэгіструючаму органу пра намер ліквідаваць АГС, а таксама абавязана падаць прамежкавы баланс. Ліквідацыйная камісія выдае афіцыйную заяву аб ліквідацыі і публікуе яе ў сродках масавай інфармацыі на працягу як найменей 2 месяцаў. Пасля прадстаўлення прэтэнзій крэдытораў ліквідацыйная камісія выдае прамежкавы ліквідацыйны баланс, які прадугледжвае парадак плацяжоў.

Пасля аплаты ліквідацыйная камісія падае ў рэгіструючы орган наступныя дакументы:

- *форма заявы на рэгістрацыю працэсу ліквідацыі* ў адпаведнасці з афіцыйным узорам;
- *ліквідацыйны баланс;*
- пацвярджэнне аплаты адміністрацыйнага збору.

Рашэнне аб рэгістрацыі ліквідацыі прымаецца рэгіструючым органам на працягу 5 дзён. Актывы, якія засталіся, павінны быць размеркаваныя на ажыццяўленне статутных мэт АГС або дабрачынных мэт, калі іншае не прадугледжана федэральным заканадаўствам. Працэс ліквідацыі завяршаецца пасля ўнясення адпаведнай адзнакі аб ліквідацыі ў Адзіны дзяржаўны рэестр юрыдычных асоб.

У адпаведнасці з арт. 18 Закона «Аб некамерцыйных арганізацыях», рашэнне пра ліквідацыю фонду можа быць прынята выключна судом, г.зн. пасля падачы рашэння суда ў рэгіструючы орган.

***Фонд можа быць ліквідаваны:***

- калі маёмасці фонду недастаткова для ажыццяўлення яго мэт і верагоднасць атрымання неабходнага памеру маёмасці нерэальная;
- калі мэты фонду не могуць быць дасягнутыя, а неабходныя змены мэт фонду не могуць быць зробленыя;
- у выпадку ўхілення фонду ў яго дзейнасці ад мэт, прадугледжаных яго Статутам;
- у іншых выпадках, прадугледжаных федэральным законам.

# СЛАВАКІЯ



### Агульная інфармацыя*

- Сталіца: Браціслава
- Насельніцтва: 5,414 млн.
- ВУП: 91,62 млрд. дал. ЗША

## Арганізацыйна-прававыя формы АГС і іх характарыстыкі

### *Грамадскае аб'яднанне*

- Форма АГС, заснаваная на агульным членстве і створаная як найменей 3 асобамі, якія маюць агульныя мэты ці інтарэсы.

### *Фонд*

- Агульная арганізацыйная форма без членства, заснаваная для збору фінансавых сродкаў для грамадска карысных мэт. Патрабаванне першапачатковага капіталу складае 6638 еўра.

### *Неінвестыцыйны фонд*

- Форма без членства, з патрабаваннем да памеру першапачатковага капіталу значна меншым, чым фонд, якая служыць, хутчэй, часовым, чым доўгатэрміновым мэтам.

### *Некамерцыйная арганізацыя, якая аказвае грамадска карысныя паслугі*

- Спалучэнне арганізацыйнай формы з членствам і без членства, якое ажыццяўляе дзейнасць па аказанні грамадска карысных паслуг. Асноўным недахопам з'яўляецца празмернае патрабаванне да справаздачнасці.

## Прававое рэгуляванне АГС (асноўныя законы)

- Закон № 83/1990 Зб. «Аб аб'яднаннях грамадзян»;
- Закон № 34/2002 Зб. «Аб фондах»;
- Закон № 147/1997 Зб. «Аб неінвестыцыйных фондах»;
- Закон № 213/1997 Зб. «Аб некамерцыйных арганізацыях, якія аказваюць грамадска карысныя паслугі».

* Крыніца: Сусветны банк, 2013 г.

# 1. Формы АГС і іх характарыстыкі

## Якія формы АГС існуюць? Якія іх асноўныя характарыстыкі?

Існуючыя формы АГС уключаюць: **грамадскае аб'яднанне** *(Občianske združenie)*, **фонд** *(Nadácia)*, **неінвестыцыйны фонд** *(Neinvestičný fond)* і **некамерцыйная арганізацыя, якая аказвае грамадска карысныя паслугі** *(Nezisková organizácia poskytujúca všeobecne prospešné služby)*. Для мэт гэтага дапаможніка мы падаем інфармацыю пра аб'яднанні і неінвестыцыйныя фонды.

## Ці існуюць якія-небудзь абмежаванні на дапушчальныя мэты і віды дзейнасці АГС?

***Аб'яднанне:*** Наступныя аб'яднанні з'яўляюцца забароненымі:

1) *мэты якіх парушаюць Канстытуцыю і іншыя законы,* г. зн. аб'яднанні, мэтай якіх з'яўляецца парушэнне або абмежаванне асабістых, палітычных ці іншых правоў грамадзян у сувязі з іх нацыянальнасцю, полам, расай, паходжаннем, палітычнымі ці іншымі перакананнямі, рэлігійнымі перакананнямі, сацыяльным становішчам, распальванне нянавісці ці нецярпімасці, падтрымка ўзброеных сіл ці іншае парушэнне Канстытуцыі і заканадаўства;
2) *якія імкнуцца да дасягнення сваіх мэт у парушэнне Канстытуцыі і іншага заканадаўства;*
3) *якія з'яўляюцца войскамі або ўзброенымі падраздзяленнямі,* не ўключаючы аб'яднанні, члены якіх выкарыстоўваюць зброю для спартыўных мэт.

Акрамя таго, аб'яднанням забаронена ажыццяўляць функцыі дзяржаўных органаў, калі іншае не прадугледжана асаблівым заканадаўствам. Аб'яднанням забаронена кіраваць дзяржаўнымі органамі і накладваць абавязкі на грамадзян, якія не з'яўляюцца іх членамі.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Дапушчальнымі мэтамі з'яўляюцца дасягненне грамадска карысных мэт або мэтавая гуманітарная дапамога асобе або групе асоб, жыццё якой/якіх знаходзіцца ў небяспецы, альбо асобе або групе асоб, якія маюць патрэбу ў тэрміновай дапамозе ў сувязі са стыхійнымі бедствамі.

Наступныя мэты лічацца грамадска карыснымі:

a) прасоўванне і абарона духоўных каштоўнасцей;
b) абарона правоў чалавека;
c) абарона і развіццё навакольнага асяроддзя;
d) захаванне прыродных і тэхнагенных каштоўнасцей;
e) абарона і падтрымка аховы здароўя і адукацыі;
f) развіццё сацыяльных паслуг.

# 2. Патрабаванні да заснавальнікаў АГС

### Якая мінімальная колькасць заснавальнікаў патрабуецца заканадаўствам?

***Аб’яднанне:*** 3.

***Неінвестыцыйны фонд:*** 1.

### Якія крытэрыі правамоцнасці заснавальнікаў? Ці могуць замежныя грамадзяне выступаць у якасці заснавальнікаў?

***Аб’яднанне:*** Заснавальнікамі могуць з’яўляцца выключна грамадзяне Славакіі; прынамсі, адзін заснавальнік абавязаны быць старэйшым за 18 гадоў і быць цалкам дзеяздольным.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Абмежаванні адсутнічаюць. Як фізічныя, так і/ці юрыдычныя асобы могуць быць заснавальнікамі, незалежна ад краіны паходжання ці іншых патрабаванняў. У выпадку адзінага заснавальніка ён/яна абавязаны(-а) быць старэйшым за 18 гадоў і цалкам дзеяздольным.

### Ці існуюць якія-небудзь патрабаванні да заснавальнікаў у дачыненні да грашовых і неграшовых унёскаў?

***Аб’яднанне:*** Не.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Мінімальна 66 еўра ад заснавальніка.

# 3. Працэдура рэгістрацыі

### Які орган адказвае за рэгістрацыю?

***Аб’яднанне:*** Міністэрства ўнутраных спраў, аддзел Грамадскага кіравання, Дэпартамент агульнага ўнутранага кіравання.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Адпаведнае Раённае аддзяленне, якое вызначаецца на падставе месцазнаходжання фонду. Органам, які адказвае за вядзенне Рэестра, з’яўляецца Міністэрства ўнутраных спраў.

### Які памер рэгістрацыйнага збору?

***Аб’яднанне:*** 66 еўра.

***Неінвестыцыйны фонд:*** 66 еўра.

## Ці існуюць іншыя простыя фінансавыя выдаткі на стварэнне АГС?

***Аб’яднанне:*** 3 еўра — за ідэнтыфікацыйны нумар; 5–15 еўра — за гандлёвую ліцэнзію (гл. ніжэй).

***Неінвестыцыйны фонд:*** Натарыяльнае засведчанне ўстаноўчых дакументаў (гл. ніжэй). Усе дакументы падаюцца на славацкай мове.

## Колькі часу займае працэс рэгістрацыі?

***Аб’яднанне:*** Звычайна ад 10 да 40 дзён з пачатку працэдуры рэгістрацыі. У выпадку калі Міністэрства не накіроўвае адмову ў рэгістрацыі на працягу 40 дзён, існуе юрыдычная падстава лічыць, што аб’яднанне зарэгістраванае.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Рэгістрацыя павінна быць завершана на працягу 60 дзён з моманту заснавання фонду. Рэгістрацыя набывае сілу з даты, названай заснавальнікамі ў заяве аб рэгістрацыі.

## Якія дакументы неабходныя для рэгістрацыі?*

***Аб’яднанне:***

- *заява на рэгістрацыю,* падпісаная заснавальнікамі (так званай «падрыхтоўчай камісіяй»). У заяве на рэгістрацыю павінен быць вызначаны заснавальнік, старэйшы за 18 гадоў, юрыдычна ўпаўнаважаны дзейнічаць ад імя камісіі. Заяўка павінна суправаджацца дзвюма копіямі Статута;
- *Статут,* змест якога рэгулюецца арт. 6 (2) Закона № 83/1990 Зб;
- *маркі дзяржпошліны* на суму 66 еўра або пацвярджэнне плацяжу.

***Неінвестыцыйны фонд:***

- *устаноўчая дамова,* засведчаная натарыусам (у выпадку адзінага заснавальніка) або Пагадненне аб заснаванні з афіцыйна зацверджанымі подпісамі (пры наяўнасці больш аднаго заснавальніка). Патрабаванні да зместу гэтых дакументаў рэгулююцца арт. 5 (1) Закона № 147/1997;
- *Статут* (2 копіі), змест якога рэгулюецца арт. 6 (1) Закона № 147/1997 Зб;
- афіцыйна засведчаныя *паказанні* ўпаўнаважанага заснавальніка, *пацверджаныя прысягай,* аб аплаце ўстаноўчага ўнёску (альбо яго частак) іншымі заснавальнікамі;
- *звесткі пра асуджанасці адміністратара;*
- *выпіс з Рэестра юрыдычных асоб,* калі заснавальнікам з’яўляецца кампанія;
- *маркі дзяржпошліны* на суму 66 еўра або пацвярджэнне плацяжу.

* Інфармацыя аб працэдуры рэгістрацыі і неабходных дакументах пададзена на афіцыйным сайце Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Славакія.

### Ці існуе магчымасць падачы заявы ў электроннай форме?

Не.

### Ці існуе патрабаванне пра наяўнасць офіса ў краіне? Ці ёсць якія-небудзь спецыяльныя патрабаванні ў сувязі з гэтым?

Так, патрабаванне пра наяўнасць офіса існуе. Аднак ніякія дадатковыя патрабаванні не ўстаноўленыя. Офіс можа быць размешчаны ў любых памяшканнях, уключаючы кватэры.

### Ці існуюць дадатковыя рэгістрацыйныя патрабаванні?

Не.

### Ці існуюць дадатковыя адміністрацыйныя працэдуры, злучаныя з рэгістрацыяй?

***Аб'яднанне:***

- *атрыманне ідэнтыфікацыйнага нумара (IČO- identifikačné číslo osoby)* — абавязкова для ўсіх аб'яднанняў. На працягу 10 дзён з моманту рэгістрацыі законны прадстаўнік абавязаны падаць заяўку ў Службу статыстыкі;
- *атрыманне гандлёвай ліцэнзіі (živnostenské oprávnenie)* — абавязкова для аб'яднанняў, якія жадаюць ажыццяўляць эканамічную дзейнасць, не прадугледжаную заканадаўствам. Такія аб'яднанні абавязаны падаць заяўку ў адпаведнае раённае аддзяленне.

***Неінвестыцыйны фонд:*** *Адкрыццё банкаўскага рахунку* для захоўвання статутнага капіталу і іншых рэсурсаў.

### Якія прававыя падставы выкарыстоўваюцца для адмовы ў рэгістрацыі?

***Аб'яднанне:*** Міністэрства адмаўляе ў рэгістрацыі ў наступных выпадках:

a) калі аб'яднанне з'яўляецца аб'яднаннем грамадзян, якое рэгулюецца іншым заканадаўствам у іншай прававой структуры, напрыклад: палітычнай партыяй, палітычным рухам, аб'яднаннем грамадзян, створаным для ажыццяўлення дзейнасці з мэтай атрымання прыбытку або для ажыццяўлення асаблівых відаў дзейнасці, царквой, а таксама рэлігійным таварыствам ці аб'яднаннем грамадзян для ажыццяўлення права на паляванне;

b) Статут аб'яднання не адпавядае вышэйзгаданым законным патрабаванням;

c) у выпадку забароны аб'яднання ў сувязі з яго мэтамі і заданнямі, прадугледжанымі законам (гл. інфармацыю пра абмежаванні ў раздзеле «Формы АГС і іх характарыстыкі»).

***Неінвестыцыйны фонд:*** Рэгіструючы орган адмаўляе ў рэгістрацыі, калі ўстаноўчыя дакументы (пагадненне аб заснаванні або ўстаноўчая дамова) не адпавядаюць заканадаўству.

## 4. Крыніцы фінансавання

### Якія існуюць магчымыя крыніцы фінансавання?

***Аб'яднанне:*** Магчымыя крыніцы фінансавання:

- дзяржаўнае фінансаванне (як на нацыянальным, так і на мясцовым узроўнях);
- ахвяраванні айчынных і замежных фізічных і юрыдычных асоб;
- членскія ўнёскі;
- фінансаванне з карпаратыўных фондаў і/ці фондаў мэтавага капіталу;
- даходы ад гаспадарчай дзейнасці;
- міжнародныя механізмы фінансавання і механізмы фінансавання ЕС;
- даходы ад паслуг і спадчыны.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Закон (арт. 1) прадугледжвае наступныя магчымыя актывы фондаў:

- ахвяраванні юрыдычных або фізічных асоб;
- спадчына;
- прыбытак ад латарэй і падобных гульняў;
- прыбытак ад правядзення мерапрыемстваў (культурных, адукацыйных, сацыяльных, спартыўных);
- прыбытак ад продажу публікацый фонду, якія служаць мэтам фонду;
- працэнты па фінансавых укладах у банках;
- прыбытак ад дзяржаўных аблігацый;
- прыбытак ад ліквідацыйнага балансу іншага фонду;
- прыбытак з дзяржаўнага бюджэту, бюджэту дзяржаўнага фонду або муніцыпальнага бюджэту.

Неінвестыцыйныя фонды таксама маюць доступ да міжнародных механізмаў фінансавання, механізмаў фінансавання ЕС і/ці да фінансавання ад карпаратыўных фондаў.

Акрамя таго, абедзве формы маюць права атрымліваць адлічэнні, звязаныя з *падатковым механізмам прызначэння* (1,5–2,0% ад падаткаабкладаемага даходу юрыдычных асоб; 2–3% ад падаткаабкладаемага даходу падаткаплацельшчыкаў — фізічных асоб).

### Якія існуюць абмежаванні на магчымыя крыніцы фінансавання?

***Аб’яднанне:*** Прамая эканамічная дзейнасць з мэтай атрымання даходу не можа быць асноўным статутным відам дзейнасці, а толькі дадатковым. Калі аб’яднанне мае намер займацца адпаведнай дзейнасцю, яно павінна атрымаць гандлёвую ліцэнзію. Іншая эканамічная дзейнасць (напрыклад, даход ад членскіх унёскаў, продаж уласных публікацый), якая адносіцца да статутных мэт, дазволена без абавязку атрымання гандлёвай ліцэнзіі.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Прамая эканамічная дзейнасць цалкам забароненая, дазваляюцца толькі рэдкія выключэнні: даход ад латарэй і іншых падобных гульняў, ад арганізацыі культурных, адукацыйных, сацыяльных і спартыўных мерапрыемстваў або продажу ўласных публікацый, якія спрыяюць статутным мэтам фонду.

## 5. Падатковы рэжым для АГС

### Які рэжым падаходнага падаткаабкладання для АГС?

АГС, зазвычай, вызваляюцца ад выплаты падатку на даход ад статутнай дзейнасці, членскіх унёскаў, субсідзій, грантаў, ахвяраваняў, статутнай дзейнасці і падатковага механізма прызначэння. Даход ад нестатутнай эканамічнай дзейнасці (толькі для аб’яднанняў) абкладаецца падаткам па агульнай стаўцы 22%. Даход ад здачы ў арэнду або продажу маёмасці, даходы ад камерцыйных аб’яў, даход ад членскіх унёскаў і іншы даход, які падлягае падаткаабкладанню, абкладаецца падаткам.

### Які рэжым выплаты ПДВ для АГС?

Аперацыі, якія вызваляюцца ад ПДВ, пералічаныя ў секцыях 28–39 Закона аб ПДВ. Паслугі, якія прадстаўляюцца членам аб’яднання на падставе членскіх унёскаў, таксама вызваленыя ад ПДВ. Да астатніх крыніц даходу прымяняецца агульная стаўка ПДВ у памеры 20%.

### Ці існуюць падатковыя льготы для мясцовых ахвярадаўцаў?

Не.

## 6. Абавязкі зарэгістраваных АГС

### Якія патрабаванні да справаздачнасці зарэгістраваных АГС?

***Аб'яднанне:*** Адсутнасць абавязку падаваць штогадовую справаздачу.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Абавязак падаваць штогадовую фінансавую справаздачу. Справаздача падлягае аўдыту, калі гадавы абарот перавышае 165 969 еўра. Інфармацыя, уключаная ў справаздачу, рэгулюецца арт. 25 (2) Закона № 147/1997.

### Ці маюць зарэгістраваныя АГС дадатковыя абавязкі?

***Аб'яднанне і Неінвестыцыйны фонд:*** Павінны зарэгістравацца ў якасці плацельшчыка ПДВ у адпаведным падатковым органе і падаць *падатковую дэкларацыю па ПДВ,* калі гадавы абарот ад падаткаабкладаемага даходу перавышае 49 790 еўра.

Апроч таго, калі АГС атрымліваюць даход з крыніц, не вызваленых ад выплаты падаходнага падатку, яны абавязаны падаць *дэкларацыі аб падаходным падатку.*

## 7. Унутранае кіраванне арганізацыяй

### Якія асноўныя патрабаванні, звязаныя з кіраваннем і ўнутранай структурай у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Аб'яднанне:*** Унутранае кіраўніцтва цалкам вызначана Статутам аб'яднання па меркаванні заснавальнікаў.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Органамі фонду з'яўляюцца:

a) *Савет дырэктараў* — вышэйшы орган фонду. Да эксклюзіўнай кампетэнцыі Савета адносіцца зацвярджэнне бюджэту і выкарыстання сродкаў, зацвярджэнне гадавой фінансавай справаздачы і гадавой справаздачы, рашэнні аб зліцці, аб'яднанні і ліквідацыі фонду, вызначэнне рэсурсаў, якія будуць выдаткаваныя на кіраванне фондам, прызначэнне ліквідатара, ўнясенне змен у Статут, калі гэта прадугледжана ўстаноўчым дагаворам, а таксама іншыя пытанні, якія вызначаюцца Статутам. Савет узначальвае старшыня. Падрабязная інфармацыя пра кампетэнцыю, скліканне сходаў, абмеркаванне і прыняцце рашэнняў Саветам дырэктараў вызначана ў Статуце;

b) *адміністратар* — афіцыйны орган фонду, які кіруе яго дзейнасцю. Прымяняюцца тыя ж кваліфікацыйныя патрабаванні, што і для заснавальнікаў. Адміністратар абіраецца і вызваляецца ад пасады Саветам дырэктараў. Тэрмін яго/яе паўнамоцтваў вызначаецца Статутам. Адміністратар прымае рашэнні па ўсіх відах дзейнасці, за выключэннем тых, якія замацаваныя за іншымі

органамі фонду ў адпаведнасці з заканадаўствам або Статутам. Кампетэнцыя адміністратара можа быць унутрана абмежаваная ўстаноўчымі дакументамі, Статутам або Саветам дырэктараў;

c) *іншыя органы, прадугледжаныя Статутам.*

### Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да членаў кіруючых органаў?

***Аб'яднанне:*** Патрабаванні супадаюць з патрабаваннямі да заснавальнікаў.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Членам Савета дырэктараў можа быць толькі дзеяздольная фізічная асоба, не асуджаная за ўчыненне наўмыснага злачынства. Асоба, якая атрымлівае выгаду ад фонду, не можа быць членам Савета дырэктараў.

### Ці маюць замежныя грамадзяне права з'яўляцца членамі кіраўніцтва арганізацыі?

***Аб'яднанне:*** Так.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Так.

### Ці нясуць заснавальнікі і члены матэрыяльную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Аб'яднанне:*** Не.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Заснавальнікі нясуць адказнасць па ўсіх абавязках да афіцыйнай рэгістрацыі фонду. Пасля рэгістрацыі ўсе абавязкі перадаюцца фонду, калі фонд не адмаўляецца ад іх на працягу 3 месяцаў.

## 8. Супрацоўнікі і члены арганізацыі

### Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да супрацоўнікаў і членаў АГС?

***Аб'яднанне:*** Не.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Адміністратарам фонду можа быць толькі дзеяздольная фізічная асоба, не асуджаная за ўчыненне наўмыснага злачынства.

### Ці існуе патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў арганізацыі?

Не.

## Ці існуе патрабаванне наяўнасці бухгалтара?

Патрабаванне наяўнасці бухгалтара адсутнічае. Аднак існуе патрабаванне весці бухгалтарскі ўлік. Бухгалтарскі ўлік можа весціся на дагаворнай аснове нанятым бухгалтарам або бухгалтарскай кампаніяй.

# 9. Добраахвотны роспуск і ліквідацыя

## Якая працэдура ліквідацыі ў выпадку добраахвотнага роспуску АГС?

***Аб'яднанне:*** Парадак добраахвотнага роспуску вызначаецца Статутам. У выпадку калі ў аб'яднання засталіся актывы або пазыкі, яно прызначае ліквідатара, які задавальняе патрабаванні крэдытораў і размяркоўвае тыя актывы, што засталіся, у адпаведнасці з заканадаўствам.

***Неінвестыцыйны фонд:*** Дзейнасць фонду можа быць спыненая з дапамогай ліквідацыі альбо без. Ліквідацыя з'яўляецца абавязковай, калі тыя актывы фонду, што засталіся, не перадаюцца іншаму мэтаваму фонду ці фонду пасля зліцця або аб'яднання. Фонд можа быць ліквідаваны членам афіцыйнага органа або знешнім ліквідатарам. Ліквідатар выконвае ўсе неабходныя дзеянні для ажыццяўлення працэдуры ліквідацыі. Тыя актывы, што засталіся пасля ліквідацыі фонду, могуць быць перададзеныя толькі іншым неінвестыцыйным фондам. Поўная працэдура ліквідацыі супадае з працэдурай для камерцыйных кампаній і рэгулюецца Камерцыйным кодэксам.



# ШВЕЦЫЯ

## Агульная інфармацыя*

- Сталіца: Стакгольм
- Насельніцтва: 9,593 млн.
- ВУП: 579,7 млрд. дал. ЗША

## Арганізацыйна-прававыя формы АГС і іх характарыстыкі

| *Добраахвотнае аб’яднанне* | *Фонд* |
|---|---|
| • Форма АГС, заснаваная на агульным членстве, без абавязку рэгістрацыі для набыцця правасуб’ектнасці. | • Агульная арганізацыйная форма без членства, заснаваная для збору фінансавых сродкаў для грамадска карысных мэт або для ўзаемнай выгады. |

## Прававое рэгуляванне АГС (асноўныя законы)

- Закон «Аб фондах» 1994 г.;

  Не існуе спецыяльнага заканадаўства аб «добраахвотных аб’яднаннях». Для збору інфармацыі аб іх стварэнні выкарыстоўваліся наступныя крыніцы:
- Voluntarius: Як стварыць добраахвотнае аб’яднанне;
- Закон «Аб дабрачыннасці», юрысдыкцыйныя параўнанні: *Інфармацыйная запіска па Швецыі, падрыхтаваная Майклам Карлсанам (Michael Karlsson) і кампаніяй «Манхаймер Свортлінг»,* выданне першае, 2012 г.;
- Еўрапейскі цэнтр фондаў: *Ключавыя характарыстыкі Швецыі,* 2011 г.;
- «ГХК» (GHK): Даследаванне аб добраахвотнай дапамозе ў Еўрапейскім Саюзе, краінавы даклад па Швецыі, 2012 г.

* Источник: Всемирный банк, 2013.

## 1. Формы АГС і іх характарыстыкі

### Якія формы АГС існуюць? Якія іх асноўныя характарыстыкі?

Існуючыя формы АГС уключаюць: **добраахвотнае аб'яднанне** *(ideel förening)* і **фонд** *(stiftelse).* Закон «Аб фондах» адзначае **«агульны фонд»** *(stiftelser i allmänhet),* **фонд для прыцягнення сродкаў** *(insamlingsstiftelser)* і **фонд на аснове калектыўнай дамовы** *(kollektivavtalsstiftelser).* Для мэт гэтага дапаможніка пададзена інфармацыя пра добраахвотныя аб'яднанні і агульныя фонды.

### Ці існуюць якія-небудзь абмежаванні на дапушчальныя мэты і віды дзейнасці АГС?

***Добраахвотнае аб'яднанне і Фонд:*** Аб'яднанне або фонд не могуць ажыццяўляць дзейнасць, якая парушае заканадаўства і маральныя нормы.

## 2. Патрабаванні да заснавальнікаў АГС

### Якая мінімальная колькасць заснавальнікаў патрабуецца заканадаўствам?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Фармальныя патрабаванні адсутнічаюць. Тым не менш для таго, каб аб'яднанне існавала ў юрыдычным сэнсе, дзве ці больш фізічныя або юрыдычныя асобы павінны заключыць пагадненне аб супрацоўніцтве.

***Фонд:*** 1.

### Якія крытэрыі правамоцнасці заснавальнікаў? Ці могуць замежныя грамадзяне выступаць у якасці заснавальнікаў?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Асаблівыя патрабаванні адсутнічаюць. І фізічныя, і юрыдычныя асобы маюць права з'яўляцца заснавальнікамі.

***Фонд:*** Асаблівыя патрабаванні адсутнічаюць. І фізічныя, і юрыдычныя асобы маюць права з'яўляцца заснавальнікамі.

### Ці існуюць якія-небудзь патрабаванні да заснавальнікаў у дачыненні да грашовых і неграшовых унёскаў?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Не.

***Фонд:*** Не.

## 3. Працэдура рэгістрацыі

### Які орган адказвае за рэгістрацыю?

***Добраахвотнае аб’яднанне:*** Патрабаванне рэгістрацыі адсутнічае. Аб’яднанне лічыцца створаным і атрымлівае статус юрыдычнай асобы пры адпаведнасці агульнапрынятым крытэрыям. Аднак рэгістрацыя можа ажыццяўляцца па рашэнні самаго аб’яднання.

***Фонд:*** Урад акругі (органы мясцовага самакіравання).

### Які памер рэгістрацыйнага збору?

***Добраахвотнае аб’яднанне:*** Рэгістрацыйны збор адсутнічае.

***Фонд:*** 180 шведскіх крон (SEK) (19 еўра).

### Ці існуюць іншыя простыя фінансавыя выдаткі на стварэнне АГС?

***Добраахвотнае аб’яднанне:*** Не, калі добраахвотнае аб’яднанне не мае намеру ажыццяўляць так званую «прадпрымальніцкую дзейнасць» (ideell förening med näringsverksamhet), далей — «гаспадарчая дзейнасць»; іншыя выдаткі, звязаныя са стварэннем аб’яднання, адсутнічаюць.

***Фонд:*** Кошт натарыяльнага завярэння/афіцыйнага пасведчання копій дакументаў, што падаюцца ў рэгіструючы орган.

### Колькі часу займае працэс рэгістрацыі?

***Добраахвотнае аб’яднанне:*** Адсутнічае патрабаванне аб абавязковай рэгістрацыі.

***Фонд:*** Адпаведнае заканадаўства не прадугледжвае якога-небудзь пэўнага тэрміна рэгістрацыі. Органы мясцовага самакіравання могуць даць падрабязную інфармацыю аб працэсе рэгістрацыі.

### Якія дакументы неабходныя для рэгістрацыі?

***Добраахвотнае аб’яднанне:*** Для таго каб аб’яднанне існавала ў юрыдычным сэнсе, *дзве ці больш фізічныя або юрыдычныя асобы* павінны заключыць *пагадненне аб супрацоўніцтве.* Пагадненне павінна быць афармлена *Статутам,* які павінен уключаць у сябе інфармацыю пра найменне і асноўную мэту аб’яднання. Таксама неабходна прызначыць *Праўленне аб’яднання* і падзяліць абавязкі паміж яго членамі. Такім чынам, дакументамі, якія сцвярджаюць, што аб’яднанне было створана як юрыдычная асоба, з’яўляюцца:

- *пратакол устаноўчага сходу;*
- *Статут;*
- *пратакол сходу Праўлення.*

***Фонд:***

- *заява на рэгістрацыю* (уключаючы інфармацыю, прадугледжаную арт. 10 Закона «Аб фондах»);
- *дакумент аб заснаванні (Акт аб заснаванні)* у пісьмовай форме, падпісаны заснавальнікам;
- *копія распараджэння аб заснаванні (Статута);*
- *пацвярджэнне* перадачы актываў.

### ? Ці існуе магчымасць падачы заявы ў электроннай форме?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** —

***Фонд:*** Так.

### ? Ці існуе патрабаванне пра наяўнасць офіса ў краіне? Ці ёсць якія-небудзь спецыяльныя патрабаванні ў сувязі з гэтым?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Не.

***Фонд:*** Фонд абавязаны мець зарэгістраваны офіс або месца знаходжання. Пры адсутнасці пастаяннага офіса ён можа размяшчацца ў месцы знаходжання кіраўніцтва фонду.

### ? Ці існуюць дадатковыя рэгістрацыйныя патрабаванні?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Не.

***Фонд:*** Імя фонду павінна мець слова «фонд» *(stiftelse)*, якое датычыцца яго арганізацыйна-прававой формы.

### ? Ці існуюць дадатковыя адміністрацыйныя працэдуры, злучаныя з рэгістрацыяй?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Калі добраахвотнае аб'яднанне ажыццяўляе гаспадарчую дзейнасць, яно павінна быць зарэгістравана ў афіцыйным гандлёвым рэестры *(handelregistret).*

***Фонд:*** Калі фонд жадае ажыццяўляць гаспадарчую дзейнасць, Праўленне або адміністратар падаюць адпаведныя звесткі для ўнясення ў запіс аб рэгістрацыі. Заява на рэгістрацыю павінна ўтрымліваць імя, пад якім будзе ажыццяўляцца гаспадарчая дзейнасць, а таксама яе характар.

### Якія прававыя падставы выкарыстоўваюцца для адмовы ў рэгістрацыі?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Рэгістрацыя не з'яўляецца абавязковай. У выпадку завершанай рэгістрацыі і ў выпадку, калі добраахвотнае аб'яднанне адпавядае ўсім патрабаванням, прававыя падставы для адмовы ў рэгістрацыі адсутнічаюць.

***Фонд:*** Заканадаўства не прадугледжвае ніякіх падстаў для адмовы ў рэгістрацыі. Такія падставы вызначаюцца нарматыўна-прававымі актамі адпаведнага рэгіёну. Аднак з агульных палажэнняў вынікае, што фонду можа быць адмоўлена ў рэгістрацыі, калі ён мае намер ажыццяўляць дзейнасць, якая парушае заканадаўства і маральныя нормы.

## 4. Крыніцы фінансавання

### Якія існуюць магчымыя крыніцы фінансавання?

***Добраахвотнае аб'яднанне і Фонд:*** Даступныя крыніцы атрымання сродкаў уключаюць:

- дзяржаўнае фінансаванне (як на нацыянальным, так і на мясцовым узроўнях);
- арганізацыйныя гранты, якія размяркоўваюцца дзяржаўнымі і недзяржаўнымі арганізацыямі;
- ахвяраванні айчынных і замежных фізічных і юрыдычных асоб;
- членскія ўнёскі;
- фінансаванне з карпаратыўных фондаў і/ці фондаў мэтавага капіталу;
- латарэі і іншыя азартныя гульні (для арганізацыі гэтых відаў дзейнасці неабходны дазвол);
- міжнародныя механізмы фінансавання і механізмы фінансавання ЕС;
- даходы ад пастаўкі тавараў і паслуг.

### Якія існуюць абмежаванні на магчымыя крыніцы фінансавання?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Да таго часу пакуль крыніцы фінансавання з'яўляюцца законнымі і фінансаванне атрымліваецца законным шляхам, абмежаванні адсутнічаюць.

***Фонд:*** Фонд абавязаны інвеставаць свае актывы ў прымальнай форме і пазбягаць спекулятыўных інвестыцый.

## 5. Падатковы рэжым для АГС

### Які рэжым падаходнага падаткаабкладання для АГС?

***Добраахвотнае аб'яднанне і Фонд:*** Калі аб'яднанні або фонды выконваюць патрабаванні, прадугледжаныя главой 7 (арт. 3–6 і арт. 10) Закона «Аб падаходным падатку», яны абавязаны сплачваць падаткі толькі на даходы ад прыросту капіталу і капітальныя страты, а таксама на даходы ад гаспадарчай дзейнасці. Іншыя віды даходу не падлягаюць абкладанню падаходным падаткам.

Акрамя таго, аб'яднанні, якія адпавядаюць вышэйпералічаным патрабаванням, таксама могуць быць вызваленыя ад падатку на: (A) даходы ад дзейнасці, звязанай са статутнымі мэтамі аб'яднання, (B) даходы ад дзейнасці, якая традыцыйна з'яўляецца крыніцай фінансавання добраахвотнай працы або (C) даходы ад валодання маёмасцю, якая належыць аб'яднанню.

### Які рэжым выплаты ПДВ для АГС?

***Добраахвотнае аб'яднанне і Фонд:*** Вышэйназваныя віды дзейнасці аб'яднанняў, вызваленых ад падаходнага падатку, лічацца некамерцыйнымі, таму таксама вызваляюцца ад выплаты ПДВ. Іншыя віды дзейнасці абкладаюцца ПДВ па агульнай стаўцы ў памеры 25% або па паніжанай стаўцы ў памеры 12%, у залежнасці ад віду дзейнасці. Фонды сплачваюць ПДВ у залежнасці ад віду дзейнасці.

### Ці існуюць падатковыя ільготы для мясцовых ахвярадаўцаў?

***Добраахвотнае аб'яднанне і Фонд:*** Ахвяраванні ад прыватных асоб у АГС, якія ажыццяўляюць дабрачынную дзейнасць для дапамогі асобам, якія жывуць у фінансавай нястачы, або для падтрымкі навуковых даследаванняў, маюць права на падатковы вылік у памеры 25% ад сумы ахвяравання да максімальнай сумы ў памеры 1500 крон (161 еўра). Каб прэтэндаваць на падатковы вылік, ахвярадаўцы абавязаныя зрабіць ахвяраванні на агульную суму 2000 крон (214 еўра) як найменей і кожнае асобнае ахвяраванне павінна складаць як найменей 200 шведскіх крон (22 еўра). Толькі грашовыя ахвяраванні маюць права на падатковыя ільготы, а атрымальнік ахвяравання павінен быць ухвалены падатковымі органамі.

Апроч таго, карпарацыі могуць утрымліваць некаторыя ахвяраванні як бізнес-выдаткі, калі яны звязаныя з прадпрымальніцкай дзейнасцю такіх карпарацый.

# 6. Абавязкі зарэгістраваных АГС

## Якія патрабаванні да справаздачнасці зарэгістраваных АГС?

***Добраахвотнае аб’яднанне:***

- добраахвотнае аб’яднанне абавязана прадстаўляць справаздачу ў падатковы орган Швецыі пры выплаце грашовых сродкаў або наданні ільгот асобам, якім-небудзь чынам звязаным з аб’яднаннем (напрыклад, супрацоўнікам), калі такія грашовыя сродкі/ільготы перавышаюць 100 шведскіх крон (11 еўра);
- добраахвотнае аб’яднанне абавязана прадстаўляць справаздачу ў падатковы орган Швецыі пры выплаце агульнага падатку на заробак (arbetsgivaravgift) і сацыяльнага страхавання.

***Фонд:*** Фонды, актывы якіх перавышаюць 1,5 млн. шведскіх крон (160 468 еўра), фонды, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць, а таксама фонды, створаныя дзяржавай або муніцыпалітэтамі, абавязаныя рыхтаваць штогадовую фінансавую справаздачу за кожны фінансавы год, які ўключае справаздачу аб дзейнасці, справаздачу аб даходах і выдатках, баланс і заўвагі. Дробныя фонды абавязаны прадстаўляць выпіску са сваіх рахункаў.

## Ці маюць зарэгістраваныя АГС дадатковыя абавязкі?

***Добраахвотнае аб’яднанне:***

- добраахвотныя аб’яднанні, актывы якіх перавышаюць 1,5 млн. шведскіх крон (160 468 еўра), абавязаныя весці бухгалтарскі ўлік;
- добраахвотныя аб’яднанні, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць, абавязаныя весці бухгалтарскі ўлік.

***Фонд:***

- усе фонды павінны падаваць штогадовую падатковую дэкларацыю ў падатковую інспекцыю;
- кожны фонд, які абавязаны падаваць штогадовую справаздачу (гл. інфармацыю ў адказе на пытанне «Патрабаванні да справаздачнасці зарэгістраваных АГС»), павінен аплачваць штогадовае назіранне ў залежнасці ад віду фонду. Плата за звычайны фонд складае 400 шведскіх крон (43 еўра);
- усе фонды абавязаныя аплачваць штогадовы збор за справаводства: (A) 425 шведскіх крон (46 еўра), калі кошт актываў фонду на канец папярэдняга фінансавага года перавышае 1,5 млн. шведскіх крон (160 468 еўра); (B) 200 шведскіх крон (22 еўра) — астатнія фонды.

## 7. Унутранае кіраванне арганізацыяй

### Якія асноўныя патрабаванні, звязаныя з кіраваннем і ўнутранай структурай у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Добраахвотнае аб’яднанне:*** Юрыдычныя палажэнні адсутнічаюць. Унутранае кіраванне вызначаецца Статутам аб’яднання. Ва ўсіх аб’яднаннях павінен прысутнічаць **орган праўлення** і **Агульны сход.** Агульны сход з’яўляецца вышэйшым органам для прыняцця рашэнняў. Орган праўлення адказвае за выкананне рашэнняў Агульнага сходу, які прадстаўляе аб’яднанне ў адносінах з трэцімі асобамі і ў працэсе агульнага кіравання аб’яднаннем.

***Фонд:*** Унутранае кіраванне павінна быць вызначана актам аб заснаванні фонду пры ўмове, што яно не супярэчыць заканадаўству (глава 2 Закона «Аб фондах»). Існуюць дзве розныя формы кіравання фондам: **«уласнае кіраванне»** і **«суправаджальнае кіраванне»**:

- у выпадку «ўласнага кіравання» адна або больш фізічных асоб ствараюць праўленне для кіравання фондам і прадстаўлення яго інтарэсаў. Праўленне прызначае старшыню. Рашэнні прымаюцца простай большасцю галасоў, калі іншае не прадугледжана Статутам;
- у выпадку «суправаджальнага кіравання» фонд кіруецца юрыдычнай асобай. Такая юрыдычная асоба з’яўляецца адміністратарам фонду і дзейнічае праз орган кіравання.

У адпаведнасці з Законам, члены праўлення павінны гарантаваць адпаведнасць намерам заснавальніка, Статута і заканадаўства; інвеставанне актываў ажыццяўляецца належным чынам, і бухгалтарскі ўлік вядзецца ў адпаведнасці з палажэннямі заканадаўства.

Прававыя нормы, якія тычацца Назіральных радаў, адсутнічаюць.

### Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да членаў кіруючых органаў?

***Добраахвотнае аб’яднанне:*** Член праўлення павінен быць паўналетнім, не можа быць банкрутам або знаходзіцца пад апекай у адпаведнасці з палажэннямі главы 11 (арт. 7) Кодэкса аб дзецях і бацьках. Член праўлення, зазвычай, таксама павінен з’яўляцца членам арганізацыі, калі Статут не прадугледжвае выключэнне з гэтага правіла.

***Фонд:*** Член праўлення павінен быць паўналетнім, не можа быць банкрутам або знаходзіцца пад апекай у адпаведнасці з палажэннямі главы 11 (арт. 7) Кодэкса аб дзецях і бацьках.

### Ці маюць замежныя грамадзяне права з’яўляцца членамі кіраўніцтва арганізацыі?

***Добраахвотнае аб’яднанне:*** Так.

***Фонд:*** Назіральная рада складаецца з органаў мясцовага самакіравання.

### Ці нясуць заснавальнікі і члены матэрыяльную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Члены аб'яднання не нясуць матэрыяльнай адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам. Аднак прадстаўнік добраахвотнага аб'яднання (зазвычай, член праўлення або асоба, упаўнаважаная падпісваць дакументы ад імя арганізацыі) можа ў некаторых выпадках несці эканамічную адказнасць за выплату добраахвотным аб'яднаннем падаткаў і збораў, калі яны не выплачваюцца ў адпаведнасці з падатковым заканадаўствам і нарматыўнымі актамі.

***Фонд:*** Члены праўлення, адміністратары і аўдытары могуць быць прыцягнуты да адказнасці за шкоду, прычыненую наўмыснымі або нядбайнымі дзеяннямі ў дачыненні да фонду ці трэціх асоб. Яны таксама могуць несці крымінальную адказнасць у адпаведнасці з Крымінальным кодэксам.

## 8. Супрацоўнікі і члены арганізацыі

### Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да супрацоўнікаў і членаў АГС?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** У цэлым кваліфікацыйныя патрабаванні да членаў добраахвотнага аб'яднання адсутнічаюць. Да супрацоўнікаў ужываецца выключна шведскае заканадаўства аб занятасці. У выпадку калі супрацоўнік з'яўляецца прадстаўніком аб'яднання або асобай, упаўнаважанай ажыццяўляць права подпісу ад імя арганізацыі, ён/яна таксама павінен/павінна задавальняць тым жа патрабаванням, што і члены праўлення.

***Фонд:*** Калі член або супрацоўнік прадстаўляе фонд, заснаваны дазволам праўлення або адміністратара, ён/яна павінны быць паўналетнім(-няй), не можа быць банкрутам або пад апекай у адпаведнасці з палажэннямі главы 11 (арт. 7) Кодэкса аб дзецях і бацьках.

### Ці існуе патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў арганізацыі?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Не.

***Фонд:*** Не.

### Ці існуе патрабаванне наяўнасці бухгалтара?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Добраахвотнае аб'яднанне абавязана мець у штаце ўнутранага рэвізора. Для таго каб добраахвотнае аб'яднанне было абавязана мець бухгалтара, яно:

- павінна ўключаць больш за 50 членаў;
- мець больш за 40 млн. шведскіх крон (4281 еўра) зарэгістраваных актываў;

- мець больш за 80 млн. шведскіх крон (8563 еўра) зарэгістраванага чыстага даходу.

***Фонд:*** Абавязак пра наяўнасць штатнага бухгалтара адсутнічае, аднак існуе абавязак весці бухгалтарскі ўлік. Да таго ж, кожны фонд абавязаны мець аўдытара. У выпадку калі фонд абавязаны падрыхтоўваць гадавую фінансавую справаздачу, адзін аўдытар, як найменей, павінен з'яўляцца кваліфікаваным сертыфікаваным дыпламаваным бухгалтарам або апрабаваным дыпламаваным бухгалтарам.

## 9. Добраахвотны роспуск і ліквідацыя

### ? Якая працэдура ліквідацыі ў выпадку добраахвотнага роспуску АГС?

***Добраахвотнае аб'яднанне:*** Пісьмовая працэдура рэгістрацыі адсутнічае. Традыцыйна выкарыстоўваецца працэдура, калі ў першую чаргу задавальняюцца патрабаванні крэдытораў, а потым тыя актывы, што засталіся, выкарыстоўваюцца ў адпаведнасці з палажэннямі Статута. Пры адсутнасці адпаведных палажэнняў Статута актывы размяркоўваюцца паміж членамі аб'яднання.

***Фонд:*** Калі існуюць падставы меркаваць, што кошт актываў фонду менш, чым сума фінансавага абавязку, праўленне або адміністратар падрыхтоўваюць баланс. Калі баланс паказвае, што памер актываў меншы за памер абавязку, неабходна падаць хадайніцтва аб ліквідацыі ў адпаведны суд.

Суд прызначае аднаго або некалькіх ліквідатараў, якія замяняюць праўленне або адміністратара і заносяцца ў рэестр. За перыяд, у які не праводзіўся аўдыт справаздачнасці, рыхтуецца фінансавая справаздача. Ліквідатары абавязаны таксама публікаваць апавяшчэнне аб ліквідацыі фонду для магчымых крэдытораў. Па заканчэнні тэрміну для прад'яўлення патрабаванняў крэдытораў і пасля выплаты ўсіх вядомых абавязкаў ліквідатары выкарыстоўваюць астатнія сродкі для мэты стварэння фонду альбо для падобнай мэты.

Роспуск дробных фондаў (пры ўмове адсутнасці ў іх пазыкаў) прадугледжаны, калі такія фонды не маглі пераследваць свае мэты на працягу апошніх пяці гадоў і былі створаны, па меншай меры, 20 гадоў таму. У выпадку роспуску актывы павінны быць накіраваны на мэты, для якіх ствараўся фонд, альбо для падобных мэтаў.

# УКРАІНА



## Агульная інфармацыя*

- Сталіца: Кіеў
- Насельніцтва: 45,4 млн.
- ВУП: 177,4 млрд. дал. ЗША

### Арганізацыйна-прававыя формы АГС і іх характарыстыкі

| *Грамадская арганізацыя* | *Дабрачыннае таварыства* |
|---|---|
| • Агульная арганізацыйная форма, заснаваная на членстве. Засноўваецца як найменей 2 дзеяздольнымі фізічнымі асобамі, якія афіцыйна пражываюць ва Украіне. | • Арганізацыйная форма без членства, якая створана для дабрачынных мэт і мае статутныя фонды. Заснавальнікі не ўдзельнічаюць у кіраванні. |
| *Грамадскі саюз* | *Дабрачынны фонд* |
| • Арганізацыйная форма, заснаваная на членстве. Засноўваецца юрыдычнымі асобамі. | • Арганізацыйная форма без членства, якая ствараецца, як найменей адным заснавальнікам, без патрабавання першапачатковага капіталу і з магчымасцю ўключэння ўдзельнікаў у дзейнасць. |

*Дабрачыннае аб'яднанне*

- Форма без членства. Засноўваецца як найменей 2 фізічнымі альбо юрыдычнымі асобамі для дабрачынных мэт. Дазваляецца ўдзел членаў у дзейнасці.

### Прававое рэгуляванне АГС (асноўныя законы)

- Грамадзянскі кодэкс, 2003 г.;
- Закон «Аб грамадскіх аб'яднаннях», 2013 г.;
- Закон «Аб дабрачыннасці і дабрачынных арганізацыях», 2013 г.

* Крыніца: Сусветны банк, 2013 г.

# 1. Формы АГС і іх характарыстыкі

### Якія формы АГС існуюць ва Украіне? Якія іх асноўныя характарыстыкі?

Існуючыя формы АГС уключаюць: грамадскія аб'яднанні, а таксама дабрачынныя і філантрапічныя арганізацыі. Існуе дзве формы грамадскіх аб'яднанняў: **грамадская арганізацыя** *(громадська організація)* і **грамадскі саюз** *(громадська спілка)*. Дабрачынныя і філантрапічныя арганізацыі могуць набываць форму **дабрачыннага аб'яднання** *(благодійне товариство)*, **дабрачыннага таварыства** *(благодійна установа)* і **дабрачыннага фонду** *(благодійний фонд)*. Для мэт гэтага дапаможніка пададзена інфармацыя пра грамадскія арганізацыі і дабрачынныя фонды.

### Ці існуюць якія-небудзь абмежаванні на дапушчальныя мэты і віды дзейнасці АГС?

***Грамадская арганізацыя:*** Грамадскія арганізацыі могуць самастойна вызначаць свае мэты і віды дзейнасці ў адпаведнасці са статутнымі мэтамі.

Закон «Аб грамадскіх аб'яднаннях» (арт. 4) забараняе аб'яднанні, якія маюць сваёй мэтай ліквідацыю незалежнасці Украіны, змяненне канстытуцыйнага ладу гвалтоўным шляхам, парушэнне суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці, падрыў бяспекі, незаконны захоп улады; якія прапагандуюць вайну, гвалт і распальванне этнічнай, расавай або рэлігійнай нянавісці, парушэнне правоў і свабод чалавека і здароўя.

***Дабрачынны фонд:*** Дабрачынныя фонды павінны спрыяць ажыццяўленню законных інтарэсаў бенефіцыяраў у сферах дабрачыннай дзейнасці, вызначаных законам.

Дабрачынныя арганізацыі не могуць аказваць дабрачынную дапамогу партыям альбо ад імя палітычных партый, а таксама браць удзел у палітычных кампаніях.

# 2. Патрабаванні да заснавальнікаў АГС

### Якая мінімальная колькасць заснавальнікаў патрабуецца заканадаўствам?

***Грамадская арганізацыя:*** 2.

***Дабрачынны фонд:*** 1.

### Якія крытэрыі правамоцнасці заснавальнікаў? Ці могуць замежныя грамадзяне выступаць у якасці заснавальнікаў?

***Грамадская арганізацыя:*** Толькі фізічныя асобы, у тым ліку замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія афіцыйна пражываюць ва Украіне, могуць быць заснавальнікамі.

*Дабрачынны фонд:* Заснавальнікамі могуць з’яўляцца цалкам дзеяздольныя фізічныя і юрыдычныя асобы.

### Ці існуюць якія-небудзь патрабаванні да заснавальнікаў у дачыненні да грашовых і неграшовых унёскаў?

*Грамадская арганізацыя:* Не.

*Дабрачынны фонд:* Заснавальнікі не абавязаныя перадаваць арганізацыі грашовыя сродкі або актывы. Актывы могуць перадавацца ўдзельнікамі фонду і/ці іншымі ахвярадаўцамі.

## 3. Працэдура рэгістрацыі

### Які орган адказвае за рэгістрацыю?

*Грамадская арганізацыя:* Мясцовыя тэрытарыяльныя органы Міністэрства юстыцыі.

*Дабрачынны фонд:* Дзяржаўны рэгістратар, мясцовы аддзел дзяржаўнай рэгістрацыі.

### Які памер рэгістрацыйнага збору?

*Грамадская арганізацыя:* Бясплатна.

*Дабрачынны фонд:* 51 грыўна (2 еўра).

### Ці існуюць іншыя фінансавыя выдаткі на стварэнне АГС?

*Грамадская арганізацыя і дабрачынны фонд:* Подпіс на заяўцы мусіць быць натарыяльна завераны 150 грыўняў (6 еўра).

### Колькі часу займае працэс рэгістрацыі?

*Грамадская арганізацыя:* 7 дзён (са статусам юрыдычнай асобы).

*Дабрачынны фонд:* 3 дні.

### Якія дакументы неабходныя для рэгістрацыі?

*Грамадская арганізацыя:* На працягу 60 дзён са дня стварэння арганізацыі заснавальнікі абавязаны падаць у рэгіструючы орган:

- *Статут* — 2 экзэмпляры;
- *заяву* (з натарыяльна завераным подпісам);

- *пратакол устаноўчага сходу;*
- *інфармацыю пра членаў кіруючых органаў;*
- *рэгістрацыйную картку* для рэгістрацыі юрыдычнай асобы.

***Дабрачынны фонд:***

- *Статут* — 2 экзэмпляры;
- *пратакол устаноўчага сходу;*
- *інфармацыя пра членаў кіруючых органаў;*
- *рэгістрацыйная картка* для рэгістрацыі юрыдычнай асобы.

### Ці існуе магчымасць падачы заявы ў электроннай форме?

Не, аднак існуе магчымасць падачы заявы па пошце.

### Ці існуе патрабаванне пра наяўнасць офіса ў краіне? Ці ёсць якія-небудзь спецыяльныя патрабаванні ў сувязі з гэтым?

***Грамадская арганізацыя і Дабрачынны фонд:*** Так, патрабуецца наяўнасць юрыдычнага адрасу альбо рэгістрацыя юрыдычнага адрасу ў месцы пражывання.

### Ці існуюць дадатковыя рэгістрацыйныя патрабаванні?

***Грамадская арганізацыя і Дабрачынны фонд:*** Не.

### Ці існуюць дадатковыя адміністрацыйныя працэдуры, звязаныя з рэгістрацыяй?

***Грамадская арганізацыя і Дабрачынны фонд:*** Для ажыццяўлення фінансавых аперацый патрабуецца адкрыццё банкаўскага рахунку.

### Якія прававыя падставы выкарыстоўваюцца для адмовы ў рэгістрацыі?

***Грамадская арганізацыя:*** Мясцовыя тэрытарыяльныя органы Міністэрства юстыцыі могуць адмовіць у рэгістрацыі па наступных прычынах:

- не ўсе патрэбныя дакументы пададзеныя;
- дакументы з’яўляюцца няпоўнымі;
- дакументы падаюцца асобай, якая не мае адпаведных паўнамоцтваў;
- дакументы падаюцца з парушэннем тэрміну падачы паведамлення;
- грамадская арганізацыя не змагла паўторна падаць дакументы па патрабаванні рэгіструючага органа.

Рэгіструючы орган паведамляе заяўніку аб неадпаведнасцях. Заяўнік можа ўнесці папраўкі і паўторна падаць заяўку на працягу 6 месяцаў.

***Дабрачынны фонд:*** Дзяржаўны рэгістратар можа адмовіць у рэгістрацыі па наступных прычынах:

- дакументы не пададзеныя ў мясцовы рэгіструючы орган;
- дакументы не адпавядаюць патрабаванням;
- рэгістрацыя забаронена рашэннем суда;
- дакументы з’яўляюцца няпоўнымі;
- дакументы падаюцца асобай, якая не мае адпаведных паўнамоцтваў.

## 4. Крыніцы фінансавання

### Якія існуюць магчымыя крыніцы фінансавання?

***Грамадская арганізацыя:***

- дзяржаўная падтрымка — напрыклад, дзяржаўныя гранты, субсідыі, датацыі мясцовых улад;
- замежныя гранты;
- ахвяраванні фізічных і юрыдычных асоб, уключаючы збор сродкаў;
- членскія ўнёскі;
- даходы ад статутнай эканамічнай дзейнасці;
- мэтавы капітал (эндаўмэнт).

***Дабрачынны фонд:***

- унёскі заснавальнікаў і ўдзельнікаў;
- ахвяраванні;
- дабрачынныя гранты;
- мэтавы капітал і працэнты;
- эканамічная дзейнасць.

### Якія існуюць абмежаванні на магчымыя крыніцы фінансавання?

***Грамадская арганізацыя:*** Эканамічная дзейнасць не можа быць асноўнай статутнай дзейнасцю і мусіць адпавядаць мэтам і задачам арганізацыі. У выпадку калі грамадская арганізацыя ажыццяўляе эканамічную дзейнасць, яна не можа атрымаць статус непрыбытковай арганізацыі (гл. раздзел «Падатковы рэжым»).

***Дабрачынны фонд:*** Ахвяраванні і дабрачынныя гранты павінны быць выкарыстаны на працягу тэрміну, названага ахвярадаўцам, і не пазней чым на працягу 12 месяцаў пасля атрымання.

Атрымальнік можа выкарыстоўваць толькі працэнты з мэтавага капіталу. Для выкарыстання ўсёй сумы неабходна атрымаць дазвол ахвярадаўцаў.

## 5. Падатковы рэжым для АГС

### Які рэжым падаходнага падаткаабкладання для АГС?

АГС могуць вырашыць аб атрыманні статусу непрыбытковай арганізацыі ў падатковых органах. У гэтым выпадку яны будуць вызваленыя ад падаходнага падатку без абмежаванняў.

Атрымальнік дабрачынных ахвяраванняў павінен выкарыстоўваць адпаведныя сумы ў тэрміны, устаноўленыя ахвярадаўцам, і не пазней 12 месяцаў з моманту атрымання.

Арганізацыі могуць выбраць спрошчаную сістэму падаткаабкладання са стаўкай 2–4%, але ў такім выпадку яны не будуць мець ніякіх іншых падатковых ільгот. Агульная стаўка падаходнага падатку складае 18%.

### Які рэжым выплаты ПДВ для АГС?

У выпадку аказання бескаштоўных паслуг і бескаштоўнага ахвяравання тавараў і паслуг ПДВ не выплачваецца (арт. 197 Падатковага кодэкса). У адваротным выпадку прымяняецца агульная стаўка ПДВ у памеры 20%. Калі агульная колькасць паслуг/тавараў у год перавышае 1 000 000 грыўняў (40 000 еўра), АГС павінны зарэгістравацца ў якасці плацельшчыкаў ПДВ у адпаведным падатковым органе. Дабрачынныя фонды вызвалены ад аплаты ПДВ і не маюць патрабання рэгістрацыі.

Арганізацыі могуць выбраць спрошчаную сістэму падаткаабкладання са стаўкай 2–4%, але ў такім выпадку яны не будуць мець ніякіх іншых падатковых ільгот.

### Ці існуюць падатковыя ільготы для мясцовых ахвярадаўцаў?

Юрыдычныя асобы-рэзідэнты і фізічныя асобы-рэзідэнты маюць права на падатковы вылік у памеры да 4%.

## 6. Абавязкі зарэгістраваных АГС

### Якія патрабаванні да справаздачнасці зарэгістраваных АГС?

***Грамадская арганізацыя:*** Грамадскія арганізацыі абавязаны рыхтаваць штогадовыя статыстычныя і фінансавыя справаздачы з падрабязнай інфармацыяй пра даходы і выдаткі. Уся справаздачная дакументацыя павінна захоўвацца на працягу 5 гадоў і падавацца па патрабаванні кантралюючага органа.

***Дабрачынны фонд:*** Дабрачынныя фонды абавязаны рыхтаваць і падаваць гадавую фінансавую і статыстычную справаздачу. У рамках гадавой фінансавай справаздачы дабрачынныя фонды павінны весці бухгалтарскую справаздачу/справаздачу па эканамічнай дзейнасці. Статуты могуць прадугледжваць дадатковыя справаздачы ахвярадаўцам у дачыненні да выкарыстання прадстаўленых імі сродкаў.

### Ці маюць зарэгістраваныя АГС дадатковыя абавязкі?

Калі агульная сумма паслуг/тавараў перавышае 1 000 000 грыўняў (40 000 еўра), АГС (за выключэннем дабрачынных фондаў) мусяць рэгістравацца як плацельшчыкі ПДВ.

## 7. Унутранае кіраванне арганізацыяй

### Якія асноўныя патрабаванні, звязаныя з кіраваннем і ўнутранай структурай у адпаведнасці з заканадаўствам?

***Грамадская арганізацыя:*** Заканадаўства прадугледжвае свабоду арганізацыі ў вызначэнні свайго ўнутранага кіравання. Структура кіравання павінна быць вызначана ў статуце. Звычайна існуе два абавязковыя органы:

- *вышэйшы орган кіравання* — Агульны сход удзельнікаў;
- *выканаўчы орган* — напрыклад, выканаўчы дырэктар, старшыня.

Кантралюючы орган, напрыклад Кантрольная або Рэвізійная камісія, не з’яўляецца абавязковым.

***Дабрачынны фонд:*** Структура кіравання вызначана ў Статуце.

Абавязковыя органы ўключаюць:

- *вышэйшы орган кіравання* — Агульны сход удзельнікаў;
- *выканаўчы орган* — напрыклад, выканаўчы дырэктар, старшыня;
- *Назіральны савет* — у дабрачынных фондах, колькасць удзельнікаў якіх менш за 10, стварэнне Назіральнага савета не абавязковае. У такім выпадку функцыі Назіральнага савета надаюцца Агульнаму сходу.

*Кіруючы орган* адказвае за прыняцце рашэнняў, якія адносяцца да дзейнасці дабрачыннага фонду. Кампетэнцыя кіруючага органа ўключае:

- змены ў Статут;
- прызначэнне, выбары ці звальненне членаў выканаўчага органа і Назіральнага савета;
- прыняцце рашэнняў аб ліквідацыі або рэарганізацыі;
- іншыя паўнамоцтвы, вызначаныя Статутам дабрачыннага фонду.

Калі дабрачынны фонд складаецца з аднаго ўдзельніка, рашэнні прымаюцца аднаасобна і захоўваюцца ў пісьмовай форме.

*Кантралюючы савет* кантралюе і рэгулюе дзейнасць выканаўчага органа. Члены выканаўчага органа не могуць быць членамі кантралюючага савета. Кантралюючы савет сцвярджае дабрачынныя праграмы і кантралюе адпаведнасць дзейнасці і выкарыстанне маёмасці. Ён мае права часова прыпыніць паўнамоцтвы любога члена выканаўчага органа да прыняцця рашэння вышэйшага кіруючага органа, калі іншае не вызначана Статутам.

### ? Ці ёсць кваліфікацыйныя патрабаванні да членаў кіруючых органаў?

Любая цалкам дзеяздольная фізічная асоба, без абмежаванняў па месцы жыхарства або грамадзянства, можа быць членам кіруючага органа.

### ? Ці маюць замежныя грамадзяне права з'яўляцца членамі кіраўніцтва арганізацыі?

Так.

### ? Ці нясуць заснавальнікі і члены матэрыяльную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам?

Не.

## 8. Супрацоўнікі і члены арганізацыі

### ? Ці існуе патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў арганізацыі?

Патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў адсутнічае.

### ? Ці існуе патрабаванне наяўнасці бухгалтара?

Так.

## 9. Добраахвотны роспуск і ліквідацыя

### Якая працэдура ліквідацыі ў выпадку добраахвотнага роспуску АГС?

***Грамадская арганізацыя:*** Працэс добраахвотнай ліквідацыі прадугледжаны Статутам. Заснавальнікі або ўпаўнаважаны орган кіравання, якія прынялі рашэнне аб ліквідацыі, абавязаны стварыць *ліквідацыйную камісію*. Ліквідацыйная камісія нясе адказнасць за ўсе далейшыя разборы АГС і можа прадстаўляць яе інтарэсы ў судзе. Камісія абавязана паведаміць дзяржаўнага рэгістратара аб намеры ліквідаваць арганізацыю. Для гэтага падаюцца наступныя дакументы:

- *рашэнне* аб ліквідацыі;
- *пасведчанне аб рэгістрацыі* (арыгінал або завераная копія);
- *Статут* (арыгінал або завераная копія);
- *рэгістрацыйная картка* аб рэгістрацыі роспуску.

Рэгіструючы орган паведамляе аб адміністрацыйным рашэнні пачаць працэс ліквідацыі на працягу 10 рабочых дзён.

Грамадская арганізацыя можа быць ліквідаваная па рашэнні суда на наступных падставах:

- непрадстаўленне на працягу 1 года фінансавай і іншай справаздачы ў падатковыя органы;
- адсутнасць юрыдычнай асобы па юрыдычным адрасе;
- банкруцтва.

***Дабрачынны фонд:*** Кіруючы орган прымае рашэнне аб роспуску і прызначае ліквідацыйную камісію.

Пасля падачы прэтэнзій крэдытораў ліквідацыйная камісія падае мясцоваму дзяржаўнаму рэгістратару наступныя дакументы (асабіста або па пошце):

- *рэгістрацыйная картка* аб рэгістрацыі роспуску;
- *афіцыйная даведка* падатковых органаў аб адсутнасці запазычанасці;
- *афіцыйная даведка* Пенсійнага фонду аб адсутнасці запазычанасці па сацыяльных выплатах і пенсійных узносах;
- *афіцыйная даведка* архіва аб атрыманні дакументаў для абавязковага захоўвання ў архіве.

Пасля прадстаўлення поўнага пакета дакументаў дзяржаўны рэгістратар прымае рашэнне аб роспуску. Балансавыя актывы дабрачынных фондаў перадаюцца арганізацыям-бенефіцыярам, прадугледжаным заканадаўствам. Калі іншае не агаворана Статутам, сродкі перадаюцца дзяржаве.

# ВЫБРАНЫЯ ЗАКОНЫ ДЛЯ АГС

## Чэхія

**Асноўныя нацыянальныя законы і акты:**

- Закон № 89/2012 Зб. Грамадзянскі кодэкс;
- Закон № 235/2004 Зб. «Аб ПДВ»;
- Закон № 586/1992 Зб. «Аб падаходным падатку»;
- Закон № 304/2013 Зб. «Аб дзяржаўных рэестрах юрыдычных і фізічных асоб».

## Эстонія

**Асноўныя нацыянальныя законы і акты:**

- Закон «Аб некамерцыйных аб’яднаннях» ад 6 чэрвеня 1996 г.;
- Закон «Аб фондах» ад 15 лістапада 1995 г.;
- Закон «Аб абавязацельствах» ад 26 верасня 2001 г.

## Літва

**Асноўныя нацыянальныя законы і акты:**

- Закон № IX-1969/2004 «Аб аб’яднаннях»;
- Закон № I-1428/1996 «Аб грамадскіх ўстановах»;
- Закон № I-1232/1996 «Аб дабрачынных і спонсарскіх фондах»;
- Закон № XII-717/2013 «Аб развіцці недзяржаўных арганізацый».

## Польшча

**Асноўныя нацыянальныя законы і акты:**

- Закон «Аб аб'яднаннях» ад 7 красавіка 1989 г.;
- Закон «Аб фондах» ад 6 красавіка 1984 г.;
- Закон «Аб сацыяльным забеспячэнні і добраахвотнай працы» ад 24 красавіка 2003 г.;
- Закон «Аб гаспадарчай дзейнасці» ад 21 жніўня 2004 г.;
- Закон «Аб падатку на даходы карпарацый»;
- «Закон «Аб ПДВ».

## Расія

**Асноўныя нацыянальныя законы і акты:**

- Грамадзянскі кодэкс, верасень 2014 г.;
- Федэральны закон № 7-ФЗ «Аб некамерцыйных арганізацыях» 12 студзеня 1996 г.;
- Федэральны закон № 82-ФЗ «Аб грамадскіх аб'яднаннях» ад 19 мая 1995 г.;
- Федэральны закон № 121-ФЗ «Аб зменах у асобныя заканадаўчыя акты Расійскай Федэрацыі ў частцы рэгулявання дзейнасці некамерцыйных арганізацый, якія выконваюць функцыі замежнага агента» ад 20 ліпеня 2012 г.

## Славакія

**Асноўныя нацыянальныя законы і акты:**

- Закон № 83/1990 Зб. «Аб аб'яднаннях грамадзян»;
- Закон № 34/2002 Зб. «Аб фондах»;
- Закон № 147/1997 Зб. «Аб неінвестыцыйных фондах»;
- Закон № 213/1997 Зб. «Аб некамерцыйных арганізацыях, якія аказваюць грамадска карысныя паслугі».

## Швецыя

**Асноўныя нацыянальныя законы і акты:**

- Закон «Аб фондах» 1994 г.;

Іншыя матэрыялы:

- Voluntarius: Як стварыць добраахвотнае аб’яднанне;
- Закон «Аб дабрачыннасці», юрысдыкцыйныя параўнанні: Інфармацыйная запіска па Швецыі, падрыхтаваная Майклам Карлсанам (Michael Karlsson) і кампаніяй «Манхаймер Свортлінг», выданне першае, 2012 г.
- Еўрапейскі цэнтр фондаў: Ключавыя характарыстыкі Швецыі, 2011 г.
- «ГХК» (GHK): Даследаванне аб добраахвотнай дапамозе ў Еўрапейскім Саюзе, краінавы даклад па Швецыі, 2012 г.

## Украіна

**Асноўныя нацыянальныя законы і акты:**

- Грамадзянскі кодэкс, 2003 г.;
- Закон «Аб грамадскіх аб’яднаннях», 2013 г.;
- Закон «Аб дабрачыннасці і дабрачынных арганізацыях», 2013 г.

*Табліца 1*

**Умовы заснавання АГС**

| Краіна | Форма арганізацыі | Мінімальная колькасць заснавальнікаў | Замежныя заснавальнікі | Рэгіструючы орган | Падача заявы ў электроннай форме | Рэгістрацыйны збор | Працягласць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Чэхія | *Аб'яднанне* | 3 | Так | Раённы суд ці Натарыус | Так | 1000 чэшскіх крон (37 еўра)/ збор за рэгістрацыю не спаганяецца да 30 чэрвеня 2016 г. | Максімум 30 дзён |
| | *Мэтавы фонд* | 1 | Так | Раённы суд ці Натарыус | Так | 2000 чэшскіх крон (73 еўра)/ збор за рэгістрацыю не спаганяецца да 30 чэрвеня 2016 г. | 5 дзён |
| Эстонія | *Некамерцыйнае аб'яднанне* | 2 | Так | Аддзел рэгістрацыі Раённага суда г. Тарту/рэгістрацыя падаецца ў электроннай форме ці праз натарыуса | Так | 20 еўра | 5 дзён |
| | | 1 | Так | Аддзел рэгістрацыі Раённага суда г. Тарту | Праз натарыуса | 58 еўра | 5 дзён |

| Краіна | Форма арганізацыі | Мінімальная колькасць заснавальнікаў | Замежныя заснавальнікі | Рэгіструючы орган | Падача заявы ў электроннай форме | Рэгістрацыйны збор | Працягласць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Літва | ***Аб'яднанне*** | 3 | Так | Рэестр юрыдычных асоб/рэгістрацыя падаецца ў электроннай форме ці праз натарыуса | Так | 26 еўра | 3 дня (на практыцы — да 6 месяцаў) |
| | ***Дабрачынны і спонсарскі фонд*** | 1 | Так | Рэгістрацыйны цэнтр, падраздзяленне: Рэестр юрыдычных асоб | Так | 26 еўра | 3 дня (на практыцы — да 6 месяцаў) |
| | ***Грамадская ўстанова*** | 1 | Так | Рэгістрацыйны цэнтр, падраздзяленне: Рэестр юрыдычных асоб | Так | 31 еўра | 3 дня (на практыцы — да 6 месяцаў) |
| Польшча | ***Аб'яднанне*** | 15 | Толькі замежныя грамадзяне, якія афіцыяльна пражываюць у Польшчы | Нацыянальны судовы рэестр, вызначаны месцазнаходжаннем галаўнога офіса арганізацыі | Так | Вызваляюцца ад рэгістрацыйнага збору | Да 3-х месяцаў |
| | ***Фонд*** | 1 | Так | Нацыянальны судовы рэестр, вызначаны месцазнаходжаннем галаўнога офіса арганізацыі | Так | 250 польскіх злотых (60 еўра)/ арганізацыі, якія маюць статус грамадска карысных, вызваляюцца ад выплаты судовых выдаткаў | 7 дзён |

| Краіна | Форма арганізацыі | Мінімальная колькасць заснавальнікаў | Замежныя заснавальнікі | Рэгіструючы орган | Падача заявы ў электроннай форме | Рэгістрацыйны збор | Працягласць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Расія | *Грамадская арганізацыя* | 3 | Толькі замежныя грамадзяне, якія афіцыйна пражываюць у Расіі | Тэрытарыяльны орган Міністэрства юстыцыі | Так | 4000 расійскіх рублёў (60 еўра) | 33 дні |
| | *Фонд* | 1 | Толькі замежныя грамадзяне, якія афіцыйна пражываюўць у Расіі | Тэрытарыяльны орган Міністэрства юстыцыі | Так | 4000 расійскіх рублёў (60 еўра) | 33 дні |
| Славакія | *Аб'яднанне* | 3 | Не | Міністэрства ўнутраных спраў, аддзяленне Грамадскага кіравання, Дэпартамент агульнага ўнутранага кіравання | Не | 66 еўра | 10–40 дзён |
| | *Неінвестыцыйны фонд* | 1 | Так | Адпаведнае рэгіянальнае аддзяленне | Не | 66 еўра | 60 дзён |
| Швецыя | *Добраахвотнае аб'яднанне* | 2 | Так | Рэгістрацыйныя патрабаванні адсутнічаюць | | | |
| | *Фонд* | 1 | Так | Урад акругі | Так | 180 шведскіх крон (19 еўра) | Не рэгулюецца нацыянальным заканадаўствам |
| Украіна | *Грамадская арганізацыя* | 2 | Замежныя грамадзяне, якія афіцыйна пражываюць ва Украіне | Тэрытарыяльны аддзел Міністэрства юстыцыі | Не | Вызваляюцца ад рэгістрацыйнага збору | 7 дзён |
| | *Дабрачынны фонд* | 1 | Замежныя грамадзяне, якія афіцыйна пражываюць ва Украіне | Дзяржаўны рэгістратар, мясцовы аддзел дзяржаўнай рэгістрацыі | Не | 51 грыўна (2 еўра) | 3 дзён |

*Табліца 2*

**Крыніцы фінансавання АГС**

| Краіна | Форма арганізацыі | Магчымыя крыніцы фінансавання | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Фінансаванне з-за мяжы | Простая эканамічная дзейнасць | Дзяржаўнае фінансаванне |
| Чэхія | *Аб'яднанне* | Так | Так, пры ўмове, што простая эканамічная дзейнасць не з'яўляецца асноўным статутным відам дзейнасці, а атрыманы прыбытак выкарыстоўваецца на статутныя мэты дзейнасці. | Так |
| | *Мэтавы фонд* | Так | Так, пры ўмове, што простая эканамічная дзейнасць не з'яўляецца асноўным статутным відам дзейнасці, а атрыманы прыбытак выкарыстоўваецца на статутныя мэты дзейнасці. | Так |
| Эстонія | *Некамерцыйнае аб'яднанне* | Так | Так, пры ўмове, што простая эканамічная дзейнасць не з'яўляецца асноўным статутным відам дзейнасці, а атрыманы прыбытак выкарыстоўваецца на статутныя мэты дзейнасці. | Так |
| | *Фонд* | Так | Прымяняюцца некаторыя абмежаванні, прадугледжаныя арт. 2 Закона «Аб фондах». | Так |
| Літва | *Аб'яднанне* | Так | Так | Так |
| | *Дабрачынны і спонсарскі фонд* | Так | Так | Так |
| | *Грамадская ўстанова* | Так | Так | Так |

| Краіна | Форма арганізацыі | Магчымыя крыніцы фінансавання | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Фінансаванне з-за мяжы | Простая эканамічная дзейнасць | Дзяржаўнае фінансаванне |
| Польшча | ***Аб’яднанне*** | Так | Так, аднак атрыманы прыбытак можа быць накіраваны выключна на дасягненне статутных мэт. | Так |
| | ***Фонд*** | Так | Так, аднак атрыманы прыбытак можа быць накіраваны выключна на дасягненне статутных мэт. | Так |
| Расія | ***Грамадская арганізацыя*** | Абмежаванні накладаюцца «законам аб замежных агентах». Любыя арганізацыі, якія атрымліваюць сродкі або маёмасць з-за мяжы, абавязаны зарэгістравацца ў якасці арганізацый, якія ажыццяўляюць функцыі замежных агентаў. Гранты ад замежных ахвярадаўцаў рэгулярна абкладаюцца падаткам, калі асоба, якая надае грант, не ўключана ў спіс ахвярадаўцаў, вызваленых ад падаткаабкладання. | Не, толькі проста, праз стварэнне асобнага ТАА. | Так |
| | ***Фонд*** | | Не, толькі проста, праз стварэнне асобнага ТАА. | Так |
| Славакія | ***Аб’яднанне*** | Так | Так, пры ўмове, што простая эканамічная дзейнасць не з’яўляецца асноўным статутным відам дзейнасці, а атрыманы прыбытак выкарыстоўваецца на статутныя мэты дзейнасці. | Так |
| | ***Неінвестыцыйны фонд*** | Так | Не | Так |
| Швецыя | ***Добраахвотнае аб’яднанне*** | Так | Так | Так |
| | ***Фонд*** | Так | Так | Так |
| Украіна | ***Грамадская арганізацыя*** | Так | Так, прадугледжана як статутная дзейнасць. | Так |
| | ***Дабрачынны фонд*** | Так | Так | Так |

*Табліца 3*

**Падатковы рэжым для АГС**

| Краіна | Стаўка падаходнага падатку | Вызваленне ад падаходнага падатку | Агульная стаўка ПДВ | Вызваленне ад ПДВ | Падатковыя ільготы для ахвярадаўцаў |
|---|---|---|---|---|---|
| **Чэхія** | 19%. Аднак АГС могуць паменшыць падатковую базу на 30%, але не больш за 1 000 000 чэшскіх крон (36 500 еўра). | Прыбытак ад грантаў і ахвяраванняў, калі яны выкарыстоўваюцца для дасягнення статутных мэт, даход ад дзейнасці, звязанай са статутнымі мэтамі, калі яна не стварае лішак сродкаў, субсідыі з дзяржаўнага бюджэту, членскія ўнёскі (аб'яднанні). | 21% | АГС абавязаны плаціць ПДВ на прыбыткі ад эканамічнай дзейнасці, калі іх гадавы абарот перавышае 1 000 000 чэшскіх крон (36 500 еўра). | (1) Юрыдычныя асобы могуць адымаць да 10% ад падаткаабкладаемага прыбытку на ахвяраванні болей за 2000 чэшскіх крон (72 еўра); (2) фізічныя асобы могуць адымаць да 15% ад падаткаабкладаемага прыбытку, калі сума ахвяраванняў перавышае 2% ад падатковай базы ці раўняецца як найменей 1000 чэшскіх крон (36 еўра). |
| **Эстонія** | 0%. Калі даход не размяркоўваецца. | Вызваляюцца ад падаходнага падатку, калі іх даход не размяркоўваецца, а выкарыстоўваецца для статутных мэт. | 20% | АГС вызваляюцца ад агульнага падатку, калі гадавы абарот ад паставак падаткаабкладаемых тавараў або паслуг не перавышае 16 000 еўра. Паслугі, якія некамерцыйнае аб'яднанне аказвае сваім членам бескаштоўна або за членскія ўнёскі, не абкладаюцца ПДВ. | Так, для ахвяраванняў АГС, якія маюць статус грамадска карысных. Для асобных ахвярадаўцаў, могуць адлічвацца ахвяраванні ў памеры да 5% ад агульнага даходу ахвярадаўцаў, але не больш за 1920 еўра. Для карпаратыўных ахвярадаўцаў агульная сума ахвяраванняў не можа перавышаць 3% плацяжоў, пералічаных на працягу года ў фонд заработнай платы, або 10% ад разліковага прыбытку за апошні фінансавы год. |

| Краіна | Стаўка падаходнага падатку | Вызваленне ад падаходнага падатку | Агульная стаўка ПДВ | Вызваленне ад ПДВ | Падатковыя ільготы для ахвярадаўцаў |
|---|---|---|---|---|---|
| **Літва** | 15% | Даход ад дзейнасці, звязанай са статутнай дзейнасцю. Да 7250 еўра даходу ад нестатутнай эканамічнай дзейнасці таксама не абкладаецца падаткам. | 21% | Сацыяльныя паслугі, паслугі ў галіне аховы здароўя, адукацыі, культуры і спорту, а таксама паслугі, якія прадстаўляюцца арганізацыямі грамадзянскай супольнасці сваім членам, і даходы, атрыманыя ў працэсе дабрачынных мерапрыемстваў, вызваляюцца ад выплаты ПДВ. Да астатніх відаў дзейнасці прымяняецца агульная стаўка ПДВ у памеры 21%. | Юрыдычныя асобы могуць адняць падвойную суму ахвяраванняў і да 40% ад падаткаабкладаемага прыбытку. |
| **Польшча** | 18% | Падаткам не абкладаюцца даходы, накіраваныя на мэты, пералічаныя ў арт. 24 (1) Закона «Аб сацыяльным забеспячэнні і добраахвотнай працы». Акрамя таго, ад падатковага падатку вызваляюцца арганізацыі, статутныя мэты якіх пералічаны ў арт. 17 (1), (4), (5) Закона «Аб падатку на даходы карпарацый». | 23% | Поўны спіс тавараў і паслуг, якія не абкладаюцца ПДВ, прадугледжаны арт. 43 Закона «Аб ПДВ». Гранты, якія надаюцца АГС для дасягнення статутных мэт, вызваляюцца ад выплаты падаткаў. | Фізічныя асобы маюць права ўтрымліваць да 6%, а юрыдычныя асобы — да 10% падаткаабкладаемага даходу на ахвяраванні арганізацыям, якія ажыццяўляюць грамадска карысную дзейнасць, у адпаведнасці з Законам «Аб сацыяльным забеспячэнні і добраахвотнай працы», незалежна ад таго, ці мае арганізацыя статус грамадска карыснай. |

| Краіна | Стаўка падаходнага падатку | Вызваленне ад падаходнага падатку | Агульная стаўка ПДВ | Вызваленне ад ПДВ | Падатковыя ільготы для ахвярадаўцаў |
|---|---|---|---|---|---|
| Расія | 20% | «Паступленні на пэўныя мэты», пералічаныя ў арт. 251 (2) (1) Падатковага кодэкса. | 18% | Прадастаўленне сродкаў грамадскаму аб'яднанню і фонду на бязвыплатнай аснове не падлягае абкладанню ПДВ, калі актывы перадаюцца для рэалізацыі статутных мэт АГС і не звязаны з якой-небудзь камерцыйнай дзейнасцю (Падатковы кодэкс, арт. 39 (3) (3)). Акрамя таго, бескаштоўнае прадастаўленне тавараў або паслуг (за выключэннем падакцызных тавараў), прадстаўленых у сувязі з ажыццяўленнем дабрачыннай дзейнасці, таксама вызваляецца ад выплаты ПДВ. | Падатковыя вылікі ў памеры 25% ад агульнага падаткаабкладаемага даходу фізічнай асобы ўжываюцца выключна ў сувязі з ахвяраваннямі фізічных асоб. |
| Славакія | 22% | Даходы ад членскіх унёскаў, субсідый, грантаў, ахвяраванняў, статутнай дзейнасці і даходы ад механізму падатковага прызначэння. | 20% | Віды дзейнасці, якія не абкладаюцца ПДВ, пералічаныя ў раздзелах 28–39 Закона «Аб ПДВ». Паслугі, якія прадстаўляюцца аб'яднаннямі ў абмен на членскія ўнёскі, вызваляюцца ад ПДВ, калі яны не разглядаюцца як канкурэнтаздольныя на рынку. | Не |

| Краіна | Стаўка падаходнага падатку | Вызваленне ад падаходнага падатку | Агульная стаўка ПДВ | Вызваленне ад ПДВ | Падатковыя ільготы для ахвярадаўцаў |
|---|---|---|---|---|---|
| **Швецыя** | 22% | Калі АГС выконваюць патрабаванні, прадугледжаныя пад. 7 (арт. 3–6 і арт. 10) Закона «Аб падаходным падатку»: (A) даходы ад дзейнасці, звязанай са статутнымі мэтамі аб’яднання, (B) даходы ад дзейнасці, якая традыцыйна з’яўляецца крыніцай фінансавання добраахвотнай працы або (C) даходы ад валодання маёмасцю, якія належыць аб’яднанню. | 25% | Віды дзейнасці, вызваленыя ад падаходнага падатку, таксама вызваляюцца ад выплаты ПДВ. | Прыватныя асобы маюць права на падатковы вылік у памеры 25% ад сумы ахвяравання да максімальнай сумы ў памеры 1500 крон (161 еўра). Каб прэтэндаваць на падатковы вылік, ахвярадаўцы абавязаны зрабіць ахвяраванні на агульную суму 2000 крон (214 еўра) як найменей і кожнае асобнае ахвяраванне павінна складаць як найменей 200 шведскіх крон (22 еўра). |
| **Украіна** | 18% | АГС могуць атрымаць статус непрыбытковасці ў падатковых органах. У гэтым выпадку яны будуць вызваленыя ад падаходнага падатку без абмежаванняў па сумах. Магчыма спрошчаная сістэма падаткаабкладання без выплаты падаходнага падатку. | 20% | У выпадку аказання бескаштоўных паслуг і бескаштоўнага ахвяравання тавараў ПДВ не выплачваецца. Дабрачынныя фонды вызваленыя ад ПДВ. Магчыма спрошчаная сістэма падаткаабкладання без выплаты ПДВ. | Юрыдычныя асобы-рэзідэнты і фізічныя асобы-рэзідэнты маюць права на падатковы вылік у памеры да 4%. |

*Табліца 4*

**Абавязкі зарэгістраваных АГС**

| Краіна | Форма арганізацыі | Абавязкі па справаздачы/Орган | Дадатковыя абавязкі/Орган |
|---|---|---|---|
| Чэхія | *Аб'яднанне* | У цэлым абавязак падаваць штогадовую справаздачу ў органы ўлады адсутнічае. | АГС абавязаны зарэгістравацца ў якасці платніка ПДВ і падаць падатковую дэкларацыю па ПДВ, калі гадавы абарот ад эканамічнай дзейнасці перавышае 1 000 000 крон (36 500 еўра), у падатковы орган. Калі АГС маюць не вызваленыя ад падатку даходы, яны абавязаны прадставіць дэкларацыю аб падаходным падатку ў падатковы орган. |
| | *Мэтавы фонд* | | |
| Эстонія | *Некамерцыйнае аб'яднанне* | Штогадовая справаздача па заканчэнні фінансавага года/Рэгістратар. | Абавязак рэгістрацыі ў якасці плацельшчыка ПДВ, калі гадавы абарот ад пастаўкі падаткаабкладаемых тавараў або паслуг перавышае 16 000 еўра, у падатковым органе. |
| | *Фонд* | Штогадовая справаздача па заканчэнні фінансавага года (абавязковы аўдыт, калі даходы або актывы перавышаюць 15 000 еўра)/Рэгістратар. | Некамерцыйныя аб'яднанні і фонды, якія маюць статус грамадска карысных, дадаткова абавязаны падаваць справаздачу аб грамадска карыснай дзейнасці ў Падатковa-мытны дэпартамент. |
| Літва | *Аб'яднанне* | Справаздача аб выкананай працы (разам з фінансавай справаздачай)/Рэестр юрыдычных асоб. | Фінансавая справаздача/Падатковыя органы.<br>Інфармацыя аб усіх новых супрацоўніках, адпачынках па дагляду за дзіцём, аб скасаванні дагавораў і г. д./Савет Дзяржаўнага фонду сацыяльнага страхавання (СГФСС). |
| | *Дабрачынны і спонсарскі фонд* | Справаздача аб выкананай працы (разам з фінансавай справаздачай)/Рэестр юрыдычных асоб. | |
| | *Грамадская ўстанова* | Справаздача аб выкананай працы (разам з фінансавай справаздачай)/Рэестр юрыдычных асоб. | |

| Краіна | Форма арганізацыі | Абавязкі па справаздачы/Орган | Дадатковыя абавязкі/Орган |
|---|---|---|---|
| **Польшча** | ***Аб'яднанне*** | Гадавая фінансавая справаздача/Нацыянальны судовы рэестр. | Гадавая фінансавая справаздача/Падатковыя органы.<br>Гадавая падатковая справаздача/Падатковыя органы.<br>Арганізацыі, якія маюць статус грамадска карысных, абавязаны падаць асобную фінансавую справаздачу і справаздачу аб дзейнасці/Міністэрства сацыяльнага забеспячэння. |
| **Польшча** | ***Фонд*** | Гадавая справаздача аб дзейнасці і фінансавая справаздача/Міністр, вызначаны судовым рэестрам. | |
| **Расія** | ***Грамадская арганізацыя***<br>***Фонд*** | Афіцыйная справаздача па форме ОН0001 і форма спрошчанай гадавой фінансавай справаздачы ОН0002/Міністэрства юстыцыі ці афіцыйная заява аб адсутнасці замежнага фінансавання і ўзроўні даходаў ніжэй за 3 млн. рублёў, а таксама апавяшчэнне аб працягу дзейнасці;<br>Бухгалтарская справаздача/Падатковыя органы.<br>Фонды публікуюць штогадовую справаздачу аб наяўных актывах. | Справаздача аб дзейнасці і складзе кіруючых органаў у адпаведнасці з пададзенай формай справаздачнасці два разы на год — да 15 студзеня і да 15 ліпеня/Міністэрства юстыцыі.<br>Фінансавая справаздача і бухгалтарская справаздача па выкарыстанні ўсіх актываў у папярэднім квартале, у тым ліку актываў, атрыманых з замежных крыніц, на штоквартальнай аснове — да 15 студзеня, 15 красавіка, 15 ліпеня, 15 кастрычніка)/Міністэрства юстыцыі.<br>Гадавая аўдытарская справаздача — не пазней за 15 красавіка года, наступнага за справаздачным годам/Міністэрства юстыцыі. |
| **Славакія** | ***Аб'яднанне*** | Няма абавязку падаваць штогадовую справаздачу. | Зарэгістравацца ў якасці плацельшчыка ПДВ у адпаведным падатковым органе і падаць падатковую дэкларацыю па ПДВ, калі яе гадавы абарот не вызвалены ад падаходнага падатку і перавышае 49 790 еўра/Падатковыя органы.<br>Калі АГС атрымліваюць даход, не вызвалены ад падаходнага падатку, яны абавязаны падаць дэкларацыю аб падаходным падатку. |
| **Славакія** | ***Неінвестыцыйны фонд*** | Абавязак падаваць штогадовую фінансавую справаздачу. Справаздача падлягае аўдыту, калі гадавы абарот перавышае 165 969 еўра/афіцыйная публікацыя у Камерцыйным бюлетэні. | |

| Краіна | Форма арганізацыі | Абавязкі па справаздачы/Орган | Дадатковыя абавязкі/Орган |
|---|---|---|---|
| **Швецыя** | ***Добраахвотнае аб'яднанне*** | Справаздача пра выплату грашовых сродкаў або наданні ільгот асобам, якім-небудзь чынам звязаным з аб'яднаннем (напрыклад, супрацоўнікам)/Падатковы орган Швецыі.<br>Справаздача па выплаце агульнага падатку на заробак (arbetsgivaravgift) і сацыяльныя выплаты/Падатковы орган Швецыі. | Добраахвотнае аб'яднанне, актывы якога перавышаюць 1,5 млн. шведскіх крон (160 468 еўра), абавязана весці бухгалтарскі ўлік.<br>Добраахвотнае аб'яднанне, якое ажыццяўляе эканамічную дзейнасць, абавязана весці бухгалтарскі ўлік. |
| | ***Фонд*** | Фонды, актывы якіх перавышаюць 1,5 млн. шведскіх крон (160 468 еўра), фонды, якія ажыццяўляюць эканамічную дзейнасць, а таксама фонды, створаныя дзяржавай або муніцыпалітэтамі, абавязаны падрыхтоўваць гадавую фінансавую справаздачу за кожны фінансавы год, які ўключае справаздачу аб дзейнасці, справаздачу аб даходах і выдатках, бюджэтны баланс і заўвагі. Дробныя фонды абавязаны прадстаўляць выпіску са сваіх рахункаў. | Штогадовая падатковая дэкларацыя ў падатковую інспекцыю;<br>Кожны фонд, які абавязаны падаваць штогадовую справаздачу, павінен аплачваць штогадовае назіранне ў залежнасці ад віду фонду;<br>Усе фонды абавязаны аплачваць штогадовы збор за справаводства: (A) 425 шведскіх крон (46 еўра), калі кошт актываў фонду на канец папярэдняга фінансавага года перавышае 1,5 млн. шведскіх крон (160 468 еўра); (B) 200 шведскіх крон (22 еўра) для астатніх фондаў. |
| **Украіна** | ***Грамадская арганізацыя*** | Штогадовая фінансавая справаздача з падрабязнай інфармацыяй аб даходах і выдатках. | Уся дакументацыя павінна захоўвацца на працягу 5 гадоў. |
| | ***Дабрачынны фонд*** | Гадавая фінансавая і статыстычная справаздача;<br>У рамках гадавой фінансавай справаздачы дабрачынныя фонды павінны весці бухгалтарскую справаздачу/Справаздачу аб эканамічнай дзейнасці;<br>Статуты могуць прадугледжваць дадатковыя справаздачы ахвярадаўцам ў дачыненні да выкарыстання прадастаўленых імі сродкаў. | Уся дакументацыя павінна захоўвацца на працягу 5 гадоў. |

*Табліца 5*

**Унутранае кіраванне АГС**

| Краіна | Абавязковыя органы АГС | | | |
|---|---|---|---|---|
| | **Форма арганізацыі** | **Вышэйшы орган** | **Орган кіравання** | **Іншыя органы** |
| **Чэхія** | ***Аб'яднанне*** | Вышэйшы орган кіравання (Агульны сход) | Орган, прадугледжаны Статутам (індывідуальны або калектыўны) | Кантрольны камітэт, арбітражная камісія ці іншыя органы, вызначаныя Статутам. |
| | ***Мэтавы фонд*** | | Адміністрацыйная камісія | Назіральны савет або кантралёр. |
| **Эстонія** | ***Некамерцыйнае аб'яднанне*** | Агульны сход членаў аб'яднання | Праўленне (калегіяльны орган або адзіны дырэктар) | |
| | ***Фонд*** | Назіральны савет | Праўленне | |
| **Літва** | ***Аб'яднанне*** | Агульны сход членаў | Выканаўчы орган (аднаасобны або калегіяльны) | Рэвізійная камісія, калі прадугледжана Статутам. |
| | ***Дабрачынны і спонсарскі фонд*** | Агульны сход удзельнікаў | Выканаўчы орган (аднаасобны або калегіяльны) | Савет або Рэвізійная камісія, калі прадугледжана Статутам. |
| | ***Грамадская ўстанова*** | Агульны сход удзельнікаў | Адміністрацыя | Камітэт або Савет, калі прадугледжана Статутам. |
| **Польшча** | ***Аб'яднанне*** | Агульны сход членаў аб'яднання/дэлегаваны сход | Праўленне | Унутраны рэвізійны орган/грамадска карысныя АГС абавязаны мець прадугледжаны заканадаўствам калегіяльны рэвізійны або назіральны орган, асобны ад органа праўлення і не падсправаздачны яму ў рамках унутранага аўдыту і нагляду. |
| | ***Фонд*** | | Кіруючы орган | Назіральны орган не з'яўляецца абавязковым/грамадска карысныя АГС абавязаны мець прадугледжаны заканадаўствам калегіяльны рэвізійны або назіральны орган, асобны ад органа кіравання і не падсправаздачны яму ў рамках унутранага аўдыту і нагляду. |

| Краіна | Абавязковыя органы АГС | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Форма арганізацыі | Вышэйшы орган | Орган кіравання | Іншыя органы |
| Расія | *Грамадская арганізацыя* | Агульны сход удзельнікаў | Выканаўчы дырэктар, старшыня | Праўленне, савет, прэзідыум (не абавязкова) |
| | *Фонд* | Апякунскі савет | | |
| Славакія | *Аб’яднанне* | Унутранае кіраўніцтва вызначана Статутам | | |
| | *Неінвестыцыйны фонд* | Савет дырэктараў | Адміністратар | |
| Швецыя | *Добраахвотнае аб’яднанне* | Агульны сход | Орган праўлення | |
| | *Фонд* | | «Уласнае кіраванне» — адна або больш фізічных асоб ствараюць праўленне. «Суправаджальнае кіраванне» — фонд кіруецца юрыдычнай асобай у якасці заснавальніка. | |
| Украіна | *Грамадская арганізацыя* | Агульны сход | Выканаўчы дырэктар, старшыня | Кантралюючы орган (не абавязкова) |
| | *Дабрачынны фонд* | Агульны сход | Выканаўчы дырэктар, старшыня | Назіральны савет (для дабрачынных фондаў, колькасць удзельнікаў якіх болей за 10). |

*Табліца 6*

**Супрацоўнікі і члены арганізацыі**

| Краіна | Форма арганізацыі | Ці маюць замежныя грамадзяне права з'яўляцца удзельнікамі/членамі кіраўніцтва арганізацыі? | Ці існуе патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў арганізацыі? | Ці існуе патрабаванне наяўнасці бухгалтара? |
|---|---|---|---|---|
| Чэхія | *Аб'яднанне* | Так | Не | Не |
| | *Мэтавы фонд* | Так | Не | Не |
| Эстонія | *Некамерцыйнае аб'яднанне* | Так, толькі члены праўлення павінны быць пастаяннымі рэзідэнтамі Эстоніі | Не | Не |
| | *Фонд* | | Не | Не |
| Літва | *Аб'яднанне* | Так | Не | Не |
| | *Дабрачынны і спонсарскі фонд* | Так | Не | Не |
| | *Грамадская ўстанова* | Так | Не | Не |
| Польшча | *Аб'яднанне* | Так | Не | Не |
| | *Фонд* | Так | Не | Не |

| Краіна | Форма арганізацыі | Ці маюць замежныя грамадзяне права з’яўляцца удзельнікамі/ членамі кіраўніцтва арганізацыі? | Ці існуе патрабаванне наяўнасці штатных супрацоўнікаў арганізацыі? | Ці існуе патрабаванне наяўнасці бухгалтара? |
|---|---|---|---|---|
| Расія | *Грамадская арганізацыя* | Так | Не | Так |
| | *Фонд* | Так | Не | Так |
| Славакія | *Аб’яднанне* | Так | Не | Не |
| | *Неінвестыцыйны фонд* | Так | Не | Не |
| Швецыя | *Добраахвотнае аб’яднанне* | Так | Не | Толькі ў выпадку наяўнасці пералічаных умоў |
| | *Фонд* | Так | Не | |
| Украіна | *Грамадская арганізацыя* | Так | Не | Так |
| | *Дабрачынны фонд* | Так | Не | Так |

***Еўрапейскі Цэнтр Некамерцыйнага Права (ECNL)*** — гэта вядучы навукова-даследчы цэнтр у сферы правоў грамадзянскай супольнасці, які месціцца ў Будапешце. Яго місія заключаецца ў садзейнічанні стварэнню спрыяльных прававых і падатковых умоў для грамадзянскай супольнасці ў Еўропе і за яе межамі. Падтрымка экспертаў ЕЦНП зрабіла непасрэдны і станоўчы ўплыў на больш за 50 законаў аб АГС у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, а таксама краінах СНД. Прынцыпы працы ЕЦНП грунтуюцца на ўдзеле, празрыстасці і мясцовай прыналежнасці.

**http://www.ecnl.org/**

***Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый*** — найбуйнейшае ў Беларусі аб'яднанне няўрадавых дэмакратычных арганізацый і грамадзянскіх ініцыятыў, якое спрыяе развіццю дэмакратыі і прававой дзяржавы. Асамблея была заснавана ў 1997 г. і зараз аб'ядноўвае болей за 300 арганізацый. Асамблея спрыяе развіццю сяброўскіх арганізацый і фармiраванню грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Дзяржаўныя органы тры разы адмаўлялі ў рэгістрацыі Асамблеі, і цяпер яна зарэгістравана за мяжой, у суседняй Літве.

**http://www.belngo.info/**

***Цэнтр прававой трансфармацыі (Lawtrend)*** — некамерцыйная арганізацыя, мэтай якой з'яўляецца павышэнне прававой культуры, арганізацыя асветніцкай, аналітычнай і даследчай дзейнасці ў галіне права. Ад 1996 г. арганізацыя працуе ў галіне свабоды асацыяцый, доступу да інфармацыі і правасуддзя, абароны грамадскіх інтарэсаў; прапагандуе агульнапрызнаныя прынцыпы міжнароднага права і садзейнічае развіццю прававой супольнасці і прававых тэхналогій.

**http://www.lawtrend.org/**